19 снежня 2014 | № 48 (417)

Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Замарозкі Новага года

стар. 3

## ПАДПІШЫСЯ!

Паважаныя чытачы! Да Новага года вы яшчэ можаце падпісацца на «Новы час» па старых коштах!

Наступны нумар выйдзе 9 студзеня 2015 года!

6 **ЭКАНАМІЧНА ШЭРЫ 2014-ТЫ**

Абвал курса расійскага рубля за апошнія тыдні не надаў стабільнасці нашай эканоміцы

9–24 **Літаратурная Беларусь**

5 **ДЛЯ КАГО ПАМЕЖНЫЯ ПРАВІЛЫ?**

Паездка ў Вільню ператварылася для пенсіянераў з вёскі Лоша Астравецкага раёна ў абвінавачванне і штраф

# Віншуем! Зычым!



# З Калядамі і Новым годам!

*Кожны раз, калі мы расстаемся са старым годам, мы імкнёмся развітацца назаўжды з усім горшым, што ў ім было, што здарылася з намі, з нашымі роднымі і блізкімі.*

*І марым забраць з сабой усё лепшае, чым год нас адарыў. З разлікам на працяг у годзе новым, у надзеі дадаць да старога добрага новае лепшае.*

*Такое жыццё. Такія мы. Спакон вякоў.*

*Такія простыя і зразумелыя нашы чаканні-жаданні. І тады, калі ўсё ў нас добра, і калі не зусім.*

*З лёгка-іранічным спадзяваннем на навагоднi цуд. І прытоена-сур'ёзным спадзяваннем на літасць лёсу, на ўсмешку фартуны, на ўдачу і поспех.*

*З гэтага і зыходзім у сваіх пажаданнях нашым чытачам на новы 2015 год ад Раства Хрыстова.*

*Простых і шчырых.*

- *Быць здаровымі!*
- *Жыць у міры, ніколі не зведаць вайны і не пабачыць на сваёй зямлі аніякіх чужынскіх узброеных «зялёных чалавечкаў»!*
- *Ладу і дабрабыту ў сям'і!*
- *Працы па душы і інтарэсе!*
- *Сяброў і добразычлівых поруч!*
- *Поспехаў і ўдачы!*

# Гісторыкаў звальняюць з універсітэта

**У Гродзенскім дзяржаўным універсітэце не працягнулі кантракт з доктарам гістарычных навук Святланай Куль-Сяльвестравай і кандыдатам гістарычных навук Генадзем Семенчуком.**

Раней з Гродзенскага універсітэта былі звольненыя выкладчыкі Іна Соркіна, Вячаслаў Швед, Андрэй Чарнякевіч, Ігар Кузьмініч, Вольга Сабалеўская, Настасся Фрода.

Прафесару Святлане Куль-Сяльверставай не працягнулі кантракт з-за «малой публікатарскай дзейнасці». Хоць за апошнія пяць гадоў выходзіць чацвёртая ейная кніга. Яна чытала ўнікальны для Беларусі курс беларускага скорапісу і беларускай гістарычнай храналогіі. Нядаўна выкладчыца аддала ў друк манаграфію «Беларускі час. Летазлічэнне ў Беларусі са старажытнасці да сучаснасці». Гэта першая кніга па гістарычнай храналогіі ў беларускай гісторыяграфіі.

Генадзь Семянчук — аўтар навучальнага дапаможніка «Археалёгія Беларусі» (у суаўтарстве з С. Піваварчыкам) і дзясяткаў навуковых артыкулаў. Працаваў ва ўніверсітэце з 1991 года. Ён атрымаў заказны ліст, у якім паведамлялася, што з ім спыняюць працоўныя адносіны па заканчэнні тэрміну кантракту на падставе пункту 2 артыкулу 35 Працоўнага кодэксу. І больш ніякіх тлумачэнняў.

**Паводле Белсат і Беларускае Радыё Рацыя**

# Андрэй Бандарэнка: «Усё, што ні робіцца, — да лепшага»

Міхаіл ПАСТУХОЎ

**Такі лейтматыў ліста Андрэя Бандарэнкі з Бабруйскай папраўчай калоніі №2. Ён па-ранейшаму ўтрымліваецца ў камеры штрафнога ізалятара, куды быў змешчаны па яго заяве ў мэтах забеспячэння асабістай бяспекі.**

Гэта было абумоўлена тым, што нехта пусціў «дэзу» пра яго зносіны з прадстаўнікамі ніжэйшай турэмнай касты. У камеру паставілі тумбачку, дадалі святло, правялі радыё. Там Андрэй Бандарэнка будзе знаходзіцца да 12 студзеня.

Бандарэнку наведаў адвакат. Пасля адхілення касацыйнай скаргі яны рыхтуюць скаргу ў парадку нагляду. Ці пачуе іх аргументы Вярхоўны суд? Наўрад ці. Хоць, на маю думку, Бандарэнка — без віны вінаваты.

Зараз Бандарэнка праходзіць працэс адаптацыі ў сваёй «хаце» без вокнаў і дзвярэй. Ён перадае прывітанне Людміле Гразновай, якая была на ўсіх судовых пасяджэннях і публічна выказала сваю нязгоду з прысудам.

Я заклікаў Андрэя трымацца і верыць у вызваленне. Думаю, што пасля рэабілітацыі ён быў бы добрым кандыдатам на пасаду дырэктара турэмнага ведамства ў новай Беларусі.

Паважаныя чытачы газеты «Новы час», напярэдадні Новага года выкажыце салідарнасць з Андрэем Бандарэнкам. Ён шмат зрабіў для таго, каб распавесці праўду пра сітуацыю ў месцах утрымання зняволеных. Напішыце навагоднюю паштоўку, і яму будзе цяплей у халоднай камеры штрафнога ізалятара (адрас: 213800, Магілёўская вобласць, г. Бабруйск, вуліца Сікорскага, 1, ВК-2, атрад 14. Бандарэнку Андрэю Валер'евічу).

Нагадаем, былы кіраўнік праваабарончай арганізацыі «Платформ Інавэйшн» Андрэй Бандарэнка быў затрыманы 1 красавіка 2014 года за «асабліва злоснае хуліганства». 12 жніўня судом Кастрычніцкага раёна Мінска быў асуджаны на 4 гады пазбаўлення волі ў калоніі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. У залі суда да яго была прыменена амністыя, якая скараціла тэрмін пакарання на 1 год.

21 кастрычніка Мінгарсуд, пасля разгляду касацыйных скаргаў Андрэя Бандарэнкі і яго абаронцы, пакінуў у сіле прысуд суда Кастрычніцкага раёна.

Некаторыя праваабаронцы лічаць справу Бандарэнкі правакацыяй, а яго — асуджаным па палітычных матывах.

# Кнігарні «логвінаЎ» — штраф 1 мільярд рублёў

**Своеасаблівы падарунак пад Новы год падкінула ўлада пісьменнікам і аматарам прыгожага пісьменства. Бо «логвінаЎ» — культавы інтэлектуальны адрас беларускай сталіцы — апынуўся пад пагрозай знікнення.**

Ўканцы верасня 2013 года ўлады пазбавілі Ігара Логвінава ліцэнзіі на выдавецкую дзейнасць за выданне альбома «Прэс-фота Беларусі 2011». Дакумент падпісала на той час намесніца міністра інфармацыі Лілія Ананіч (на сёння — міністр інфармацыі).

Але на тым ціск не скончыўся, але быў перанакіраваны ўжо на кнігарню «логвінаЎ».

У пачатку снежня 2014 года сюды завітала пазапланавая падатковая праверка. Памяшканне апячаталі, а дакументацыю ўзялі на вывучэнне. Па выніках праверкі кнігарні вынеслі суровае пакаранне за працу без ліцэнзіі Міністэрства інфармацыі: аштрафавалі амаль на 1 мільярд рублёў — такой была сума продажаў кніг за год. Спаганяць гэтыя грошы будуць праз суд.

Уласнік кнігарні Ігар Логвінаў адзначыў, што за год ён восем разоў звяртаўся ў Мінінфарм па ліцэнзію. І кожны раз яму адмаўлялі. Адна з адмоў была звязана з тым, што Ігар няправільна ўказаў паштовы індэкс.

Пакуль што кнігарню распячаталі, і яна вярнулася да працы ў ранейшым рэжыме.

**Паводле nn.by**

# Новы «Закон аб СМІ»: Крок улева, крок управа — блакуем сайт

**Міністэрства інфармацыі будзе абмяжоўваць доступ да сайтаў, якія на працягу года атрымалі два і больш пісьмовыя папярэджанні за распаўсюд інфармацыі, якая парушае нормы заканадаўства.**

Дэпутаты Палаты прадстаўнікоў у двух чытаннях прынялі папраўкі ў «Закон аб СМІ». Іх прадставіла міністр інфармацыі Лілія Ананіч. Абноўлены закон, па словах міністра, пачне дзейнічаць ужо з 1 студзеня 2015 года.

Асаблівай увагі патрабуюць змены, якія будуць датычыцца інтэрнэт-СМІ. Папраўкі не прадугледжваюць рэгістрацыі інтэрнэт-СМІ, але Міністэрства інфармацыі будзе мець паўнамоцтвы сачыць за тым, каб змест матэрыялаў адпавядаў дзейнаму заканадаўству.

Абавязак не дапускаць распаўсюду інфармацыі, змест якой супярэчыць закону, будзе ўскладзены на ўладальніка інфармацыйнага рэсурсу.

Абвяржэнне інфармацыі, распаўсюджанай у інтэрнэце, мусіць адбывацца на тым самым інфармацыйным рэсурсе не пазней, чым у дзень, які надыходзіць за днём патрабавання аб абвяржэнні. Інфармацыя, якая абвяргаецца, мусіць быць выдалена з рэсурсу.

Таксама папраўкі прадугледжваюць абмежаванні долі замежнага капіталу ў фондзе СМІ — з 30 працэнтаў да 20.

Будзе ўведзены дзяржаўны рэестр распаўсюднікаў СМІ.

Па словах Ліліі Ананіч, «змены ў сферы інтэрнэту стануць дзейсным інструментам рэалізацыі дзяржаўнай інфармацыйнай палітыкі», — цытуе міністра БелТА.

# Марына Адамовіч сустрэлася з мужам

**У магілёўскай турме жонка экс-кандыдата ў прэзідэнты Мікалая Статкевіча Марына Адамовіч сустрэлася з мужам.**

«Спадзяюся, што ў гэтай турме гэта было апошняе спатканне. Праз менш чым месяц у Міколы заканчваецца трохгадовы тэрмін знаходжання ў турме, і ён мусіць быць пераведзены ў якую-небудзь з калоній. Гэта было традыцыйнае двухгадзіннае спатканне, якое я маю два разы на год. На маё ўражанне, Мікола не змяніўся, ён такі ж самы, як і быў. Вельмі ясныя і светлыя вочы. Няма ніякіх расчараванняў, стомленасці, зняверанасці. Як і раней ён упэўнены ў сябе, вельмі моцны і мужны з абсалютна дакладным разуменнем таго, што ён робіць, дзеля чаго і на што яшчэ ён гатовы пайсці дзеля сваіх перакананняў. Наконт прашэння ад памілаванні, Мікола сказаў, што нельга адной паперкай перакрэсліць усё жыццё, і гэтага ён не зробіць ніколі», — паведаміла пра сустрэчу Марына Адамовіч «Радыё Свабода».

Жонка палітыка расказала, што яны таксама абмяркоўвалі ідэю вылучэння Статкевіча кандыдатам ў прэзідэнты.

« Мы шмат гаварылі пра ідэю наконт вылучэння яго адзіным кандыдатам у прэзідэнты ад дэмсілаў, якія ўжо, на жаль, падзяліліся на дзве калоны. Але я гэта спачатку ўсё ж хлопцам перадам, каго гэта тычылася, а потым ужо прэсе. Мікола рыхтуецца да этапу. Больш маральна. Ён добра разумее, што такія рэчы звычайна заканчваюцца ўзмацненнем ціску, і ён да гэтага гатовы. Гаварыў пра Украіну і Расію», — сказала Адамовіч.

**Паводле svaboda.org**

# Паўла Левінава аштрафавалі на 25 базавых велічынь

**Праваабаронца хадайнічаў, каб судовы працэс перанеслі з-за яго хваробы. Але суддзя Чыгуначнага раёна Віцебска Алена Цыганкова палічыла гэта спробай зацягнуць судовы працэс.**

Павел Левінаў стаў апошнім удзельнікам фотасесіі «з птушкамі і клеткамі», якога асудзілі за парушэнне заканадаўства аб масавых мерапрыемствах. Падставай для завядзення сямі адміністрацыйных спраў па арт. 23.34 КаАП за «несанкцыянаванае пікетаванне» стала фотасесія групы віцебскіх журналістаў і грамадскіх актывістаў на фоне будынка з малюнкам — выявамі клетак, з якіх вылятаюць зробленыя з газеты птушкі.

Ніводнага хадайніцтва Паўла Левінава суд так і не задаволіў. У прыватнасці, Павел Левінаў хадайнічаў, каб да справы далучылі фотаздымкі з сапраўднага пікету, які ён праводзіў у лістападзе 2013 года на тэрыторыі таго самага Чыгуначнага раёна.

«Гэтыя фотаздымкі таксама былі ўзятыя ў інтэрнэце. Але інтарэсу ў міліцыі яны чамусьці не выклікалі. За мінулы год у заканадаўстве не змянілася анічога, але інтарэс у міліцыі прачнуўся: падпалкоўнік Аляксандр Каліноўскі, супрацоўнік абласнога міліцэйскага ўпраўлення, напісаў рапарт у Чыгуначны РАУС, каб падначаленыя разабраліся з асобамі, у дзеяннях каторых былі «заўважаны прыкметы правапарушэння». Адкуль раптам узяўся такі надзвычайны інтарэс да фотаздымкаў журналістаў і грамадскіх актывістаў, я не ведаю. Але ён ёсць, гэта несумненна! Маёр Аляксандр Рыбакоў, які складаў пратаколы на ўдзельнікаў фотасесіі, таксама не змог нічога патлумачыць з гэтае нагоды. Толькі паўтараў адно і тое ж: што мы, калі фатаграфаваліся, выказвалі «свае грамадска-палітычныя інтарэсы, бо ў нас прыгнятаюць незалежную прэсу», — распавёў Левінаў.

Праваабаронца атрымаў 2 заўвагі ад суддзі, якая заявіла, што ён сваімі хадайніцтвамі зацягвае працэс. Спадарыня Цыганкова так спяшалася яго завяршыць, што не дазволіла нават дзвюххвілінны перапынак, каб Левінаў аднёс скаргу старшыні суда ў суседні кабінет.

Пачынаючы з 28 лістапада, за гэту фотасесію былі пакараныя ўжо шмат актывістаў. Па 20 базавых велічыняў штрафу атрымалі журналісты Алена Сцяпанава (суддзя Дзяніс Губанаў), Кастусь Мардзвінцаў (суддзя Алена Цыганкова), Зміцер Казакевіч (суддзя Алена Цыганкова). 18 базавых велічыняў атрымалі актывістака аргкамітэта па стварэнні партыі БХД Алена Шабуня (суддзя Дзяніс Губанаў). А каардынатара Таццяна Севярынец — 25 базавых велічыняў (суддзя Алена Цыганкова). Гэтая ж суддзя пакарала трыма суткамі арышту жыхара Віцебска Пятра Бярлінава — выпадковага мінака, які далучыўся да фотасесіі.

**Паводле spring96.org**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Замарозкі Новага года

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Усё ж добрая гэта традыцыя — сустракаць Новы год, спакойна скончыўшы ўсе нетэрміновыя справы. Каб з чымсьці людзі змірыліся, для чагосьці ўжо прызвычаіліся, і нешта адчулі прыемнае. І каб «неабавязковыя» праблемы не перашкаджалі святам.**



«Мінсктранс» усё ж падвысіў тарыфы на праезд для мінчанаў. З 14 снежня праезд у наземным транспарце і метро каштуе Br4,5 тысячы. Зараз трэба чакаць такога ж павышэння і па рэгіёнах. Для Мінску гэта было зроблена ў апошні момант — у нядзелю, 14 снежня. З 15 снежня павінен быў уступаць у дзеянне «мараторый Лукашэнкі» на павышэнне коштаў перад Новым годам. Так што паспелі ўскочыць, як кажуць, літаральна ў апошні вагон.

Гэта значыць, што напачатку 2015 года падвышэнняў кошту праезду ўжо не адбудзецца. Праўда, і падвышаць іх аніякай падставы няма. Матэматыкі падлічылі, што за гэты год праезд у транспарце падаражэў у 1,5 разы. Між тым, налічаная сярэднямесячная зарплата з пачатку года вырасла толькі на 19,8%, дызельнае паліва для аўтобусаў падаражэла на 19,4% — да Br11.700, тарыфы на электраэнергію для тралейбусаў індэксаваліся па змене курсу долара да беларускага рубля, то бок таксама не вышэй 20%. Такім чынам, цвердзіць, што грамадзяне карыстаюцца «датацыйным» транспартам — проста смешна.

Прыемную навіну напачатку ўсялякіх грыпозных сезонаў зрабіла Мінздароўя. Яно забараніла павышаць кошты на лекі. «Міністэрства аховы здароўя даручае прыняць вычарпальныя меры па недапушчэнні росту адпускных і рознічных цэн на лекавыя сродкі, вырабы медыцынскага прызначэння і іншыя спажывецкія тавары», — гаворыцца ў паведамленні міністэрства. Праўда, на які тэрмін спыняецца рост цэнаў, не ўдакладняецца.

Пра «замарожванне» паведаміў і міністр архітэктуры і будаўніцтва Анатоль Чорны ў эфіры беларускага тэлебачання. Ён публічна паабяцаў, што кошт будаўніцтва жылля з дзяржпадтрымкай у 2015 годзе будзе замарожаны. «Мы замарозім у снежні 2014 цэны, і падстаў павялічваць іх не будзе. Цэны будуць стабільныя ўвесь 2015 год», — заявіў Чорны. Варта зазначыць, што за 9 месяцаў бягучага года кошт будаўніцтва квадратнага метра жылля вырас на 30%.

Абяцанкі, канешне, справа добрая. Але як можна замарозіць кошт будаўніцтва жылля, калі раптам, напрыклад, з-за крызісу ў Расіі, падаражэюць будаўнічыя матэрыялы? Але гэта нас хваляваць не павінна — Чорны паабяцаў, хай ён і выконвае.

Затое ў новую фазу ўвайшла гандлёвая вайна паміж Расіяй і Беларуссю. Расія завярнула 6 тон тварагу ААТ «Мінскі малочны завод №1», які нібыта ўвозіўся туды з парушэннямі. Памочнік кіраўніка Упраўлення Рассельгаснагляду па Бранскай і Смаленскай абласцях Святлана Земчанкава патлумачыла, што ў ветэрынарным сертыфікаце дата выпрацоўкі не адпавядала заяўленай на маркіроўцы прадукцыі. Яшчэ адну партыю тварагу таго ж вытворцы смаленскія спецыялісты не дапусцілі ў Разанскую вобласць.

Але нашы знайшлі, чым адказаць. Нядаўна Аляксандр Лукашэнка надаў галоўнаму беларускаму санітарнаму ўрачу Ігару Гаеўскаму паўнамоцтвы Анішчанкі. Рашэнне доктара не прымусіла доўга чакаць. Гаеўскі прыпыніў абарачэнне на тэрыторыі краіны шэрагу прадуктаў харчавання з Расіі. У адрозненне ад Анішчанкі, тычыцца гэта сапраўды не вельмі карысных для здароўя прадуктаў — так званых «хуткарастваральных» макаронаў «Залатая локшына», «Лагман па-дунганску» і «Біг Ланч» вытворчасці расійскай кампаніі «БіяФуд». Прычына — неадпаведнасць дадзеных харчовых прадуктаў нормам нацыянальнага заканадаўства ў галіне санітарна-эпідэміялагічнага дабрабыту насельніцтва і тэхнічнаму рэгламенту Мытнага саюза «Аб бяспецы харчовай прадукцыі» (па мікрабіялагічных паказчыках (па змесце бактэрый групы кішачнай палачкі, дрожджаў і плесені).

Зазначу пры гэтым, што ўкраінская «Мівіна» не пацярпела, і цалкам адпавядае беларускім стандартам якасці.

Карацей, што б там ні казаў Аляксандр Рыгоравіч пра прынцыпы здаровага харчавання, бульба з мясам і салёнымі агуркамі для беларусаў — самае тое, што трэба.

А каб мы разбіраліся, хто нам прадае бульбу, агуркі і мяса, пра гэта паклапаціўся сам Аляксандр Рыгоравіч. Калі няма больш тэрміновых справаў, чаму б не заняцца «пераназовам вуліцаў»? Вось кіраўнік дзяржавы і даручыў аптымізаваць структуры арганізацый.

Звяртаючыся да прадстаўнікоў мясцовай вертыкалі ўлады, Лукашэнка падкрэсліў: «Мы вельмі захапіліся ў свой час яшчэ пры распадзе Савецкага Саюза і пабеглі за імпартнымі назвамі: холдынгі і іншае. У нас былі вытворчыя аб'яднанні, гэта тыя ж холдынгі, я так разумею? Навошта іх было пераймяноўваць?! Усё павінна быць проста і зразумела — як у сельскай гаспадарцы, так і ў прамысловасці», — сказаў кіраўнік дзяржавы.

«У нас і ў сельскай гаспадарцы было ўсё проста і зразумела: калгас, саўгас — усё. Цяпер там чорт нагу зломіць! Я ужо не кажу пра назвы. За назву таго ж калгаса, прадпрыемства, барацьба ішла ў краіне. На вышэйшым палітычным узроўні прымаліся рашэнні. Цяпер старшыня калгаса захацеў абзацаў яго мацерным словам — абзаве, і ўсё будзе нармальна. Усё гэта трэба прыводзіць у нармальны зразумелы стан да пачатку новай пяцігодкі», — адзначыў Лукашэнка.

Сапраўды, што гэта мы панаствaралі ўсялякіх ААТ, ЗАТ, ЗТАА, ТАА і іншых? Ніхто не глядзіць на гэтыя літары! Трактарны завод — ён і ёсць трактарны завод, і не трэба там выдумляць нешта! Ёсць прапанова пайсці яшчэ далей: увогуле скасаваць назвы прадпрыемстваў. Навошта нам гэта? Хай сасіскі будуць «зробленыя на мясакамбінаце», бульба «вырашчаная ў калгасе», а машына «сабраная на заводзе». І ўсё. Усім усё зразумела.

Дарэчы, тым самым мы скончым усялякую «харчовую вайну» з Расіяй. Захоча яна ўвесці санкцыі супраць беларускай каўбасы — а як? Яна ж зробленая на мясакамбінаце, а на якім — загадка. Не пускаюць у Расію тварог, а ён зроблены на заводзе, і самі разбірайцеся, дзе. І расіянам прыйдзецца альбо цалкам закрыць мяжу з «сінявокай», скасаваць усялякія Мытныя і Еўразійскія саюзы (на што ніхто не пойдзе), альбо пускаць да сябе ўсю беларускую прадукцыю, без аніякіх там санкцый да асобных прадпрыемстваў. Хіба не прыгажосць?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Станіслаў Шушкевіч



**Першаму кіраўніку незалежнай Беларусі на гэтым тыдні споўнілася 80 гадоў.**

Віншуем з юбілеем, Станіслаў Станіслававіч. А чытачам прапануем тры цытаты з інтэрв'ю юбіляра з нагоды гэтай даты.

«Больш за ўсё мяне радуе, што яшчэ ў бытнасць народным дэпутатам змог дапамагчы нявінна асуджаным людзям. Я пісаў звароты ў Генеральную пракуратуру СССР і, уявіце сабе, па большасці з іх было прынята станоўчае рашэнне».

«Лічу, што падпісаныя мной Белавежскія пагадненні — найважнейшы акт. Савецкі Саюз спыніў існаванне, Расія прызнала незалежнасць Беларусі».

«Што тычыцца вываду ядзернай зброі, то тут адбілася мая фізічная адукацыя. Я выразна ўсведамляў, што Беларусь знаходзіцца на першым месцы ў свеце па колькасці ядзернага ўзбраення, якое прыпадае на аднаго чалавека і на адзінку плошчы. Мы былі самай ядзернай дзяржавай у свеце і пры гэтым закладніцай Расіі. Заўважце, усё зброя была на паверхні. Калі б пачынаўся які-небудзь канфлікт, то зброю, якая ўяўляе пагрозу для ўсёй Еўропы, трэба было неадкладна знішчаць. Верагоднасць таго, што ядзерны ўдар будзе нанесены па нашай краіне, была вельмі вялікай, а гэта б прывяло да гібелі ўсёй беларускай нацыі».

## Мітрапаліт Павел



**Мітрапаліт Мінскі і Заслаўскі Павел, патрыяршы экзарх усяе Беларусі, не адмаўляецца ад планаў вывучыць беларускую мову, але яму перашкаджае тое, што ў краіне ўсе гавораць па-руску.**

«Калі я сюды прыехаў, то адразу назапасіўся кнігамі і падручнікамі. Думаў: усё, цяпер буду вучыць. І ў мяне не прапала гэта жаданне, але ёсць вялікая спакуса. Усе гавораць па-руску. І думаеш: пазней, потым...» — сказаў мітрапаліт.

Ён успомніў аб сваім служэнні ў іншых краінах, дзе яму трэба было гаварыць па-англійскі. Па словах архірэя, ён проста вымушаны быў гэта зрабіць, калі трапіў у цалкам англамоўнае асяроддзе. «Вось тут я вымушаны быў і гаварыць па-англійску, і служыць, і прапаведаваць», — адзначыў прадстаяцель БПЦ.

«Абавязкова буду займацца беларускай мовай, таму што я бачу, як людзі рэагуюць, калі з імі гаворыш на роднай мове», — адзначыў экзарх.

## Вікторыя Азаранка



**Беларуска ўвайшла ў дзясятку самых папулярных тэнісістак свету.**

Рэйтынг на афіцыйным сайце WTA апублікавала прэс-служба Жаночай тэніснай асацыяцыі.

Адзначым, што беларуская тэнісістка Вікторыя Азаранка завяршыла сезон на 31-м радку сусветнага рэйтынгу, увайшла ў дзясятку самых папулярных тэнісістак мінулага сезона.

Самай папулярнай стала румынская спартсменка Сымона Халеп, якая скончыла сезон на трэцім радку сусветнага рэйтынгу WTA. На другім радку папулярнасці — амерыканская тэнісістка, першая ракетка свету Серэна Уільямс. Тройку лідараў замкнула расійская спартсменка, другая ракетка свету Марыя Шарапава.

Дзясятка самых папулярных тэнісістак мінулага сезона выглядае так: Сымона Халеп (Румынія); Серэна Уільямс (ЗША); Марыя Шарапава (Расія); Эжэн Бушар (Канада); Агнешка Радваньска (Польшча); Ці На (Кітай); Ана Іванавіч (Сербія); Каралін Вазняцкі (Данія); Петра Квітава (Чэхія); Вікторыя Азаранка (Беларусь).

Будзем спадзявацца, што сезон–2015 для Вікторыі атрымаецца больш удалым, чым сезон амаль скончанага года.

а | Азбука паліталогіі

# «Крымнаш» і аборт мадэрнізацыі



Сяргей НІКАЛЮК

**Займацца прагнозамі — справа няўдзячная. Хто ў здаровым розуме рызыкнуў бы прадказаць, што Год гасціннасці па факце апынецца Годам злому шматгадовых трэндаў, прычым не толькі лакальных?**

Падзея, што змяніла свет, адбылася 1 сакавіка. У гэты дзень прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін унёс у Савет Федэрацыі прапанову аб выкарыстанні ўзброеных сіл РФ на тэрыторыі Украіны. Сенатары адпаведнае рашэнне прынялі аднагалосна і без абмеркавання.

За лічаныя тыдні намаганнямі дзяржаўнай прапаганды расійскае грамадства было пераведзена са стану палітычнай апатыі ў стан палітычнага ўзбуджэння, у якім яно знаходзіцца і зараз.

Узбуджэнне расіян перадалося Беларусі і спарадзіла Анамалію–2014: рост рэйтынгу адзінага палітыка (АП) на фоне імклівага падзення тэмпаў росту рэальных даходаў насельніцтва (15% за 2013 год і 1,5% за студзень-кастрычнік 2014-га).

Пасля «Крымнаш» прадказаць нараджэнне Анамаліі–2014 было ўжо нескладана, бо існаваў прэцэдэнт «маленькай пераможнай вайны» Расіі ў Грузіі, якую многія беларусы ў жніўні 2008 года ўспрынялі як сваю «маленькую пераможную вайну».

Якім шляхам прасцей за ўсё падняць рэйтынг? Паказаць людзям, што «мы іх зрабілі!». У спорце, мастацтве і, вядома ж, на вайне. «Крымнаш» і баявыя дзеянні на ўсходзе Украіны большасць беларусаў успрыняла ў трактоўцы расійскіх тэлеканалаў. Для 65% суайчыннікаў яна апынулася пераканаўчай!

## Больш за 10 тысяч квадратных метраў

Снежная лавіна ў гарах можа сысці і ад гучнага крыку. Але крык — гэта дэтанатар. Для таго, каб ён спрацаваў, на схіле павінна назапасіцца крытычная маса снегу. У грамадстве, зразумела, назапашваецца не снег, а незадаволенасць.

Нішто не з'яўляецца з нічога, і нішто не знікае бясследна. Цэны растуць. Нацыянальныя валюты абясцэньваюцца. Факты, якія сведчаць пра няздольнасць патэрналісцкай дзяржавы выконваць свае абавязацельствы, генеруюцца бесперапынна. Падстаў для росту сацыяльнага напружання хапала і ў «тлустыя» нулявыя гады, а ў «худыя» 2010-я хуткасць негатыўных працэсаў істотна пабольшала.

Незадаволенасць назапашвалася ў грамадстве, але не стварала праблем для ўлады да таго часу, пакуль яна была дыфузнай (ёсць такое паняцце ў сацыялогіі). Але колькасць мае ўласцівасць спараджаць новую якасць, і дзеля таго, каб дыфузная незадаволенасць не стала перадумовай непажаданых падзей, Крэмль вырашыў каналізаваць яе і перанесці на знешніх ворагаў: украінскіх «фашыстаў», Захад і «пятую калону».

Усё, сказанае вышэй, у першую чаргу датычыцца Расіі. У рамках Саюзнай дзяржавы яна з'яўляецца бясспрэчным лідарам па сацыяльнай няроўнасці. Беларусу, які нават не абдзелены ад прыроды фантазіяй, не так проста ўявіць загарадныя палацы дзяржчыноўнікаў плошчай больш за 10 тысяч квадратных метраў. Але гэта расійская штодзённасць, якой запоўнены інтэрнэт.

Тым не менш тыповы прадстаўнік беларускай «большасці» на «Крымнаш» адрэагаваў, як і належыць носьбіту імперскай ментальнасці. Больш за тое, увесь пазітыў ад «поспехаў» расійскай улады па абароне «сваіх», ён перанёс на АП і яго палітыку.

Насуперак папулярным у апазіцыйным асяроддзі паданням, беларусы прадэманстравалі масавы попыт на ідэнтыфікацыі сябе з «вялікай дзяржавай», тым самым у чарговы раз пацвердзіўшы, што тып «чалавека савецкага» працягвае паспяхова існаваць унутры беларускай мадэлі.

## Функцыя асобы і сітуацыі

Перавод грамадства ў стан падвышанай эмацыйнасці актуалізаваў архаічныя пласты свядомасці і культуры. Архаічныя — у сэнсе, прымітыўныя паводле механізму кансалідацыі (вакол аўтарытарнага лідара, супраць знешніх і ўнутраных ворагаў).

Анамалія–2014 — гэта перамога ірацыянальнага пачатку ў чалавеку над рацыянальным. Як тут не ўспомніць папулярную тэорыю палітыка-дзелавых цыклаў, якая тлумачыць масавую падтрымку палітычнага статус-кво рацыянальным разлікам беларусаў. Апошняе дзесяцігоддзе сацыялогія ўпэўнена пацвярджала залежнасць узроўню даверу АП ад тэмпаў росту рэальных даходаў насельніцтва. Дык чаму ж адбыўся збой?

Каб знайсці адказ на лёсавызначальнае для змагароў з рэжымам пытанне, звернемся да вядомай гісторыі пра дрэннага танцора, якому пастаянна нешта замінае. Прычына яго нязграбны рухаў для нас (іншых назіральнікаў) відавочная — ён не ўмее танцаваць. Між тым, любыя паводзіны ўяўляюць сабой функцыю асобы і сітуацыі.

Нашу схільнасць празмерна раздзімаць значнасць уласных асабістых вартасцяў і адначасова няздольнасць прызнаць важнасць сітуацыі пры аналізе ўчынкаў іншых людзей амерыканскі псіхолаг Лі Рос назваў «фундаментальнай памылкай атрыбуцыі».




Чаму на рост рэальных даходаў беларусы адказваюць ростам даверу АП? Стандартны адказ — таму што яны рацыянальныя. Нестандартны ж адказ заключаецца ў тым, што АП з другой паловы 2003 года меў магчымасць падтрымліваць сітуацыю, пры якой тэмпы росту даходаў насельніцтва апярэджвалі тэмпы росту прадукцыйнасці працы. Што заставалася рабіць беларусу ў такой сітуацыі? Натуральна, прыняць яе.

Але сітуацыя змянілася. Этап апераджальнага росту даходаў насельніцтва ў гісторыі беларускай мадэлі завяршыўся натуральным чынам. Безумоўна, асяроддзе прыхільнікаў АП ад гэтага не стане большым, але і чакаць масавага дэзерцірства я б не раіў. У «тлустыя» гады мы неяк развучыліся называць АП «бацькам», а дарма. Звернемся да яго афіцыйнай біяграфіі, размешчанай на сайце president.gov.by «А.Г. Лукашенко дорожит поддержкой людей и гордится тем, что в народе его называют «батька» — так всегда называли у нас людей авторитетных, мужественно защищавших интересы семьи и общины».

Залатыя словы! У такой сціслай форме перадаць дадзяржаўны прынцып успрымання ўлады я б не здолеў. Не той узровень інтэлекту. Але калі першая асоба дзяржавы ўспрымаецца як кіраўнік патрыярхальнай сям'і, то гэта азначае, што грамадства (частка яго, зразумела) паводле ўзроўню сваёй грамадзянскай сталасці так і не выйшла з часоў паклікання варагаў. Пра якую рацыянальнасць тады гаворка? Якая можа быць сувязь паміж даходамі дамачадцаў і аўтарытэтам мужнага абаронцы іх інтарэсаў?

## Адзінства праз селекцыю

Падзеі, якія адбыліся пасля «Крымнаш», дырэктар «Левада-цэнтра» Леў Гудкоў назваў чарговым «абортам мадэрнізацыі» ў Расіі. Тут трэба даць тлумачэнне. Устойлівае развіццё не варта зводзіць да эканамічнага росту. Апошні ёсць толькі «пабочны» вынік структурна-функцыянальнай дыферэнцыяцыі грамадства, вылучэння адносна аўтаномных падсістэм і груп, ускладнення камунікацый паміж імі.

Аднак усё пералічанае стварае пагрозу для сістэмы аўтарытарнага панавання, што не здольная да ўзнаўлення ў асяроддзі незалежных палітычных і эканамічных суб'ектаў. Таму для захавання сваіх уладных пазіцый кіруючая група вымушана спрашчаць структуру грамадства. «Улада, — адзначае Леў Гудкоў, — у сітуацыях, калі грамадства набірае досыць сур'ёзны рэсурс аўтаномнасці і самадастатковасці, здзяйсняе аперацыю «рэдукцыі складанасці», пазбаўляючы грамадскі патэнцыял усякага сэнсу, каштоўнасці і значэння».

Вобраз «адзінага народа» (чытай, недыферэнцаванае грамадства) праходзіць чырвонай ніткай праз усе знакавыя выступы АП. Асноўны сродак для дасягнення такога роду адзінства — селекцыя. Г. зн. механізм гуртавання праз аддзяленне ўсяго сацыяльна чужога.

У сталінскія часы сацыяльна чужыя фізічна знішчаліся, чым і дасягалася адзінства «новай гістарычнай супольнасці». У сучасных умовах сацыяльна чужых маргіналізуюць, а іх інтарэсы (у першую чаргу, палітычныя) адкрыта ігнаруюць. У беларускім парламенце, як вядома, адсутнічаюць фракцыі, што наглядна дэманструе эфектыўнасць мясцовых селекцыянераў.

«Аборт мадэрнізацыі» ў Беларусі быў завершаны яшчэ ў канцы 1990-х гадоў, у Расіі — у бягучым годзе, для чаго і спатрэбілася арганізаваць «Крымнаш». Такім чынам, атрымалася ліквідаваць чарговую нестыкоўку палітычных сістэм унутры Саюзнай дзяржавы.

## Пад знакам дэкрэта

АП, які пазбавіўся або загнаў у гета ўсіх прэтэндэнтаў на статус аўтаномных суб'ектаў, застаўся сам-насам з уладнай «вертыкаллю». Яму б радавацца, але быўшы па сумяшчальніцтве ўладальнікам УП «Беларусь», ён вымушаны канкураваць за месца пад сонцам не толькі з іншымі ўладальнікамі УП, але і з прамыслова развітымі краінамі з рынкавай эканомікай.

Што ім можа супрацьпаставіць уладная «вертыкаль», акрамя сваёй здольнасці перадаваць хвалі лаяльнасці? Рэалізоўваць палітычныя і адміністрацыйныя рашэнні яна развучылася яшчэ ў гады застою пры «дарагім Леанідзе Ільічы».

Падмацую ўласны недавер да кіраўнічага патэнцыялу беларускай «вертыкалі» адпаведным выказваннем АП: «Исполнительская дисциплина у нас находится на крайне низком уровне — притом по всем статьям и на всех этажах власти».

Звярніце ўвагу, у прыведзеным цытаце гаворка ідзе пра выканальніцкую дысцыпліну. Без яе — няма спрэчкі — далёка не паедзеш. Але які паверх улады (скарыстаюся тэрміналогіяй АП) адказвае за выпрацоўку рашэнняў? Пагадзіцеся, цікавае пытанне. Хацелася б атрымаць на яго кваліфікаваны адказ.

2014 год прайшоў у АП пад знакам падрыхтоўкі дэкрэта «Пра ўзмацненне патрабаванняў да кіруючых кадраў і работнікаў арганізацый». У красавіцкім пасланні ён абяцаў падпісаць «суровы, жорсткі, але справядлівы» дакумент «у бліжэйшы час». Такая рэальнасць. Перачытайце цытату. Выканальніцкая дысцыпліна ў Беларусі знаходзіцца на нізкім узроўні на ўсіх паверхах улады, уключаючы самы верхні!

Вось з такім адміністрацыйным патэнцыялам уладная «вертыкаль», чый дабрабыт падтрымліваецца за кошт расійскіх датацый, уступае ў год пікіруючых коштаў на нафту.

# Для каго памежныя правілы?

Сяргей ПУЛЬША

**Праваабаронцы неадназразова заўважалі, што практыка складання адвольных адміністратыўных пратаколаў супраць «палітычных апанентаў рэжыму» непазбежна адаб'ецца і на шараговых грамадзянах. Пра яскравы прыклад гэтага распавёў вядомы астравецкі праваабаронца Іван Крук.**




У вёсцы Лоша Астравецкага раёна жыве сям'я пенсіянераў: Станіслаў Антановіч, інвалід 1 групы па зроку (значыць — сляпы на абодва вока), і ягоная жонка Наталля Філістовіч. Яны маюць машыну, і часцяком ездзяць да родзічаў у Вільню. 17 верасня яны ехалі да сваякоў праз памежны пункт спрошчанага пропуску «Лоша». Там іх папрасілі загнаць машыну "на яму" для дэталёвага агляду.

З «ямай» у Антановіча і Філістовіч адносіны асаблівыя. У верасні 2013 года іх аўто таксама прайшло поўны агляд, і дакументаў гэтага агляду не складалася. Тады памежнікі не знайшлі нічога незаконнага, але пашкодзілі трубку радыятара і зламалі паплавок у паліўным баку. Рамонт абышоўся ў 70 долараў: для пенсіянераў — сума значная.

Таму пенсіянеры запатрабавалі праводзіць агляд па правілах: у прысутнасці панятых і са складаннем акту агляду, каб не было непаразуменняў. Аднак памежнікі павялі сябе дзіўна.

Начальнік змены заявіў, акту дагляду ён складаць не будзе. Потым супрацоўніца памежнай службы сказала, што анулюе візы. Праўда, якім чынам беларускі памежнік можа ануляваць візу, выдадзеную літоўскім консульствам, яна не патлумачыла. Потым той жа начальнік змены паспрабаваў «дамовіцца»: вы праходзіце агляд, а мы вас прапускаем. На гэта Антановіч і Філістовіч пагадзіліся, але толькі са складаннем акту агляду. Начальнік змены ў чарговы раз з гэтым не пагадзіўся. Нарэшце Антановіч адчуў сябе кепска, і сям'я змушаная была вярнуцца дадому.

Якое ж было ў іх здзіўленне, калі яны даведаліся, што на наступны дзень, 18 верасня, на іх былі складзеныя адміністрацыйныя пратаколы за «знявагу службовай асобы пры выкананні ёй службовых абавязкаў»! Прычым, у пратаколах не было сказана, як яны зняважалі памежнікаў і ў сувязі з чым узнік канфлікт.

А 26 верасня на парозе іхняга дома з'явіўся старшы лейтэнант памежнай службы з дзіўнай просьбай. Ён патлумачыў: неабгрунтаваныя пратаколы суд вярнуў «на дапрацоўку». Памежнікі склалі новыя пратаколы, дзе ўжо канкрэтызавалася, што Антановіч у адказ на просьбу праехаць на агляд аўтамабіля, пагражаў памежнікам «даць кулаком у твар» і ўсяляк іх зневажаў. Зневажала памежнікаў і Філістовіч. Лейтэнант прасіў у гэтых пратаколах распісацца. Даволі арыгінальна...

Акрамя таго, паводле пратаколаў, просьба загнаць машыну «на яму» тычылася сляпога Антановіча, а не ягонай жонкі, якая была за рулём. І, дарэчы, як сляпы на абодва вока Антановіч мог пагражаць даць камусьці «ў твар»?

Падпісваць пратаколы Антановіч і Філістовіч адмовіліся ды звярнуліся за дапамогай да Івана Крука.

Разбіральніцтва па іх справе адбылося 24 кастрычніка. Суд Астравецкага раёна адмовіў грамадзянам у выкліку сведкаў і заплюшчыў вочы на парушэнні пры складанні пратаколаў. Суддзя не зацікавіўся адсутнасцю тлумачэнняў, якія павінны даць грамадзяне пры складанні пратаколаў, не прыняў пад увагу, што Антановічу і Філістовіч не былі патлумачаныя правы і абавязкі, не настойваў на запыце дадзеных з камер відэаназірання, задаволіўшыся даведкай, што яны "не працавалі", і галоўнае — ухіліўся ад прававой ацэнкі адмовы памежнікамі складаць пратакол адгляду транспартнага сродку.

Залішне казаць, што сведкамі і пацярпелымі пры разбіральніцтве выступалі выключна супрацоўнікі памежнага пункта пропуска.

У выніку Наталля Філістовіч была аштрафаваная на 3 мільёны 750 тысяч рублёў, а Станіслаў Антонавіч — на 3 мільёны.

**Па законе, памежнік па першым патрабаванні грамадзяніна павінен складаць пратакол агляду, прычым, у двух экземплярах — адзін грамадзяніну, адзін сабе**

Але справаю ўжо займаўся Іван Крук. Ад імя сям'і ён запатрабаваў матэрыялы справы, каб абскардзіць вырак у судзе Гродзенскай вобласці. Аднак (зноўку дзіва!) з суда Астравецкага раёна матэрыялы справы амаль імгненна былі адпраўленыя ў той самы абласны суд, і азнаёміць з імі грамадзянаў для напісання скаргі магчымасці няма! Крук звярнуўся ў абласны суд з папярэдняй скаргай, у якой апісаў сітуацыю. І з абласнога суда матэрыялы справы зноўку адправілі ў суд Астравецкага раёна: на азнаямленне Антановічу і Філістовіч. Але папярэднюю скаргу суд прыняў, адтэрмінаваўшы яе разгляд.

Зразумела, з-за чаго ўзнік канфлікт: з-за адмовы памежнікаў выконваць правілы дагляду аўтамабіля. А вось чаму яны адмовіліся іх выконваць? Па законе, памежнік па першым патрабаванні грамадзяніна павінен складаць пратакол агляду, прычым, у двух экземплярах — адзін грамадзяніну, адзін сабе. Гэта прадугледжваецца менавіта для таго, каб пазбегнуць канфлікту ў выпадку пашкоджання аўто альбо іншых непаразуменняў.

Па меркаванні кіраўніка праваабарончай арганізацыі «Прававая дапамога насельніцтву» (Кіеў, Украіна) Алега Волчака, такія справы ўвогуле не павінны даходзіць да суда.

«Гледзячы па пратаколах, памежнікі не ведаюць адміністрацыйнага працэсу: як, дзе і ў якія тэрміны складаецца пратакол. Ён складаецца ў той жа дзень, калі было здзейснена правапарушэнне, з абвінавачаных бяруцца тлумачэнні, запісваюцца іх пярэчанні, тлумачацца правы на абарону. Калі гэтага не зроблена, згодна з тлумачэннямі Вярхоўнага суда, справа павінна быць закрытая, і ў далейшым у суд не вяртацца, — кажа Волчак. — Відэакамеры на памежным пункце не працавалі? Гэта зона асаблівага кантролю, відэазапіс там вядзецца 24 гадзіны на суткі. Мы ўжо не першы раз бачым, калі камеры «не працуюць» у патрэбны момант. Вырак суду заснаваны толькі на паказаннях зацікаўленых асобаў — памежнікаў. Спасылкі на тое, што сведкаў дапытаць немагчыма, бо яны грамадзяне Літвы, — недарэчныя. У нас з Літвой існуе дамова аб прававой дапамозе: сведкаў могуць дапытаць у Літве без выкліку ў Беларусь, і перадаць іх паказанні ў пісьмовым выглядзе».

Дарэчы, «Прававая дапамога насельніцтву» выпусціла «інфармацыйныя карткі» для жыхароў Астравецкага раёна, дзе напісана, на што маюць права грамадзяне пры пачатку адміністрацыйнай справы. А таксама Волчак прапануе Дзяржаўнаму памежнаму камітэту правесці прафілактычна-адукацыйную працу сваіх сярод работнікаў. Каб яны ведалі не толькі свае правы і абавязкі, але і правы і абавязкі грамадзянаў. «Як праваабаронцы, мы са свайго боку гатовыя паўдзельнічаць у такіх мерапрыемствах», — адзначыў Волчак.

# Паны б'юцца, а ў халопаў...

Сяргей ПУЛЬША

**Кіраўнік дзяржавы падпісаў шматпакутны, тройчы дапрацаваны дэкрэт №5 «Аб узмацненні патрабаванняў да кіруючых кадраў і работнікаў арганізацый». Дакумент атрымаўся якраз згодна з прымаўкай: «Паны б'юцца — у халопаў ілбы трашчаць».**

Згодна з дакументам, на кіраўнікоў ускладаецца персанальная адказнасць за забеспячэнне вытворча-тэхналагічнай, выканальніцкай і працоўнай дысцыпліны, належнае ўтрыманне будынкаў, памяшканняў і абсталявання, захаванне ўмоваў працы работнікаў. За гэта кіраўнікі будуць несці дысцыплінарную адказнасць аж да звальнення. У прынцыпе, яны за гэта былі адказныя і без дэкрэту. Узгадайце, хто адказны ў вашай арганізацыі за супрацьпажарную бяспеку? Адзін з кіраўнікоў, канешне ж.

Дэкрэт усталёўвае забароны і абмежаванні пры прызначэнні на кіруючыя пасады асоб, звольненых па дыскрэдытуючых абставінах. Забаронена прызначаць на пасады, уключаныя ў кадравыя рэестры кіраўніка дзяржавы, урада і выканкамаў усіх узроўняў асоб, звольненых па дыскрэдытуючых абставінах, на працягу пяці гадоў. Прызначэнне ж «датэрмінова» на адказную пасаду будзе ажыццяўляцца са згоды раённага, гарадскога выканкама, мясцовай адміністрацыі. Той, хто абмінуў працэдуру ўзгаднення, і пра гэта стала вядома, будзе падлягаць безумоўнаму звальненню з-за парушэння правілаў прыёму на працу.

Патрабаванні дэкрэту павінны распаўсюджвацца на работнікаў і кіраўнікоў як дзяржаўных, так і прыватных арганізацый.

А вось шараговым працоўным прысвечаная большая частка дэкрэту. У прыватнасці, кіраўнікі арганізацый атрымаюць права істотна змяняць умовы працы работніка ў сувязі з абгрунтаванымі вытворчымі, арганізацыйнымі або эканамічнымі прычынамі, папярэдзіўшы работніка не менш чым за 7 каляндарных дзён (у цяперашні час — месячны тэрмін).

За парушэнне дысцыпліны кіраўнік зможа дэпрэміраваць працоўных на тэрмін аж да дванаццаці месяцаў. Прымяняцца дэпрэміраванне будзе і ў дачыненні да ўжо прызначаных прэмій. Таксама кіраўнік зможа неадкладна адхіляць работнікаў ад працы і, галоўнае, не аплачваць гэты перыяд адхілення.

Кіраўнік атрымае права звальняць работнікаў за парушэнне дысцыпліны, якое пацягнула шкоду ў памеры, больш трох месячных заробкаў па рэспубліцы (з паведамленнем прафсаюза). Магчымасць звальнення работніка па гэтай падставе з'яўляецца правам кіраўніка, а не яго абавязкам.

Кіраўнік арганізацыі зможа ўтрымліваць з зарплаты работніка ў кошт пакрыцця шкоды да трох яго сярэднямесячных заробкаў без падачы пазову ў суд (у цяперашні час — аднаго месячнага заробку).

Карацей, атрымалася, як заўсёды. Замест узмацнення адказнасці кіраўнікоў мы атрымалі чарговыя абмежаванні правоў працоўных. Чаго толькі вартае звальненне работніка без узгаднення, а проста «з паведамленнем» прафсаюзу. Адзінае, на што можна спадзявацца, — што жорсткасць законаў у нашай краіне кампенсуецца неабавязковасцю іх выканання.

# Эканамічна шэры



Генадзь КЕСНЕР

**Бягучы год не стаў катастрафічным для Беларусі ў эканамічным плане. Хоць негатыўныя моманты і мелі месца. Асабліва ў снежні далі пра сабе ведаць чарговыя супярэчнасці з «саюзнай» Расіяй, якая распачала новую гандлёвую вайну са сваёй «апошняй хаўрусніцай». Абвал курса расійскага рубля за апошнія тыдні таксама не надаў стабільнасці нашай эканоміцы.**

Нават міністр эканомікі Беларусі Мікалай Снапкоў прызнаў, што наўпрост ці ўскосна айчынны валавы ўнутраны прадукт напалову залежыць ад Расіі. Што не ёсць добра, асабліва ў сённяшніх варунках. Скарачаецца экспарт беларускай прадукцыі ў Расію, а тое наша, што там яшчэ прадаецца, ідзе нам жа ва ўрон з прычыны катастрафічнага зніжэння курса расійскай валюты. Застаецца і праблема затаваранасці складоў беларускіх прадпрыемстваў вырабленай, але не запатрабаванай рынкам прадукцыяй.

І ўсё ж сітуацыя, як адзначаюць назіральнікі, магла быць і горшай. Таму і называюць яны адыходзячы 2014 год мала выразным, нават шэрым. Але дамо слова самім эканамічным экспертам, якія пагадзіліся прааналізаваць «Новаму Часу» асноўныя вынікі года ды зрабіць некаторыя прагнозы на год наступны.




## Яўген Прэйгерман, дырэктар па даследаваннях Ліберальнага клуба



Па вялікім рахунку, гэты год нас нікуды не пасунуў. Хоць сёлета з'явіліся больш шырокія абмеркаванні, і нават усё больш высокіх чыноўнікаў кажуць пра тое, што нам патрэбныя глыбокія і паслядоўныя рэформы. Нават пачалі дзейнічаць нейкія пляцоўкі для абмеркавання гэтых рэформаў. Але на практыцы нічога сур'ёзнага не адбылося, і атрымліваецца, што ў плане эканомікі год прайшоў «упустую».

Сімвалічнай кропкай гэтага года сталася падпісанне Аляксандрам Лукашэнкам Дэкрэта №5, таму што гэты дэкрэт вытрыманы ў стылі рашэнняў, якія прымаліся па дрэваапрацоўцы, калі ратаваць сістэму спрабуюць з дапамогаю тых жа метадаў, якімі яе ж і дабілі. Гэты дэкрэт робіць больш жорсткай адказнасць кіроўных кадраў як дзяржаўных, гэтак і прыватных прадпрыемстваў, і адначасова надае ім больш паўнамоцтваў па звальненнях, пакараннях і прэміраваннях супрацоўнікаў. Так што ўсё працягваецца ў такім вось адміністратыўным рэчышчы.

**Гэты год прайшоў практычна гэтак жа, як і ўсе мінулыя. Адзінае, што нарастае чаканне нейкага непазбежнага краху. Грошай для падтрымання статус-кво патрабуецца ўсё больш, а расійскія магчымасці на вачах скарачаюцца**

Простаму грамадзяніну ў эканамічным плане гэты год практычна не запомніцца нічым, такія гады вельмі хутка забываюцца. Звычайна запамінаюцца гады вялікіх крызісаў. Дарэчы, не выключана, што ўжо на пачатку наступнага года могуць узнікнуць сюрпрызы, праз якія ён і запомніцца.

Хоць, параўнальна з мінулымі гадамі, прыбыткі людзей сёлета практычна не раслі (раней быў рост пад 20% за год пры росце вытворчасці ў 3%), але і не было падзенняў, так што гэты год «шэры».

Але ў наступным годзе, на вялікі жаль, нас, хутчэй за ўсё, чакаюць нават не «шэрасць», але ўсплёскі «чорнасці». Бо незразумела, як на тле таго, што зараз адбываецца ў той жа Расіі, атрымаецца захаваць хаця б той узровень дабрабыту, які цяпер ёсць у Беларусі. Там ужо дэвальвацыя больш за 60%, а ў нас істотна менш, і нашы страты на расійскім рынку ўзнікаюць проста на роўным месцы. Так што варта настройвацца на непрыемныя рэчы, і гэта нягледзячы нават на прэзідэнцкія выбары, якія адбудуцца ў наступным годзе. Бо нават у Беларусі няма тых чараўнікоў, якія могуць рабіць цуды насуперак усім эканамічным законам.

Калі разглядаць 2014 год вачыма ўладатрымальнікаў, то для іх ён быў складаным. Нягледзячы на тое, што ўдалося пазбегнуць вялікіх зрываў, а па некаторых паказчыках нават былі пэўныя поспехі, да прыкладу, дамоўленасці з Расіяй (пра тых ж нафтавых мытах), тым не менш, улады ўбачылі вялікія эканамічныя праблемы і зразумелі, што сацыяльна-эканамічная мадэль, якая практыкавалася ў нас многія гады, аказалася нежыццяздольнай. Трэба пачынаць рабіць нешта сур'ёзнае. Плюс становішча ва Украіне, плюс Расія — агромністыя выклікі і напружанні, створаныя Расіяй. Таму для беларускіх уладаў гэты год быў вельмі хваравітым у плане ўнутраных перажыванняў.

## Леў Марголін, эканаміст, намеснік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі



З пункту гледжання эканаміста самае вялікае ўражанне ад гэтага года — хуткае крушэнне расійскага «эканамічнага цуду». Пасля іх дэфолту 1998 года складвалася ўражанне, што Расія — гэта магутная эканоміка, якая ледзьве не сямімільнымі крокамі рухаецца наперад. Але дастаткова было зніжэння коштаў на нафту, а таксама ўвядзення фінансавых санкцыяў з боку Захаду, каб гэтая эканоміка практычна абвалілася. То бок, можна зрабіць высновy, што за апошнія 15 гадоў уладары Расіі практычна нічога не зрабілі, каб адысці ад сыравіннай залежнасці. А больш ніякіх вялікіх сюрпрызаў гэты год не прынёс, калі не лічыць палітычных падзеяў, падзеяў ва Украіне, што таксама вельмі важна.

А ў Беларусі гэты год прайшоў практычна гэтак жа, які і ўсе мінулыя. Адзінае, што нарастае чаканне нейкага непазбежнага краху. Грошай для падтрымання статус-кво патрабуецца ўсё больш і больш, расійскія магчымасці падтрымкі на вачах скарачаюцца, а магчымасці Захаду да нас, на вялікі жаль, не наблізіліся. Усе ўпэўнены, што нешта павінна адбыцца, але вось калі — пытанне застаецца адкрытым. Гэта зноў-такі звязана з падзеямі ў Расіі, бо да гэтага моманту мы заўжды былі ўпэўненыя, што якія б у нас гандлёвыя ці інфармацыйныя войны не надараліся, Расія нас усё роўна не кіне, нікуды не падзенецца, і ёй давядзецца раскашэльвацца. А вось цяпер у гэтым упершыню ўзнік сумнеў.

Нечага асабліва станоўчага ў нашай эканоміцы сёлета не было. Былі некаторыя рухі ў правільным накірунку, былі спробы стрымаць грашовую масу і не дапусціць яе разрастання, былі спробы захаваць прывабнасць рублёвых дэпазітаў, але ўсё гэта як лячэнне сур'ёзнай хваробы абязбольваючымі сродкамі.

У наступны год наш урад уваходзіць з трывожнымі чаканнямі. Што тычыцца нашага насельніцтва, то большая яго частка ўжо прызвычаілася спадзявацца толькі на ўласныя высілкі. І тым, хто разлічвае на ўласныя сілы, у каго ёсць запас на «чорны дзень», які захоўваецца не ў беларускіх банках, а ў СКВ і ў надзейным месцы, падстаў для сур'ёзнай занепакоенасці не маюць.

А вось тым, хто прывык разлічваць на дзяржаву, ды і самой дзяржаве ў наступным годзе давядзецца складаней, чымсьці ў годзе бягучым. Пытанне, дзе ўзяць грошы, для тых і другіх стане надзённым. Не выключана, што нас чакае паўтор падзеяў 2011 года, бо мы знаходзімся ў сітуацыі, якую шахматысты называюць цугцвангам. Які ход ні зрабі, усё роўна атрымліваецца кепска. Зрабі дэвальвацыю — будзе дрэнна насельніцтву, але такім чынам можна было б хаця б выратаваць эканоміку. Калі яе не рабіць — абрынецца наш экспарт. Выбар дастаткова складаны, але яго давядзецца рабіць.

## Сяргей Чалы, эканамічны аналітык



Усё, што мы назіралі сёлета ў эканамічным плане, было наступствам рашэнняў, прынятых летась. Нацбанк вырашыў, што трэба прывязацца да долара з невялікім працэнтам паслаблення за месяц, бо таргетаванне да валютнага кошыка правалілася, ніхто так і не зразумеў, што гэта за кошык і які ягоны кошт. То бок, высокая ступень інфляцыйных і дэвальвацыйных чаканняў змусіла прыняць такое рашэнне.

Другая палова бягучага года вызначалася рэзкім ростам курса долара да ўсіх валют свету, тым самым замест пажаданага аслаблення курса беларускага рубля мы атрымалі яго ўдаражанне. Але заўважылі гэтую праблему толькі ў апошнія месяцы, калі пачалі гаварыць пра страты ад курсавых розніцаў па сельскай гаспадарцы, па інвестыцыйных таварах з прычыны вялікай дэбіторскай запазычанасці і гэтак далей. Так што патэнцыял будучай дэвальвацыі толькі ўзрос.

Усё згуляла супраць нас: і рост долара, і падпісанне ды ратыфікацыя дамовы аб стварэнні Еўразійскага эканамічнага саюза. З прычыны падзення коштаў на нафту нават не зразумела, ці атрымае наш бюджэт у наступным годзе тыя 1,5 мільярда долараў нафтавай мыты, якія прадугледжаны дамоўленасцямі з Масквой.

## Што і наколькі даражэла ў бягучым годзе

**Інфляцыя сёлета ўжо перавысіла і першапачатковы (12,5%), і скарэктаваны (17%) прагноз беларускага ўраду. У гадавым вымярэнні (з лістапада 2013 да лістапада 2014) яна ўжо склала 18,3%, а па выніках года, па ацэнках экспертаў, яна можа перавысіць 20–21%.**

Што за гэты перыяд зрабіла найбольшы ўнёсак у разгон цэн і рост інфляцыі?

Паводле дадзеных Белстата, сярод паслугаў найбольш падаражалі дашкольныя ўстановы — 76,7%, паслугі ЖКГ — 44,3%, тэатры — 39,4%, грамадскі транспарт — 35%, а таксама паслугі медыцыны — 30,6%.

Сярод тавараў найбольш вызначыліся бензін, які падаражаў на 25,8%, а таксама лекі — 25,3%.

Што да прадуктаў харчавання, то тут лідарства трымаюць мяса і птушка, кошты на якія ўзляцелі на 36,9%. Далей ідуць алкагольныя напоі — 23,5%, цукар — 23,4%, тытунёвыя вырабы — 22,8%, каўбасы і вяндліны — 21,9%, а таксама сыры — 21%.

Дарэчы, кошты на некаторыя віды садавіны і гароднiны сёлета ніжэйшыя за тыя, што былі год таму. Да прыкладу, хурма гатунку «какі» летась у гэты час каштавала 35–45 тысяч рублёў за кілаграм, а цяпер — 19–25 тысяч. Мандарыны таксама каштуюць 15–25 тысячы, а летась яны абыходзіліся ў 23–35 тысяч за кіло. Не падаражалі яблыкі — як каштавалі айчынныя ці польскія летась 9–15 тысяч за кіло, гэтак каштуюць і сёння.

TV

## 24 СНЕЖНЯ, СЕРАДА

### 1 Беларусь

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00** (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00 Навіны.
**07.05, 08.05** Навіны эканомікі.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.00, 13.00, 16.00** 90 секунд.
**11.05** Меладрама «Шчаслівчык Пашка» (Расія).
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы-3».
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Меладраматычны серыял «На шляху да сэрца» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёну.
**15.25** Камедыйны серыял «Сваты-4» (Украіна).
**16.35** Серыял «Сямейныя меладрамы-3» (Украіна).
**17.30** Беларуская часіна.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 00.10** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладрама «Шчаслівчык Пашка» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Святочная Калядная Імша. Прамая трансляцыя.
**23.45** Калядная служба з Ватыкана. Прамая трансляцыя.
**00.45** Камедыйны серыял «Сваты-4» (Украіна).

### Н

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.55** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.15** «Сам-насам з усімі».
**15.15** «Час пакажа».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «ЗАГС».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Прыгажунчык». Тэлесерыял.
**23.15** «Калядны анёл». Мастацкі фільм..
**01.05** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Мінск і мінчане».
**09.00** «Меладраматычны серыял».
**09.35** «Цэнтральны рэгіён».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Мае цудоўныя..».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Фільм «Школа злодзеяў» (Італія, 1986 г.).
**15.40** «Татальны распродаж».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** Фільм «Жаданне» (Расія, 2009 г.).
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ спорт».
**20.15** Фільм «Майкл» (ЗША, 1996 г.).
**22.15** «Глядзець усім!».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ спорт».
**23.00** «Гарачы лёд».
**23.20** «Сардэчна паскардзіцца».
**23.40** Фільм «Дзённік памяці» (ЗША, 2004 г.).

### 2 Беларусь

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Меладраматычны серыял «Сашка».
**10.10** Беларуская кухня.
**10.45** «Разбуральнікі міфаў». Пазнавальна-забаўляльная праграма (ЗША).
**12.00** Авантурна-камедыйны серыял «Віртуозы» (Вялікабрытанія).
**13.05** Вышэй за дах.
**13.40** Камедыйны серыял «Універ» (Расія).
**14.50** Сямейная камедыя «Дружба народаў» (Расія).
**15.50** Рэпарцёр.
**16.40** Меладраматычны серыял «Сашка» (Украіна).
**17.50** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**18.50** Камедыйны серыял «Універ» (Расія).
**19.55** Сямейная камедыя «Дружба народаў» (Расія). Заключная серыя.
**20.55** Цела чалавека.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Тэлебарометр.
**21.40** Камедыйная меладрама «Шукаю нявесту без пасагу» Расія. 1-я і 2-я серыі.
**23.35** Хачу ў тэлевізар!
**23.40** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**00.10** «Разбуральнікі міфаў». Пазнавальна-забаўляльная праграма (ЗША).

### 3 Беларусь

**07.15** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!» Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.15** «Пан афарміцель». Фантастычная драма (СССР, 1988 г.).
**09.55** «Дыя@блог». «Пра мову».
**10.20** «Вясельны падарунак». Меладрама (СССР, 1982 г.).
**11.40** «Навагоднія вечары ў Маладзечне». Уладзімір Александровіч і яго сябры.
**12.40** Прэм'ера. «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака Аляксея Кузьміча.
**13.05** «Калейдаскоп».
**13.20** «Музеі Беларусі». Музей гісторыі Мінска.
**13.45** «Наперад у мінулае».
**14.10** «Наша спадчына». Пояс караля Стэфанія Баторыя.
**14.25** «Запаведнай сцежкай». Заказнік «Галубіцкая пушча».
**14.50** «Шчасце берагчы». Андрэй Макаёнак.
**15.20** «Дзелавыя людзі». Герой капіталістычнай працы.
**15.40** «Навагодні тыдзень». Сольны канцэрт Ірыны Дарафеевай.
**16.40** «Людзі на балоце. Палеская хроніка». Драма. 6-я серыя (СССР, 1984 г.).
**17.45** «Дыя@блог». «Пра мову».
**18.15** «Свінг белых начэй». Гала-канцэрт Пецярбургскага фестывалю джазу.
**19.10** «Калейдаскоп».
**19.20** «Жанчыны жартуюць усур'ёз». Лірычная камедыя (СССР, 1981 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.00** «Яшчэ кахаю, яшчэ спадзяюся». Меладрама (СССР, 1984 г.).
**22.20** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**22.45** «Навагоднія вечары ў Маладзечне». Зімовы калейдаскоп.
**23.45** Прэм'ера. «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака Аляксея Кузьміча.
**00.10** «Калейдаскоп».

### 5 Беларусь

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Спорт-кадр.
**08.30** Хакей. Чэмпіянат Беларусі. «Металург» (Жлобін) - «Юнацтва» (Мінск).
**10.30** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ. ЦСКА (Расія) - «Цмокі-Мінск» (Беларусь).
**12.10** Козел пра футбол.
**12.30** Біятлон. Этап Кубка свету. Паклюка. Гонка пераследу. Жанчыны.
**13.35** Біятлон. Этап Кубка свету. Паклюка. Гонка пераследу. Мужчыны.
**14.40** Хакей. Чэмпіянат Беларусі. «Нёман» (Гродна) - «ХК Гомель».
**16.40** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Агляд тура.
**17.35** Баскетбол. Еўрачэлендж. «Цмокі-Мінск» (Беларусь) - «Енісей» (Расія).
**19.20** Хакей. КХЛ. «Дынама» (Мінск) - СКА (Санкт-Пецярбург). Прамая трансляцыя.
**21.40** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. «Манчэстэр Сіці» (Англія) - «Баварыя» (Германія).
**23.35** Хакей. «Ароса Чэлендж».
**01.25** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**07.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**08.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Аб'ектыў.
**08.50** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**10.15** Два на два (тэледыскусія).
**10.45** Без рэтушы: «Скрушны лёс», рэпартаж, 2013 г., Беларусь.
**11.00** «Ранча», серыял.
**11.45** Беларусы ў Польшчы.
**12.05** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**12.30** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**13.00** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**13.30** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**14.00** Аб'ектыў.
**14.20** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**15.45** Два на два (тэледыскусія).
**16.15** Без рэтушы: «Скрушны лёс», рэпартаж, 2013 г., Беларусь.
**16.30** «Усё прыдумана Богам», дак. фільм, 2014 г., Беларусь.
**17.00** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): «Наша Доля» і «Наша Ніва».
**17.10** Беларусы ў Польшчы.
**17.25** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**17.55** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Валянцін Акудовіч.
**18.30** Навіны.
**18.40** Агляд медыяў.
**18.45** Каментар эксперта.
**18.50** Стыль.
**18.55** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**19.15** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Слуцкія паясы.
**19.30** Навіны.
**19.35** Свет.
**19.50** Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Навіны.
**20.10** Агляд медыяў.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.30** Навіны.
**20.35** Гарачы каментар.
**20.50** Сальда (эканамічная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.45** Маю права (юрыдычная праграма)..
**22.05** Чорным па белым: Беларуская адукацыя: плюсы і мінусы.
**22.30** «Лонданцы II», серыял.
**23.15** «Ноч святога Мікалая», маст. фільм, 2000 г., Польшча.
**00.10** «Невядомае жыццё Ісуса», дак. фільм, 2009 г., Польшча.
**01.00** «Каляды, Каляды», святочны канцэрт: ч. 1.
**01.25** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**01.55** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**02.15** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Слуцкія паясы.
**02.25** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**02.55** Аб'ектыў.
**02.15** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**04.45** Маю права (юрыдычная праграма)..
**05.05** Чорным па белым.

## 25 СНЕЖНЯ, ЧАЦВЕР

### 1 Беларусь

**07.10** Фантастычная камедыя «Казкі на ноч» (ЗША).
**08.50** Слова Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Камедыя «Адзін дома» (ЗША).
**11.00** Меладрама «Мачаха» (ЗША).
**13.35** Камедыйная меладрама «Цётка Клава фон Гетэн» (Расія).
**15.15** Навіны рэгіёну.
**16.00** Музычная камедыя «Непапраўны хлус» (СССР).
**17.25** Прэм'ера! Рамантычная меладрама «Усё будзе добра» (Расія). 1 - 4 серыі.
**21.00** Панарама.
**21.40** Камедыйная меладрама «На кручку!» (Расія).
**23.30** Рамантычная камедыя «Пакуль ты спаў» (ЗША).
**01.25** Дзень спорту.

### Н

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Аліўе-шоў».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Песня года 2014».
**20.30** Нашы навіны.
**20.55** Навіны спорту.
**21.00** «Мой хлопец -анёл». Мастацкі фільм.
**22.50** Канцэрт.
**00.10** «Рэстаран спадара Септымія». Мастацкі фільм.

### СТВ

**06.00** Фільм «Майкл» (ЗША, 1996 г.).
**07.50** Фільм «Дэніс - кат» (ЗША, 1993 г.).
**09.35** СТБ прадстаўляе: Канцэрт дзіцячай творчасці. Лепшае.
**11.10** Фільм «Гары Потэр і філасофскі камень» (ЗША, 2001 г.).
**13.45** Фільм «Гары Потэр і таемны пакой» (ЗША - Вялікабрытанія - Германія, 2002 г.).
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Аўтапанарама». Спецыяльны выпуск.
**17.05** Фільм «Гары Потэр і вязень Азкабана» (Вялікабрытанія - ЗША, 2004 г.).
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** Фільм «Любовь-морковь» (Расія, 2007 г.).
**22.00** «Дакументальны праект».
**00.30** Фільм «Грэмліны» (ЗША, 1984).

### 2 Беларусь

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Беларуская кухня.
**09.45** Мастацкі фільм «Тры арэшкі для Папялушкі» (Чэхаславакія, ГДР).
**11.10** Прыгодніцкі фільм «Д'Артаньян і тры мушкецёры «(СССР). 1-я - 3-я серыі.
**16.20** Біяграфічная гісторыя «У пагоні за шчасцем» (ЗША).
**18.35** Навагодняя гісторыя «Пасылка з Марса» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**20.55** Цела чалавека.
**21.25** Спортлато 6 з 49.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Тэлебарометр.
**21.40** Прэм'ера. Фантастычны блокбастэр «Аватар» (ЗША).
**00.30** Камедыйная меладрама «Шукаю нявесту без пасагу» Расія. 1-я і 2-я серыі.

### 3 Беларусь

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Размовы пра духоўнае».
**08.20** Канцэрт духоўнай музыкі ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі.
**08.50** «Жанчыны жартуюць усур'ёз». Лірычная камедыя (СССР, 1981 г.).
**10.10** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**10.35** «Яшчэ кахаю, яшчэ спадзяюся». Меладрама (СССР, 1984 г.).
**11.55** «Таямніца душы».
**12.20** Мультфільмы.
**12.40** «Навагоднія вечары ў Маладзечне». Зімовы калейдаскоп.
**13.40** «Святло далёкай зоркі». Памяці народнай артысткі СССР Галіны Макаравай.
**14.05** «Калейдаскоп».
**14.15** Пасланне і благаславенне «Граду і Свету» з Ватыкана з удзелам Папы Рымскага Францыска.
**15.05** «Навагодні тыдзень». Сольны канцэрт Ядзвігі Паплаўскай і Аляксандра ЦіханОвіча.
**16.00** «Наперад у мінулае».
**16.30** «Людзі на балоце. Палеская хроніка». Драма. 7-я серыя (СССР, 1984 г.).
**17.35** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**18.00** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**18.30** «Сіла веры».
**18.55** «Калейдаскоп».
**19.05** «Размовы пра духоўнае».
**19.20** «Дванаццатая ноч». Камедыя (СССР, 1955 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.10** «Графіня». Меладрама (Расія, 1991 г.).
**22.30** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**22.55** «Навагоднія вечары ў Маладзечне». Вакальны ансамбль «Камерата».
**23.45** «Святло далёкай зоркі». Памяці народнай артысткі СССР Галіны Макаравай.
**00.15** «Калейдаскоп».

### 5 Беларусь

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Біятлон. Этап Кубка свету. Эстэрсундзе. Індывідуальная гонка. Мужчыны.
**10.00** Хакей. КХЛ. «Дынама» (Мінск) - СКА (Санкт-Пецярбург).
**11.55** Біятлон. Этап Кубка свету. Эстэрсунд. Індывідуальная гонка. Жанчыны.
**13.55** Гандбол. SEHA-ліга. «Татран» (Славакія) - БГК ім. Мяшкова Беларусь.
**15.25** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Відэачасопіс.
**15.55** Валейбол. Кубак выкліку. 1/16 фіналу.
**17.55** Авертайм.
**18.25** Хакей. Чэмпіянат Беларусі. «ХК Гомель» - «Юнацтва» (Мінск). Прамая трансляцыя.
**20.45** Біятлон. Этап Кубка свету. Хохфільцэн. Эстафета. Мужчыны.
**22.20** Біятлон. Этап Кубка свету. Хохфільцэн. Эстафета. Жанчыны.
**23.55** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**07.25** Асабісты капітал.
**07.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Слуцкія паясы.
**08.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Аб'ектыў.
**08.50** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**10.15** Маю права (юрыдычная праграма)..
**10.40** Чорным па белым (культурніцкая праграма).
**11.05** «Лонданцы II», серыял.
**11.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Аднаўленне ВКЛ Напалеонам.
**12.00** «Усё прыдумана Богам», дак. фільм, 2014 г., Беларусь.
**12.30** «Невядомае жыццё Ісуса», дак. фільм, 2009 г., Польшча.
**13.20** «Святая сям'я ў Егіпце», дак. Фільм, Егіпет.
**13.50** «Шчаслівыя людзі», дак. фільм, 2014 г., Беларусь.
**14.20** Без рэтушы: «Вакол свету моўчкі», рэпартаж, Беларусь.
**14.40** Аб'ектыў.
**15.35** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**16.35** «Каляды, Каляды», святочны канцэрт: ч. 1-2.
**17.30** «Малая Масква», серыял.
**18.15** «Плынь кахання», дак. фільм, 2013 г., Венгрыя.
**19.25** «Жанна д'Арк», маст. фільм, 1999 г., Канада–ЗША: 1 серыя.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** «Каханне па-беларуску», дак. фільм, 2013 г., Беларусь.
**21.50** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**22.15** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**22.45** «Шапэн. Прага кахання», біяграфічны фільм, 2002 г., Польшча.
**00.50** «Прыватны сусвет», дак. фільм, 2012 г., Чэхія.
**02.15** «Каляды, Каляды», святочны канцэрт: ч. 2.

# Літаратурная Беларусь

Выпуск №12 (100)
(снежань)

**КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ**
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas. info

## Змест



# З новым часам чытання!

Паважаны Чытач!

Перад Табою — незвычайны нумар «Літаратурнай Беларусі».

Незвычайны, як і ўсё перадкаляднае, пераднавагоднее. А яшчэ (так супала!), што і юбілейнае.

Гэта — соты нумар нашага выдання, якое нарадзілася на свет напрыканцы 2006-га і ўступае ў свой дзевяціgадовы ўзрост.

У юбілейным нумары — як даніна памяці — сабраныя тэксты тых нашых знакамітых аўтараў (і матэрыялы пра іх), якія цяпер назаўсёдна ў калядных нябёсах: Рыгор Барадулін, Янка Брыль, Васіль Быкаў.

На сённяшніх літаратурных старонках — творы старэйшын беларускай літаратурнай сябрыны: Міколы Аўрамчыка, Лідзіі Арабей, Ніла Гілевіча, а таксама — тэксты каляднай тэматыкі: вершы, імпрэсіі, аповеды, дэтэктыў...

Шчыра жадаем Табе, дарагі Чытач, здароўя, радасцяў, дабрабыту і шчасця! І прыемных дзён-месяцаў-гадоў з нашым выданнем!

І надалей мы будзем імкнуцца засведчыць, што «Літаратурная Беларусь» — гэта свабодная трыбуна паэтаў, празаікаў, драматургаў, крытыкаў і чытачоў Беларусі.

Гэта альтэрнатыва адабранаму ў незалежнага Саюза беларускіх пісьменнікаў і цяпер падкантрольнаму штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва».

Гэта супрацьстаянне татальнаму замоўчванню вольнага мастацкага слова ў дзяржаўных СМІ.

Гэта фармаванне незалежнай творчай думкі нашай нацыянальнай эліты.

Гэта напамін аб тым, што Беларусь — і дзяржаўная, і літаратурная — стваралася пісьменнікамі, і яна патрабуе іхняй працы і апантанасці.

«Літаратурная Беларусь» — новы час чытання!

**Алесь Пашкевіч — кіраўнік праекта «Літаратурная Беларусь»**

# НЧ віншуе ЛБ

**Рэдакцыя «Новага часу» ад душы віншуе рэдакцыю «Літаратурнай Беларусі» з юбілейным нумарам. Нумарам 100.**

Нумарам, які мы можам лічыць своеасаблівым знакам поспеху нашага сумеснага з «Саюзам беларускіх пісьменнікаў» праекту. Мы – НЧ і ЛБ – ад 2007 крочым па жыцці поруч. У добрай супрацы і паразуменні.

Гэта значыць, што мы ў творчы «агарод» адзін аднаго не лезем, не перашкаджаем, не павучаем, не сварымся, не... А дапамагаем, дзе можам, чым можам адзін аднаму. Бо спавядаем адзін і той жа прынцып: свабоды творчасці, свабоды слова.

Дзеля свабоднай беларускай Беларусі, дзеля разняволенага чалавека ў разняволеным грамадстве. Імкнемся наблізіць наш новы час — час дэмакратыі і дабрабыту.

«Літаратурная Беларусь» — свабодная трыбуна для свабодных аўтараў. Пляцоўка, на якой матэрыялізуецца ў друкаваным і электронным фармаце новая сучасная беларуская літаратура, — наскрозь нацыянальная і па ўсіх крытэрах ужо еўрапейская.

Не статыстыкай вымяраецца гармонія слова, але і статыстыка аб нечым сведчыць. Усяго за год (у 12 нумарах — па нумару штомесяц, у апошнюю пятніцу) у ЛБ публікуецца болей за 100-130 аўтараў — празаікаў, паэтаў, публіцыстаў, крытыкаў.

Лічба, якая сведчыць ва ўсялякім разе аб невычэрпным інтэлектуальным патэнцыяле беларускай нацыі і нескаронай моцы беларускага прыгожага пісьменства, што адраджаліся, здаваліся з попелу, з небыцця пасля знішчальных рэпрэсій, насуперак несупыннаму ціску.

Ёсць літаратура — ёсць нацыя. І наадварот. А, значыць, быць і свабоднай краіне. У тым і палягае наш аптымізм.

**Аляксей Кароль, галоўны рэдактар «Новага часу»**




Фота www.pinterest.com

## Каляднае

*Мэры Крыстмас! Глянь наўкола!*
*І прыйдзі, святы Мікола,*
*снегам поўніць далягляды*
*на Каляды, на Каляды!..*
*Не праз сінія этэры,*
*а праз комін у кватэры.*
*Ды ў шкарпэткі пакладзі*
*дзівы — о-дзі-ры-дзі-дзі!*
*Як анёлак б'е ў курантны,*
*прамаўляю модлы-мантры:*
*дай нам, Звышні, на Каляды*
*шчасця ў горад наш праклятый.*
*Дай нам добрае надвор'е*
*без глабальных пацяпленняў.*
*Дай дзівоснае сузор'е,*
*дзе Венера з Марса млее.*
*Дай шалёных закаханняў*
*і каханых найшалёных,*
*каб у кожным у дыханні*
*любыя пачуць імёны.*
*Шчодры вечар. Шчыры вечар —*
*Добраму святому люду.*
*Словы простыя і рэчы*
*зіхацяць прадвеснем цуду.*
*Калі быў зусім малечай,*
*я прасіў узяць на плечы*
*ў таты, мамы і ў дзядулі —*
*ды круціў з вышыняў дулі.*
*А цяпер прашу я ў Бога,*
*бо галоўны Ён Мікола,*
*каб пакутную дарогу*
*не разбіла часу кола.*
*Як раней прасіў я цацкі,*
*шчанюка і шмат цукерак,*
*так цяпер прашу я ласкі*
*боскай і людзей даверу.*
*Я раней дурнеў на святы,*
*у зімовай завірусе*
*кідаў ледзяшамі ў брата*
*і ў сумёт хавацца мусіў.*
*А цяпер гляджу я ў неба*
*кожнаю калядней ноччу.*
*Падарункаў мне не трэба,*
*толькі б, Божа, мне не збочыць...*
*На Каляды... На Каляды*
*Беларусі роднай зычу*
*новай праўды, новай рады,*
*новага жывога клічу.*
*Новага-старога сцягу.*
*Новага-сівога гімна.*
*Каб на еўрапейскім шляху*
*ды не згінуць.*
*Каб зямля нам нарадзіла*
*Каліноўскіх і Скарынаў.*
*І каб не ўцякла радзіма*
*за кардон ці за адрыну.*
*На Каляды! На Каляды*
*Казкай поўніць далягляды.*
*Снегам поўніць туманы.*
*...А ўначы гучаць званы...*

**Валярына Кустава**

# Пад адкрытым небам

**Яшчэ Герадот пісаў пра племя будзінаў, якое ў старажытнасці жыло на нашай зямлі недалёка ад мора. У сучаснай Беларусі жыве і працуе іх, магчыма, непасрэдны нашчадак, якому да герадотаўскага імя дадаўся летувіскі канчатак ас. Гэта публіцыст і празаік Яўгеній Будзінас.**

Іх тое, што ён насамрэч ас (ас у кампазіцыйным афармленні перажытага матэрыялу і ягонай стылёвай апрацоўцы), творца засведчыў сваёй новай экстра-эратычнай кнігай «Давайте, девочки». «У сваёй споведзі, якая распавядае пра каханне, пакуты, надзеі, Яўгеній Будзінас застаўся верным высокай паэзіі, здолеўшы нават пра самае інтымнае сказаць узнёсла і з паэтычным майстэрствам», — выказаўся пра новы раман пісьменніка ягоны цёзка Яўгеній Еўтушэнка.

13 чэрвеня адбылася прэзентацыя кнігі. Яе планавалася правесці ў сталічным Доме літаратара, аднак за два дні да мерапрыемства ў арэндзе залы было адмоўлена. У лісце кіраўніцтва Галоўнага гаспадарчага ўпраўлення (цяперашняга ўладальніка будынка па вул. Фрунзе, 5) спасылалася на... правядзенне рамонтных работ у актавай зале. Канечне ж, аніякага рамонту ў той дзень не праводзілася, ён, відавочна, патрэбен у галовах адказных чыноўнікаў. Як і планавалася, да Дома літаратара прыйшлі запрошаныя на вечарыну госці (больш двухсот чалавек), прыехалі надзвычайныя і паўнамоцныя паслы Летувы, ЗША, ФРГ, супрацоўнікі іншых дыпмісій. Аматары літаратуры селі ў некалькі аўтобусаў... і паехалі ладзіць мерапрыемства ў легендарныя Дудуткі — на прыватнае лецішча Я. Будзінаса. Там — пад адкрытым небам, на ўлонні прыроды — і прайшла прамоцыя кнігі. Вечарыну вялі паэты Сяргей Законнікаў і Уладзімір Някляеў. «Рэжысіраваў» яе Юрый Хашчавацкі. Гучалі раяль, саксафон, гармонік. Выступленні калег Будзінаса чаргаваліся з аўтарскім чытаннем рамана. Гучалі стрэлы «Шампанскага» ды густа пенілася піва...

**(«Літаратурная Беларусь» № 1, 2007)**

# Купалава мара

Кіраўнік Беларусі Аляксандр Лукашэнка 7 ліпеня павіншаваў суайчыннікаў са знамянальнай датай — 125-годдзем з дня нараджэння народнага паэта краіны Янкі Купалы. «Сённяшняя суверэнная Беларусь з высокім узроўнем эканамічнага, навуковага і культурнага развіцця з'яўляецца ўвасабленнем мар вялікага песняра, — адзначыў у віншаванні А. Лукашэнка. — Няхай і ў далейшым творчая спадчына Янкі Купалы будзе для нас прыкладам сапраўднага патрыятызму і самаадданага служэння Радзіме».

Мары вялікага песняра ўвасобіліся? А як жа з Купалавай мовай, свабодай, гімнамі, сімваламі?..

**(«Літаратурная Беларусь», № 2–3, 2007)**

***

19 жніўня ў Брэсце падчас прэзентацыі сваёй кнігі «Лісты зь лесу» быў арыштаваны малады палітык і літаратар Павел Севярынец. Разам з ім было затрымана 28 чалавек. Кнігу «Лісты зь лесу» Павал Севярынец пісаў у няволі — на «хіміі».

Аўтар пакараны на 15 сутак арышту паводле артыкула Адміністрацыйнага кодэкса — за «паўторнае парушэнне Закона аб сходах і масавых мерапрыемствах». Суд Маскоўскага раёна Брэста прысудзіў Паўлу Севярынцу 15 сутак арышту.

Калі за прэзентацыю кнігі арыштоўваюць — не «квітнее» не толькі літаратура, але і сама дзяржава...

**(«Літаратурная Беларусь», № 4–5, 2007)**

# Заява

***Сакратарыята Саюза беларускіх пісьменнікаў***

Перад новым навучальным годам дзяржаўнымі службоўцамі былі зменены школьныя праграмы па беларускай літаратуры. Пад ідэалагічную цэнзуру падпаў увесь літаратурны перыяд ХХ стагоддзя, найперш — 30-я гады (сталінскія рэпрэсіі) і сучаснасць.

Сакратарыят Саюза беларускіх пісьменнікаў разглядае гэта як акт чарговых рэпрэсій незалежнай беларускай літаратуры. Чыноўнікамі міністэрства адукацыі да вывучэння школьнікам Беларусі прапануецца неаб'ектыўны курс роднай літаратуры, а вартасць літаратурных твораў вымяраецца не іх мастацкасцю, а ступенню лаяльнасці да ўлады ды адпаведнасцю сучаснай ідэалагічнай кан'юнктуры. Сярод выкрэсленых з праграмы па літаратуры — члены Саюза беларускіх пісьменнікаў, які ўжо не першы год перажывае перашкоды ды шальмаванне з боку ўлады. На іх месца ўпісаны малавядомыя прозвішчы аўтараў сумніўна-мастацкіх тэкстаў.

У час, калі родная мова і літаратура пастаўлены перад мяжой вынішчэння, калі беларуская школа пазбаўлена гуманітарнага акцэнту і праз тое — комплексная духоўна-эстэтычнага патэнцыялу, ёй прапануецца яшчэ і барацьба з гістарычнай праўдай ды літаратурнай сучаснасцю.

Сапраўдная нацыянальная літаратура — па-за ўладнай ідэалогіяй і па-над палітыкай. У сучасных манкуртаў ад адукацыі і знішчальнікаў літаратуры ёсць імёны, і яны застануцца на чорных старонках усебеларускага нацыянальнага летапісу!

**Верасень 2007**

**(«Літаратурная Беларусь», № 6-7, 2007)**

# Прэзентацыя месяца

**Кнігі народнага паэта Беларусі «прапісаліся» ў менскім Чырвоным касцёле.**

У нядзелю, 7 кастрычніка, там адбылася прэзентацыя пяці кніг народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна. Перад ёй прайшло ўрачыстае богаслужэнне ў гонар Барадуліна і ўсіх беларускіх пісьменнікаў.

Сярод прэзентаваных кніг — новыя дапоўненыя і перапрацаваныя «Ксты» (на беларускай і англійскай мовах), зборнік паэзіі «Быць», кніга перакладаў класічнай паэзіі Кітая, Японіі, Карэі і Вьетнама «Гуканьне паэзіі Усходу», а таксама паэтычны зборнік «Малітва ветру» (пераклады Барадуліна на японскую).

На прэзентацыі прысутнічалі замежныя дыпламаты, беларускія літаратары, навукоўцы і чытачы.

**(«Літаратурная Беларусь», № 8–9, 2007)**

# Парадокс месяца

З 6 да 10 лютага ў нацыянальным выставачным павільёне «Белэкспа» ладзілася XV Мінская міжнародная кніжная выстава-кірмаш «Кнігі Беларусі — 2008». У ёй бралі ўдзел выдаўцы 17 краін, у тым ліку з Расіі, Украіны, Славакіі, Польшчы, Германіі, Кітая, Індыі, Францыі, Арменіі, Швецыі, ЗША, Ізраіля, Італіі, Казахстана, Венесуэлы, Швейцарыі. Ну і, натуральна, Беларусі. Было шмат прэзентацый, выступаў. А пра народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава ды ягоныя кнігі гаварылі толькі падчас імпрэзаў на тэрыторыі стэндаў Швецыі, Расіі ды Ізраіля...

**(«Літаратурная Беларусь», № 16–17, 2008)**

# Беларуская мова — на мяжы выжывання

***Заява Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў***

Рэспубліка Беларусь апынулася перад пагрозай духоўнага крызісу, звязанага з ізаляцыяй і знікненнем мовы тытульнай нацыі.

Апошні рэспубліканскі перапіс насельніцтва засведчыў істотнае скарачэнне прыхільнікаў беларускай мовы. За дзесяць гадоў колькасць тых, хто лічыць яе роднай, скарацілася на 20,5 % і склала 53,2% усіх грамадзян Беларусі. І толькі 23 % беларусаў валодаюць роднай мовай — а яшчэ дзесяць гадоў назад іх было 37 %.

Гэта — плён ігнаравання канстытуцыйных нормаў аб дзяржаўнасці нашай мовы і яе шматгадовага выцяснення з афіцыйнага і грамадскага жыцця. Гэта вынік паўторнай постсавецкай русіфікацыі Беларусі і грэблівага стаўлення кіраўніцтва дзяржавы да нацыянальнай культуры і яе найгалоўнага складніка — мовы. Гэта вынік манкурцкага ўладнага прыкладу, які талерантна паўтараецца беларускім грамадствам.

Стагоддзямі лепшыя сыны і дочкі Беларусі захоўвалі сваю мову, праз забароны і забыццё вярталі гэты неацэнны дар свайму народу, распрацоўвалі і ўзбагачалі яго слоўнікавае і выяўленчае багацце, абярагалі ў віхурах імперскай і палітычнай залежнасці ад знішчэння, з'ядноўвалі з ім свае творчыя лёсы, чым праславілі і праслаўляюць Беларусь. Дзякуючы вернасці роднаму Слову, за апошнія стагоддзе вырасла вялікая нацыянальная літаратура, сцвердзіўся выдатны нацыянальны тэатр, праз нацыянальную беларускую школу прайшлі мільёны дзяцей — і што ж цяпер? Ліквідаваць усе гэтыя сацыяльныя заваёвы, усе набыткі і дасягненні — і тым самым перакрэсліць гістарычны шлях беларускага народа? Якім дзяржаўным розумам трэба кіравацца, якім патрыятычным сэрцам клапаціцца пра лёс нацыі, якімі мудрымі вачыма глядзець на родную зямлю і на ўвесь белы свет, — каб стаць на шлях нацыянальнага самазабойства?

Сёння беларуская мова, якая зрабіла з народанасельніцтва беларускую нацыю, — на мяжы выжывання. Беларусь — адзіная не толькі ў Еўропе, але і ў свеце краіна, якая не забяспечвае поўнага цыклу адукацыі на роднай мове — пачынаючы ад дзіцячых садкоў і заканчваючы вышэйшымі навучальнымі ўстановамі.

Са стратай сваёй мовы беларускаму народу зноў пагражае небяспекаператварэння ў насельніцтва — краіны, якая мае гонар адносіць сябе да еўрапейскай. Аднак ні ў Еўропе, ні ў Азіі, ні ў Афрыцы няма падобных ганебных прыкладаў адмаўлення ад сваёй «адзежы душы», як назваў родную мову класік беларускай літаратуры Францішак Багушэвіч. Якраз агульнасусветны вопыт яскрава сведчыць: мова краіны — гэта адзін з наймагутных фактараў дзяржаўнай незалежнасці, без якога немагчымыя ні палітычная, ні эканамічная суверэннасць.

Адмаўляючыся ад сваёй мовы, беларусы страчваюць не толькі культурную адметнасць і нацыянальную самабытнасць, але і будучыню сваёй нацыі.

Рада Саюза беларускіх пісьменнікаў у чарговы раз нагадвае аб недапушчальным і катастрафічным стане беларускай мовы ў нашай краіне і заклікае ўсіх грамадзянаў паўстаць на яе абарону. Нацыянальная мова павінна адпавядаць статусу рэальнай дзяржаўнай!

Далучаючыся да іншых грамадскіх ініцыятыў па ўшанаванні мовы тытульнай нацыі Беларусі, Рада Саюза беларускіх пісьменнікаў звяртае ўвагу на адсутнасць належных прапаноў па тэрміновым выпраўленні крызіснай моўнай сітуацыі ў сучасных дзяржаўных праграмах сацыяльнага, культурнага і духоўнага развіцця краіны і патрабуе неадкладна распрацаваць і ажыццявіць дзяржаўную праграму па выратаванні беларускай мовы.

**Снежань 2010 г.**

**«Літаратурная Беларусь», № 52, 2010 г.**

# Заява

***Сакратарыята Саюза беларускіх пісьменнікаў***

Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь прыняло рашэнне (№ 189 ад 25 верасня 2013 года) правесці скарачэнне колькасці работнікаў установу культуры.

Сярод прапанаваных мераў – скарачэнне на 20% колькасці кіраўнікоў і спецыялістаў мясцовых органаў у сферы культуры. Літаратурны музей Максіма Багдановіча і Літаратурны музей Петруся Броўкі плануецца далучыць да Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры, пазбавіўшы статуса самастойнай юрыдычнай асобы. Штат Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа і Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы скарачаюцца на 25%.

Гэтыя сумніўныя меры па «аптымізацыі штатнай колькасці работнікаў» варта разглядаць не як паасобныя праявы чыноўніцкай «ініцыятывы», а як сістэмную з'яву і дзяржаўную палітыку, якая разам са скарачэннем колькасці гуманітарных дысцыплінаў ва ўстановах адукацыі, закрыццём бібліятэк і сельскіх устаноў культуры вядзе не толькі да занядбання беларускай культуры, мовы і літаратуры, але і да планамернага і паслядоўнага размывання самой нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў.

**«Літаратурная Беларусь», № 86, 2013**

## СТУДЗЕНЬСКІЯ ЮБІЛЯРЫ

**У наступным месяцы адзначаюць юбілеі сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў:**

Іпатава Вольга Міхайлаўна (нар. 01.01.1945)
Вальчэўскі Іван Аляксандравіч (нар. 02.01.1945)
Лапушын Радзіслаў Яфімавіч (нар. 03.01.1960)
Трафімчук Мікалай Мікалаевіч (нар. 03.01.1950)
Ляшчун Мікалай Міхайлавіч (нар. 08.01.1955)
Клімуць Яраслаў Іванавіч (нар. 10.01.1940)
Аўрамчык Мікалай Якаўлевіч (нар. 14.01.1920)
Станкевіч Юры Васільевіч (нар. 21.01.1945)
Дайнека Леанід Мартынавіч (нар. 28.01.1940)
Ахроменка Уладзіслаў Ігаравіч (нар. 29.01.1965)

Жадаем усім радасці, натхнення і дабрабыту!



# Што з намі дзеецца?

Алесь РЫБАК

*Не прабачаюць здраду*
*нашы зоркі.*
*Ніна Мацяш*

**Я часта думаю пра свой лёс, лёс калегаў па пяры. І калі начамі не спіцца (не ведаю, старасць таму прычына ці сённяшнія рэаліі так даймаюць), да спазмаў у горле гняце клопат, як быць творчаму чалавеку ва ўмовах дзікага наскоку на ўсё святое, чым жыў не адно дзесяцігоддзе.**



Высяленне СБП з Дома Літаратара, 2007 г.

Гэтым святым для мяне было і, пакуль яшчэ дыхаю, застаецца літаратура і служэнне ёй. А з пісьменнікамі, творцамі літаратуры, маладымі ці досыць ужо сталымі, Бог ведае што сёння дзеецца. Перш за ўсё маю на ўвазе тых, хто не вытрымаў прэсінгу ўладаў і ці застаўся ў чаканні лепшых, шчаслівейшых дзён для сваёй творчасці, ці, яшчэ горш, падаўся ў прочкі, г. зн. пайшоў служыць парабкам за тую ці іншую падачку ад пана. Панам тым з'яўляецца новаствораны саюз-клон, які адабраў ад ранейшага Саюза спрадвечны яго назоў, паспрыяў у пазбаўленні ягонай маёмасці, карацей кажучы, пусціў па ветры. І рабілася гэтае беззаконне рукамі ці патураннем, цынічным, з самазадаволенай ухмылкай «А ту іх!» тых, хто яшчэ нядаўна лісліва стаяў перад Броўкам, Танкам, Шамякіным, стаяў перад Радай Саюза пісьменнікаў, абранай з лепшых прадстаўнікоў творчай арганізацыі, і кляўся сумленна служыць літаратуры, быць праўдзівым і справядлівым. І яго прымалі ў суполку пабрацімаў, робячы скідку на нярэдкую відочную часам слабіну ягоных літаратурных памкненняў. І ўжо ў гэты ці на наступны дзень ён, новаспечаны член, на законных падставах нёс другую заяву, каб яго зафіксавалі ў дакументах як сябра Літаратурнага фонда з усімі вынікаючымі адсюль наступствамі: правам на кватэру, набыццём машыны, таннай пуцёўкі ў Дом творчасці, на хутчэйшае прасоўванне ў друк сваёй прадукцыі.

Я пішу гэтыя радкі з чыстым сумленнем адносна сябе: ніякіх з пералічаных дабротаў я не скарыстаў, хоць працаваў у апараце Саюза пісьменнікаў сем гадоў з ранку да позняга вечара. Калі ж адыходзіў на рэдактарскую пасаду ў выдавецтва «Мастацкая літаратура», многія ўдовы памерлых пісьменнікаў групкай прыйшлі ў Дом літаратара і па-свойму дзячылі мне за клопат пра іх слязамі шкадавання, а адна з іх падпісала на двухтомніку мужа не толькі маё прозвішча з вялікай літары, але і слова чалавек. І гэта было для мяне самай высокай ацэнкай.

Многія, хто ў тыя гады наведваў Саюз пісьменнікаў толькі дзеля таго, каб парагатаць ці так памянціць языкамі, гэтай лайдацкай звычкі не пазбавіліся і сёння. Пры сустрэчы адзін з адным, сытна ікаючы, разважаюць: «Ат, што яны, штатнікі тыя, рабілі? Балаўство адно...» І не бачылі ці не хацелі бачыць, што ў Доме літаратара, які падпарадкоўваўся Саюзу пісьменнікаў, няспынна, зімой і ўлетку, віравала жыццё, праводзіліся сотні розных мерапрыемстваў мясцовага і міжнароднага маштабу, працавалі секцыі, абмяркоўвалася творчасць маладых празаікаў і паэтаў, арганізоўваліся паездкі пісьменнікаў на выступы ў працоўных калектывах, пісаліся віншавальныя адрасы юбілярам і пісьмы-хадайніцтвы аб іх узнагароджанні... Карацей кажучы, не было продыху ад працы. А яшчэ ж па поклічу душы хацелася і пісаць сваё, на што вельмі і вельмі не ставала часу.

Сёння ў Доме літаратара (хаця які гэта Дом літаратара, хутчэй я назваў бы нядаўна святы для нас будынак, які ўзводзіўся для пісьменнікаў, домам бессаромных пагулянак усялякай чыноўнай і іншай грашовай публікі), дык вось у гэтым доме зараз рэдка калі ступае нага творцы. Нас выжылі з нашае хаты, не даўшы нічога ўзамен, выжылі нахрапіста і цынічна, нават не дазволілі захаваць мемарыяльны кабінет Максіма Танка.

З гэтага кабінета партрэты Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, іншых класікаў беларускай літаратуры выносілі, як на пахаванні, толькі не на цырымонію развітання з нябожчыкам, а ў халодныя і змрочныя сутарэнні падвалаў (з якіх у хуткім часе іх таксама выгналі).

А бібліятэка, з сотнямі аўтографаў самых славутых пісьменнікаў не толькі Беларусі, але і ўсяго былога Савецкага Саюза, іншых краінаў свету... Такой бібліятэкай магла б ганарыцца любая цывілізаваная нацыя. Улады змусілі яе раскурочыць, каб вызваліць плошчу ўсё для тых жа пагулянак, на якіх можна зарабляць немалыя грошы. Не вызвалілі б, дык тысячы каштоўных тамоў трапілі б на сметнік.

Вы, члены іншай «клонавай» суполкі, прыйшлі ў тыя маркотныя хвіліны ў Дом літаратара, запылалі праведным гневам супраць такога кашчунства? Не, ніводзін з вас не паказаў носа, нібы ўсё гэта вас не тычылася. Божа праведны, няўжо так астылі вашыя сэрцы, а на вочы апусцілася імгла? А многія з вас быццам і неблагія людзі, і прыстойныя пісьменнікі. Але я, ведаючы ўсё гэта, зараз не паверу ніводнаму вашаму радку, дзе гаворыцца пра справядлівасць, чуласць, любоў да чалавека. Думаю, калі-небудзь адвернуцца ад вашых няшчырых твораў і чытачы, якія любяць беларушчыну і дзеля яе гатовыя нават ісці за краты. Ці знайшоўся сярод вас хто такі смелы і справядлівы і сказаў вашаму куміру, уладальніку «залатога пяра», які і гаварыць саромеецца, а мо і не ўмее, па-беларуску: «Што ж вы, шаноўны і ўладалюбівы, робіце з нашымі калегамі па пяры? Апомніцеся, пакуль не позна! А не, дык мы пакідаем вас». Упэўнены, наўрад ці хто сказаў такое свайму шэфу. Многія найперш думалі, як бы лаўчэй уладкаваць свой быт, прасунуцца ў кар'еры, таксама стаць уладальнікам «залатога пяра». (На здароўе, як кажуць, калі яно сапраўды залатое, а не з іржавай жалязякі.) Тады, маўляў, маё карытца будзе з беражкамі.

Я зусім не супраць іншага саюза, іншага стылю працы, іншых ідэалагічных догмаў. Кожнаму, як кажуць, сваё. Але быць чалавекам чулым і справядлівым, спачуваць чужой бядзе, — ці не ў гэтым прызванне пісьменніка, калі ён лічыць сябе сапраўдным.

Аднак пра якія спачуванне і чуласць можна казаць?

Мяне да глыбіні душы ўразіла і здзівіла, што нават на пахаванне народнага пісьменніка Беларусі, усімі бясконца любімага намі Янкі Брыля прыйшлі лічаныя члены новастворанага саюза. Ды і тыя, што трапілі на жалобу, неяк туліліся па завуголлі, некага ці то баючыся (бронь бог калі ўбачаць і данясуць каму трэба, што ты быў на пахаванні «няправільнага» пісьменніка, «уладара чалавечых дум», — развітацца з класікам не прыйшоў аніводзін дзяржаўны чыноўнік!), ці то саромеліся апошні раз глянуць яму ў твар, сустрэцца позіркам з многімі сваімі былымі паплечнікамі-саратнікамі па літаратурнай справе. А яны ж, «клонаўцы», многія з іх, вучыліся ў Янкі Брыля майстэрству (ці навучыліся, не бяруся меркаваць, а вось брылёўскай чуласці, сардэчнасці, урэшце, грамадзянскасці не пераймалі ад яго ні на макавае зернетка), пісалі па ягонай творчасці навуковыя працы, зараблялі званні і грошы.

Забыліся гэтыя людзі Бога. Але хай ён ім даруе. Толькі ці даруе ім гісторыя, урокаў якой яны не спасцiглі і, асепленыя часовым сваім «трыумфам», не хочуць вучыцца? Сёння многія з тых, хто пайшоў ці збіраецца ісці ў новы саюз, слёзна апраўдваюцца, што, маўляў, ім на шыі ледзьве не пельку зацягвалі, пагражалі выкінуць з выдавецкага плана, выкрэсліць з тэатральных афішаў такое дарагое іх воку і слыху іхняе прозвішча, не працягнуць кантракту на працу, хоць чалавек той даўно пенсійнага ўзросту...



Яно і праўда, ізуверскіх метадаў уздзеяння на хісткія душы ва ўладаў больш чым дастаткова. Але ж бальшыню, самую свядомую і таленавітую бальшыню, на сённяшні дзень 550 членаў «старога» Саюза беларускіх пісьменнікаў, не зламалі, не запалохалі ніякія рэпрэсіўныя меры. Вядома ж, гэтым «няправільным» пісьменнікам таксама хочацца і працаваць дзе-небудзь, карміць сябе і сям'ю, і выдавацца, і рухацца ўверх па службовай лесвіцы. Невыносна цяжка ім, абкладзеным чырвонымі сцяжкамі. Але яны трываюць і будуць трываць, чаго б гэта ім ні каштавала. На здзелку са сваім сумленнем яны не пойдуць.

У нечалавечых умовах, без аніякага памяшкання, без капейкі грошай, на адным толькі энтузіязме і веры ў праўду працуе сёння Саюз беларускіх пісьменнікаў. Яго душаць штрафамі, судамі, закідваюць паперамі з новымі і новымі пагрозамі, ён адбіваецца ад шматлікіх санкцый з боку суровых уладаў. Але і ў такіх дзікіх варунках ён не падае духам, трымаецца і дзейнічае, плануе сваю працу на сённяшні дзень і на бліжэйшую перспектыву, праводзіць вечарыны і сустрэчы, займаецца кнігавыданнем, арганізоўвае працу секцый, ладзіць сустрэчы ў розных калектывах рэспублікі, прымае ў свае шэрагі новых і новых сяброў. А тых, хто жадае стаць членам нашай творчай арганізацыі, больш чым дастаткова.

Вось толькі нядаўна Рада Саюза беларускіх пісьменнікаў ухваліла, пасля папярэдняга разгляду на секцыях і ў прыёмнай камісіі, чатырнаццаць членаў нашай пісьменніцкай суполкі, у кожнага з якіх за плячыма цікавы і творчы, і жыццёвы багаж. А на чарзе — новыя і новыя кандыдатуры творцаў, якія жадаюць уступіць у Саюз пісьменнікаў не дзеля ўласнай выгады, а каб служыць літаратуры і свайму люду.

**Чэрвень 2007 г.**
**«Літаратурная Беларусь», № 3, 2007**

# Запісы розных гадоў



Ніл ГІЛЕВІЧ

## Самая дэмакратычная ў свеце

Даўно зразумеў, што для нас, беларускіх пісьменнікаў, дэмакратычнае і ёсць нацыянальнае, і наадварот. Беларускі паэт не мог напісаць як І. Северанін:

*Бесшумно шло моторное ландо*
*По «островам» к зеленому*
*«пуанту».*
*И взор Зизи, певучее рондо,*
*Скользя в лорнет, томил*
*колени франту.*

Такой мовай беларускі паэт напісаць не мог. Не было ў нас такіх паэтаў — сытых, бесклапотных, эстэтствуючых... Не тое было жыццё ў беларускага народа і яго песняроў. Зусім не тое!

Наша нацыянальная паэзія — самая дэмакратычная ў свеце. Прынамсі, так было да апошняга часу.

1960

## «Набытая не вучэннем, а...»

Вядомы рускі літаратуразнаўца Д. Тукаў выказаў вельмі слушнае меркаванне наконт Казьмы Пруткова, а іменна: «Час сцёр у многім яго надзённасць, але засталіся тонкасці мовы, вышэйшая культура яе, набытая не вучэннем, а нараджэннем у рускім асяроддзі і хрышчэннем у купелі рускай моўнай стыхіі».

Лічу гэта надзвычай важным — «хрышчэнне ў купелі» нацыянальнай стыхіі. У нас нямала паэтаў і пісьменнікаў, якіх абмінула гэтае вялікае шчасце. Мова іх твораў не мае лексічных, фразеалагічных і сінтаксічных фарбаў жывой народнай мовы. Іх мова літаратурна дыстыляваная.

1974

## Бо калі магілы...

З цікавасцю прачытаў кнігу Варгеса Петрасяна «Армянские эскизы» (1978 г.). Кніга заслугоўвае высокай пахвалы — гэта натхнёная патрыятычная паэма аб Арменіі. Паэма ў прозе, зразумела: Варгес –празаік. Да душы прыйшліся мне многія афарызмы пісьменніка. Напрыклад: «Радзіма — гэта тое, што нельга расказаць другому». Здарава! Ну сапраўды: як расказаць некаму, што такое Радзіма, Бацькаўшчына? Або: «Ужо лепш хай мне не даруюць людзі, чым магілы». А каб ты быў здаровенькі, дарагі Варгес! Канечне ж , хай лепш жывыя людзі. Бо калі магілы — гэта страшна. Вельмі страшна.

1979

## З кнігі пра Берггольц

У Ленінградзе выйшла кніга «Воспоминания Ольги Берггольц» (1974). Кніга вельмі цікавая — пра такога чалавека іншай, нецікавай яна не магла і быць. Выпішу некалькі вартых увагі думак паэткі. «Правила для езды в незнаемое — это правила совести, отваги и правды». Далей. «Любоў да Радзімы — гэта культура, якая не толькі даецца, але і выхоўваецца...» Думаю: перш за ўсё выхоўваецца. І яшчэ: «Нам пашчасціла — мы вельмі мала былі з начальствам і вельмі многа з народам.» Так, сапраўды пашчасціла, бо добра, праўдзіва пісаць памагала жыццё ў народзе і з народам, а не сярод начальства.

А як хораша сказана пра Аляксандра Твардоўскага: «Праўда і прастата — вось тыя прамыя, самыя кароткія і самыя смелыя шляхі, якімі Аляксандр Твардоўскі ідзе да сваіх чытачоў, да народа». Ну так: пісаць праўду і пісаць проста. Канечне ж, гэта галоўнае.

Напаткаў у кнізе і адно мудрае выказванне А. П. Чэхава: «Пісьменнік расце да той пары, пакуль у яго душа расце».

1979

## Гэта іхняя сіла

Пабываўшы ў Арменіі, паўглядаўшыся ў твары людзей, у іх поўныя суму вочы, сказаў (сам сабе): «Сум — іхняя сіла. Ды якая сіла! Якая стваральная, жыццёдайная!..» Усе армяне — склалася ў мяне ўражанне — толькі сумныя. Нясумных няма. Няўжо гэта адбітак нацыянальнай трагедыі 1915-га года? Ці гэта яшчэ з сівой даўніны?

А з якім сумам яны глядзяць на Арарат, што так блізка — рукой падаць, і так далёка — за дзяржаўнай мяжой?

1982

## Каб і следу не засталося

Гэта ж трэба! Ну ніяк не паварочваецца ў жамойцкіх (летувіскіх) навукоўцаў язык — назваць дзяржаўную мову Вялікага Княства Літоўскага старабеларускай. Называюць «афіцыйнай», «славянскай», яшчэ якой, але — не старабеларускай.

Увогуле, сёння нашы паўночныя суседзі жамойты (летувісы) робяць усё, каб і следу беларускага не засталося ні ў Вільні, ні на адвеку беларускай Віленшчыне.

1987–1990

## Толькі гаспадар

Культурным свой дом можа зрабіць толькі гаспадар (культурны гаспадар). Калі краінай кіруюць дачаснікі («временщики») — якой ад іх чакаць культуры? (Калі «сёння тут, а заўтра там», як было ў СССР).

1991

## Краснае пісьменства

У Расіі побач са звыклым «художественная литература» было яшчэ і такое азначэнне: «изящная литература», ці «изящная словесность» — у тым самым сэнсе, але з падкрэсленнем яе менавіта мастацкасці, дасканаласці пісьма, стылю. Наша «краснае пісьменства» гучыць не горш.

1992

## У рэчышчы дыскусіі аб правапісе

На старонках «Настаўніцкай газеты» працягваецца дыскусія аб правапісе беларускай мовы, аб запланаваных у ім змяненнях. У апошнім нумары газеты (30.9.1992) з артыкулам «А мо вернемся да Скарыны?» выступіў настаўнік Леанід Раманенка. Ён слушна перасцерагае ад празмернага захаплення некаторых навукоўцаў прапанавай вярнуць у правапіс калісці справядліва адкінутыя нормы. Успамінае, як рэзала яму слых выступленне на з'ездзе ТБМ аднаго дэлегата — «з яго глёбусам, клясамі, плянам, лёгікай». Вельмі разумею і падзяляю пратэст настаўніка супраць калечання нашай прыгожай літаратурнай мовы. Гэтым мы наш правапіс не аздобім і больш прывабным яго не зробім, бо гэтага няма ў жывой народнай мове — нідзе ў Беларусі.

Але хачу звярнуць увагу на іншы акцэнт, які робіць у сваім артыкуле Л. Раманенка, а менавіта: клопат аб правапісе можа мець сэнс толькі тады, калі мова ўсенародна жывая, яе прыродны арганізм здаровы, развіваецца нармальна і яго здароўю спрыяе разумная дзяржава, бо ў гэтым зацікаўлены і гэтага патрабуе патрыятычна настроеная грамадства. Калі ж сама дзяржава мову душыць, заганяе ў магілу, а грамадства глядзіць на гэта раўнадушна, — то клопат аб правапісе — справа трагічна марная. Удасканаленне правапісу патрэбна толькі мове жывой, толькі жывой, дарагія мае! Жывой і здаровай! Радуюся, што настаўнік Л. Раманенка — мой адзінаверца і паплечнік, што ён глыбока разумее мой боль, маю гаркоту, маё абурэнне. Гэта і засведчыў у артыкуле. Цытую: «А Ніл Гілевіч гаварыў перад дэлегатамі з'езда: «...што ж гэта за такая праклятая доля, калі цягам цэлых стагоддзяў мы вымушаны адваёўваць для роднае мовы права на жыццё? Ці не задоўга гэта змаганне цягнецца? Ці не пара рашуча пакончыць з гэтым бясправным становішчам народа і яго культуры?..» Ужо больш года, як гэты крык душы народнага паэта павіснуў у паветры».

На вялікі жаль, так: павіснуў. І прадчуванне, што ў бліжэйшы час нешта зрушыцца, — няма.

1992

## Яшчэ і таму...

Доўгі час я верыў, што ў нас, у СССР, можа быць больш гуманны, больш чалавечны сацыялізм, больш дэмакратычны, і будзе іншае становішча нашай беларускай мовы. Пасля задушэння «пражскай вясны» (1968) зразумеў, што гэтая мая вера — наіўнасць, што пры бальшавіках гэта немагчыма: іх канцэпцыя — імперыялізм, цяпер ужо савецкі, і нацыянальным рэспублікам нічога не свеціць, як не свяціла царскім калоніям. Верыў, бо надта не хацелася прыняць за ісціну, што камуністычны сацыяльна-эканамічны лад — гэта ўтопія, што «дзяржава-камуна» — гэта міраж. Чаму так доўга верыў? Яшчэ і таму, што гэтай верай жылі найвялікшыя літаратурныя аўтарытэты: Максім Горкі, Уладзімір Маякоўскі, Міхаіл Шолахаў, Аляксандр Твардоўскі, Аркадзь Куляшоў, Назым Хікмет, Нікалас Гільен і многія іншыя — і ў нас, і ў цэлым свеце. Прыклад вялікіх быў для мяне справай святою.

1996

## Дзве красамоўныя ацэнкі

У расійскай «Литературной газете» (2013, №44) наткнуўся на дзве цікавыя характарыстыкі. Першая належыць Льву Пірагову: пра «свободомыслящую (т.е. мыслящую о свободе)», ліберальную інтэлігенцыю ён гаворыць: «Есть для них одно старомодное, но исчерпывающе точное название — «семя антихристово». Тобок, дзеці антыхрыста. Коратка і ясна. Каментар не патрэбен. Другая належыць Марыне Струкавай: з'езд расійскіх пісьменнікаў у Калузе яна назвала з'ездам «праваслаўнутых п'яніц». Брава, пані Струкава! Якое трапнае слоўца знайшла для характарысты: праваслаўнутых! (а не праваслаўных). Значыць, з таго ж самага «семя»? Хоць і зацятыя антылібералы?..

2013

## Аж страшна чытаць!..

Як толькі ні бэсцілі ў апошні час нядаўняга лідэра Сербіі Слабадана Мілошавіча! І дыктатар, і тыран, і дэспат, і г.д. і г.д. Да міжнароднага суда давялі справу. А між тым... А між тым — вось што напісана ў дакуменце, які называецца «Завяшчанне Мілошавіча». «Адна з галоўных задач марыянетачнага ўрада, калі такі прыйдзе да ўлады, заключаецца ў разбурэнні нацыянальнай самасвядомасці» (Вось як? Дык гэта ж тысячу разоў праўда!). Чытаю далей: «Дзяржавы, якія кіруюць звонку, адносна хутка расстаюцца са сваёй гісторыяй, са сваім мінулым, са сваімі традыцыямі, са сваімі нацыянальнымі сімваламі, са сваімі звычаямі, часта і з уласнай літаратурнай мовай». (Божа! Ды гэта ж геніяльна сфармулявана! Менавіта: нават і са сваёй літаратурнай мовай!) Чытаю далей: «Адным з несумненных наступстваў захопу тэрыторыі якой-небудзь дзяржавы з боку звышдзяржаў у XX стагоддзі з'яўляецца разбурэнне нацыянальнай самасвядомасці народа, які жыве ў гэтай дзяржаве. З досведу такіх дзяржаў бачна, што народ амаль не ў стане ўсачыць за хуткасцю, з якой ён пачынае ўжываць чужую мову як сваю, (...), лепш разбірацца ў літаратуры акупантаў, чым у роднай літаратуры, захапляцца чужой гісторыяй, аплёўваючы пры гэтым сваю, быць падобным на чужынцаў, але не на самога сябе...» (аж страшна чытаць! Вось які — гэты «вораг дэмакратыі» Мілошавіч! Вось як ён б'е не ў брыво, а ў вока — усім гэтым! Дык нічога дзіўнага, нічога дзіўнага, што гэныя з'елі яго. З дапамогай запраданцаў...) І высновa: «Страта нацыянальнай існасці — самая вялікая параза любога народа». Ну так. Гэта параза. Пасля якой немінуема наступае нацыянальная смерць.

Яшчэ і яшчэ раз думаю: як жа сталася, што кіраўніка краіны з такім цвярозым дзяржаўным мысленнем аддалі ворагам на расправу? Што творыцца ў гэтым свеце?

2013

## «Лічбы гора людскога»

***(Каб помнілі пра свой лёс)***

Сярод выцягнутых на свет божы старых папер знайшоў выразку з газеты «Звязда» за 20 кастрычніка 1993 года, а ў ёй — артыкул Уладзіміра Адамушкі «Лічбы гора людскога». Але ж і малайчына Адамушка: незвычайнай гістарычнай каштоўнасці архіўныя матэрыялы абнародаваў! Спакойна чытаць немагчыма. Валасы ўстаюць дыбам і камянее сэрца ад болю. Якія расправы чынілі ў нас, з нашым народам, людажэрцы-бальшавікі! З нашым добрым, ціхамірным, у вышэйшай меры талентным народам! Вось толькі некаторыя жахлівыя лічбы. «Матэрыял, які прапануецца чытачам, зроблены на аснове аналізу 7000 картак персанальнага ўліку на жыхароў Мінска і Мінскай вобласці, якія былі рэабілітаваны ў 1955–1993 гг.». Значыць, размова пойдзе толькі пра частачку жыхароў толькі Мінска і Мінскай вобласці, і гэта частачка — 7000 чалавек. 7000 палітычна рэпрэсаваных! З іх — 3097 чалавек (44,24%) былі прыгавораны да вышэйшай меры пакарання і былі расстраляны. Падкрэсліваю: усе былі невінаватыя, бо ўсе на працягу 1955–1993 гг. рэабілітаваны. Прыгавораны да смерці былі не судом, а гэтак званымі «двойкамі», «тройкамі», калегіямі АДПУ, асобымі нарадамі, камісіямі НКУС СССР, — інакш кажучы, знішчалі невінаватых людзей без суда і следства.

Цікава прасачыць нават на прыкладзе толькі гэтых 7000 чалавек, як ішоў «хапун» па гадах: 1922 год — 3 чалавекі, 1923 — 0 (Ніводнага! Ішла беларусізацыя), 1925 — 39 чалавек, 1927 — 47 чалавек, 1928 — 63 чалавекі, 1929 — 408 чалавек (Адкуль такі скачок? Пачалася барацьба з «нацдэмамі».), 1930 — 233 чалавекі, 1933 — 673 чалавекі, 1936 — 181 чалавек, 1937 — 2436 чалавек (Скачок у 13 з гакам разоў! У гонар прынятай самай дэмакратычнай у свеце Сталінскай Канстытуцыі? Хіба што так!), 1938 — 1598 чалавек. І раптам: 1942 — 8 чалавек, 1943 — 6 чалавек (Ну зразумела: Беларусь была пад фашысцкай акупацыяй!), 1945 — 182 чалавекі (А як жа: прыйшло вызваленне ад акупантаў!), 1946 — 99 чалавек, 1949 — 46 чалавек, 1950 — 41 чалавек... І нарэшце: 1953 — 1 чалавек.

Цікавыя лічбы і наконт рэабілітацыі. Яна працягвалася з 1955 года па 1971. «З 1972 па 1988 год, — піша Адамушка, — працэс рэабілітацыі практычна быў спынены».Чаму — адказу няма, прычына невядома. У 1989-м было рэабілітавана 63 чалавекі, у 1991 — 32 чалавекі, у 1992-м — 834 чалавекі, у 1993 — 216 чалавек. Падумалася: калі арыштавалі (ні за што, без віны!) у 1937-м, а рэабілітавалі ў 1993-м — дык колькі гадоў чалавек — жывы ці ў памяці людзей — заставаўся быць «ворагам народа»? 56? Запішу прапісью: пяцьдзясят шэсць гадоў.

2014




Фота Глеба Лабадзенкі

# Небавы сны

Рыгор БАРАДУЛІН

### Радовішчы радасці

*Радовішчы радасці знайсці*
*Нялёгка,*
*Бо іх ахоўвае гора.*
*Жарынкі жарсці*
*Зграваць на лісці —*
*На лістах, што ў заўтра*
*Напіша учора.*

*Радовішчы радасці, яны*
*Невычэрпныя,*
*Таму анікому*
*Не ўцячы ад сваёй маны,*
*Што разгубленасць*
*Верне дадому.*

*Жаху ані ў галаве,*
*Дзе ходзіць нявестка —*
*Вестка благая.*
*Гора ў харомах жыве.*
*Радасць пад зямлёй*
*Залягае...*

### Аж пакуль...

*Мінулае*
*Шматгулае,*
*А цішыня скупая.*
*Наступнае*
*Наступае —*
*На ўзгадкі наступае.*

*Сум радуецца рэшце*
*У радасці ў кішэні.*
*І цішынёю ўрэшце*
*Разменіцца цярпенне.*

*...Аж покуль не значэе*
*слоў ранішніх значэнне.*

### Але...

*Непрыручаных пнуцца карміць*
*З рукі*
*Усе вякі*
*Дарагімі прысмакамі.*
*Бываюць з ашыйнікамі ваўкі.*
*Але*
*Яны завуцца сабакамі...*

### А там...

*Жыву не тут,*
*Дзе пражываю дні,*
*А там, дзе дні мае*
*Раслі са мною,*
*Атуленыя шчырай гаманою*
*Расчуленай зялёнай цішыні.*

*Імкнецца ўсё маё*
*Штодня туды,*
*Дзе зябне ў ноч завейную*
*Падпечнік.*
*Дзе Хатнік*
*Свой бярозавы падсвечнік*
*Нясе на кут,*
*Каб бачылі Дзяды,*

*Што ў хаце ён —*
*Руплівы гаспадар.*
*Чакае. Не спяшаецца.*
*Трывае.*
*Тут халадаецца душа жывая,*
*Забыць баіцца*
*Нетутэйшы сквар.*

*Тут мамін сум*
*Глядзіць яе вачыма.*
*Тут дні ў нябыт ідуць,*
*Каб па вясне*
*Нанова зарунець,*
*Але не мне,*
*А на мяне падобнаму,*
*Магчыма...*

### Падзеліцца...

*Штоначы засынаем*
*У беспрабудным наіве,*
*Што неба падзеліцца з намі*
*Снамі сваімі.*
*А небавы сны —*
*Зніклыя аблачыны*
*Плывуць*
*Да ветрам акрэсленай старыны,*
*Да сваёй незямной айчыны...*

### Маладыя дровы

*Світанне і змярканне*
*Хмураць бровы.*
*Аб лоб нябёс*
*Пытанне хмарай трэцца:*
*А можа людзі —*
*Маладыя дровы,*
*Якія вечнасць паліць,*
*Каб сагрэцца?..*

### Родная Каменская вуліца

*Па яшчэ ацалелым бруку са мною*
*Ступаюць маладыя правіны.*
*Маркоце хапае спакою,*
*Пустазеллю — зямлі.*
*Да нябыту паварочваюцца спіною*
*Хаты —*
*Звечарэлыя дамавіны*
*Душаў,*
*Якія тут аднойчы жылі...*

### Традыцыйнае

*Плыт прыстаў у прымакі да мяжы,*
*І цяпер ён — плот.*
*Студня ў дрымотнай імжы*
*Пазяхае на повен рот.*
*Яна не паспела забыцца,*
*Што сястрою крыніца была калісьці.*
*Вечарэе лагода.*
*Да мяцеліцы чорныя шчокі гарод*
*Грэе азяблымі вяснушкамі жаўталісця...*

### Смелая пяшчота

*Вянкі цыбулі, як вянкі санетаў,*
*Сплятала мама ў чэсць крутой зімы.*
*Не рассакрэчвалі сваіх сакрэтаў*
*Апошнія ахрыплыя грамы.*
*Як слёзы выкрасаць з вачэй*
*планетаў,*
*Як з мройных хмар узводзіць церамы.*
*І смутны ветах ведаў сцежкі летаў,*
*Якімі йшлі начлежныя дымы.*
*Хоць пад страхой хапала ўсім*
*гаркоты,*
*Дык каб не зглоцілі наш нож сухоты,*
*Яго карміліі вострым, як ён сам.*
*Цыбулі спелай залатыя соты*
*Не шкадавалі смелае пяшчоты*
*Ні стомленым, ні маладым слязам.*

### Чорны дзяцел

*Чорны дзяцел*
*У заснежаным бары*
*Ціха лекуе сасонку маладую.*
*Маладая завіруха калядуе.*
*У застуджаных вятроў настрой сыры.*

*Чорны дзяцел*
*У заснежаным бары*
*Да таемнасці жывіцы дападае.*
*Хоць гадоў не лічыць*
*Скруха маладая, —*
*Дачакалася зіма сваёй пары.*

### Пра чарэнь

*І пра ката на каптуры*
*Снам на вуха*
*Шэпча згадка маладая.*
*Беспрытульнаму маўчанню*
*Спагадае*
*Чорны дзяцел*
*У заснежаным бары...*

*Кусман сну*
*Вягарыць на вятры*
*Пыхаю парусіна.*
*Ціхая ласка сына —*
*Газаю ў ліхтары.*

*Будзеш прасіць: паўтары*
*Цень ад крыла жураўліны,*
*Дотык халоднай гліны.*

*Выраю востры локаць*
*З тога зялёны,*
*Калі*
*Ён упіраўся ў лотаць*
*На веснавое зямлі.*

*Вецер як гаспадар...*
*Дол падмяце слата.*
*Праглыне ліхтар*
*Язык дагарэлы кната.*

*Сцюжаю нагадаецца сквар.*
*Занядужае вечар-ліхвяр...*

*Імжа-хуткацечніца*
*Вечніцца...*

### Не дарадца

*І малому сучку*
*На крамяным ствале*
*Ліставейнай хапае працы.*
*Я хачу цябе з сэрца прагнаць,*
*Але*
*Сэрца — розуму не дарадца.*
*Парасчуліцца хочацца*
*Часам скале,*
*Вогнішчу з туманом пабрацца.*

*Думкі хочуць забыцца цябе,*
*Але*
*Напамін — забыццю не дарадца.*

*Не панура*
*Віну й на жалобным стале,*
*Не самотна віне дакарацца.*

*Я хачу цвярозым пабыць,*
*Але*
*Я шаленству свайму не дарадца...*

### Палон

*Усе мы ў мілосці ў палоне.*
*І ў нашых адзіных для нас*
*Аблокамі пахнуць далоні,*
*На міг запыняецца час.*

*Да радасці ломімся ў госці,*
*Сячэм пад сабою сукі.*
*Мы ўсе ў ягамосці мілосці*
*Напрошаныя жабракі.*

*Пярун у раскацістым тосце,*
*Да зор свой паслаўшы дазор,*
*У гонар крыўдлівай мілосці*
*Падыме прадонне азёр.*

*І космас брыво небакраю*
*Нахмурыць, як горды сусед.*
*Каб выдыхнуць слова к а х а ю,*
*Аднойчы прыходзім на свет.*

*І слухае рэўнасць глухая,*
*Як блытае вернасць сляды.*
*Былосць звечарэла ўздыхае.*
*У згоды настрой малады.*

*Прачнуўшыся з зоркаю ранняй,*
*І цень свой не ўбачыць спакой.*
*Паненка знайменіцца паняй.*
*Мілосць не бывае ўдавой.*

*Ні кпінаў, ні позіркаў косых*
*Мілосць не баіцца нідзе.*
*Каб толькі не гнуўся той посах,*
*Што юнага ў сталасць вядзе.*

*Мілосць — і лагода й карыда,*
*Рака, дзе не сняць берагі.*
*І самая лютая крыўда*
*Ад тых, хто табе дарагі.*

*Такое надумае штосьці*
*Настрой, што самога сябе*
*Пачне раўнаваць да мілосці*
*Абдзелены ў шчодрай дзяльбе.*

*І моцы не хопіць зайздросці*
*Халоднай пабыць хоць у снах.*
*І вочы ў галоднай мілосці*
*Пазычыць баіцца манах.*

*Шануе мілосць аблачынку,*
*Што жарсці ацэніць чало,*
*Каб неба здалося ў аўчынку,*
*З якой жыць усё пачало.*

*Мілосць — гэта шчырасць і праца,*
*Акцчоны нябёсамі рух.*
*І мусяць жывыя старацца,*
*Каб вечны агонь не патух!*

«Літаратурная Беларусь», № 2–3, 2007

# «Пошукі ісціны»



Лідзія АРАБЕЙ

### Радкі ўспамінаў

Пташнікаў і Чыгрынаў, працуючы ў «Полымі», канкурыравалі між сабой, высвятлялі, хто з іх лепшы пісьменнік. Спачатку наперадзе быў нібыта Пташнікаў, потым Чыгрынаў пачаў яго нібыта пераганяць. Ды тут з'явіўся Васіль Быкаў, які даў фору ім абодвум.

Пташнікаў камандаваў аддзелам прозы ў «Полымі». Загадаў абмеркаваць на рэдкалегіі аповесць Быкава «Сотнікаў», якую той прынёс у «Полымя».

Перад гэтым аповесць Быкава была надрукавана ў «Новом мире», але рэдактар часопіса Павел Кавалёў заявіў, што Масква яму не ўказ.

Пятрусь Броўка, Максім Танк і Янка Брыль прыслалі свае пісьмовыя заключэнні, бо па нейкіх прычынах прысутнічаць на пасяджэнні не маглі. Усе яны былі за тое, каб аповесць друкаваць, але рабілі свае заўвагі. Іхнія заўвагі, ды і тых, хто выступаў на рэдкалегіі, схілялі Быкава да схемы, да штампаў, якія тады панавалі ў творах пра вайну.

Асабліва стараўся Іван Шамякін: патрабаваў шырокага паказу партызанскага руху (паказаць разгром нямецкага гарнізона), а Рыбака зрабіць сынам кулака.

Мяне заўсёды захапляла рэакцыя Васіля Быкава на крытыку, ён спакойна выслухоўваў, што казалі выступоўцы, не спрачаўся, а потым усё рабіў па-свойму.

### Цікавае жыццё

Бабка расказвала ўнучцы пра вайну, як яна, бабка, была ў падпольнай арганізацыі, як немцы іх раскрылі і яе, бабку, пасадзілі ў турму, а потым вывезлі ў канцэнтрацыйны лагер, як яна аднойчы пабілася з немцамі...

Унучка слухала, слухала, а потым сказала:

— Якое цікавае жыццё!

### Нацыянальная меншасць

Беларусы ў Беларусі — нацыянальная меншасць, а адносіны да яе — адпаведныя.

### Дыета

Сорак шосты год мінулага стагоддзя. Нядаўна скончылася вайна, а мы — студэнты першага курса філфака БДУ ўсе худыя: сярод нас ніводнай тоўстай, мы не ведаем слова «дыета», мы не ведаем, колькі кожная з нас важыць, нам гэта не цікава, у нас няма клопату — гэта можна есці, а гэта няможна, было б толькі што есці. Мы вельмі адрозніваемся ад сучасных дзяўчат, у якіх адна праблема — як пахудзець.

### Ху ёсць ху...

Вялікую шкоду прынёс Лукашэнка беларускай літаратуры, разламаўшы Саюз беларускіх пісьменнікаў, адабраўшы ў старэйшых літаратараў друкаваныя органы — «Полымя», «Маладосць», «Нёман», газету «ЛіМ», нацкаваўшы пісьменнікаў адных на другіх.

Але, па крайняй меры, мы даведаліся, «ху ёсць ху», як казаў некалі Гарбачоў, — хто ёсць хто.

### Зло

Калі яна ўспамінае зло, якое ёй учынілі гадоў сорак таму, ёй робіцца кепска і пачынае балець сэрца.

— Кінь, дурная, супакойся, гэта было даўно, ды і людзі, якія табе зрабілі зло, даўно памерлі.

Так, людзі, якія зрабілі зло, памерлі, а яно само дасюль жыве. Зло дужэйшае за смерць.

***

Ад некага разумнага чалавека я пачула:

— Абразу лепш праглынуць, чым яе разжоўваць.

### Пакаранне

Успамінаючы і першую сусветную, і другую сусветную, і іншыя войны, не трэба ўзвышаць, гераізаваць воінаў, што аддалі свае жыцці невядома за што, альбо страцілі рукі, ногі, а трэба выкрываць злачынцаў, па чыёй віне пачаліся войны, і ставіць іх да ганебнага слупа.

### Лекі

Жанчыне зрабілася кепска, самлела. Суседка выклікала «хуткую». Прыехалі дактары, пакруціліся каля хворай, нешта ёй зрабілі, і кабета расплюшчыла вочы.

Першае, чаго яна папрасіла:

— Гарэлкі...

Яна ад усяго лячылася гарэлкай.

### Набудавалі

Мы семдзесят гадоў будавалі камунізм, а пабудавалі капіталізм, ды ў самай дзікай яго форме. Перавагаю над усімі каштоўнасцямі зрабіліся грошы, за іх можна купіць дыплом аб сканчэнні медыцынскага інстытута, пасаду міністра, адкупіцца ад усіх грахоў. Упала ў цане такая катэгорыя, як сумленне, а потым зусім страціла цану. Сёння мы жывём у грамадстве, дзе вольна сябе пачуваюць жулікі, паклёпнікі і іншая нечысць.

### Супярэчнасці

Мая знаёмая ўвесь час гаворыць, што хоча памерці, што просіць Бога аб смерці, бо ўсе дарагія ёй людзі даўно ўжо там, і яна хоча да іх. Але як толькі ў яе паднімаецца ціск альбо пачынае балець сэрца, яна хапаецца за лекі — ратуе жыццё.

### Блізняты

Ёсць у мяне сяброўкі — дзве сястры, блізняты. Дык адна піша сябе рускаю, а другая — беларускай. Але ці могуць быць блізняты рознымі па нацыянальнасці?

### Статак

Чалавецтва — гэта статак жывёл, прытым жывёл небяспечных, яны грызуцца паміж сабою і часам з задавальненнем з'ядаюць адзін аднаго.

### Прапаганда

Едучы ў аўтобусе ці тралейбусе і слухаючы размовы пасажыраў — дзіву даешся.

— На Украіне вайна, яе пачалі ўкраінцы...

— Ну так. Ну так, там жа адны бандэраўцы.

І ўспамінаеш, як прапаганда замарочыла галовы нямецкаму народу, і як ён пакланяўся Гітлеру.

І як прапаганда замарочыла галовы савецкаму народу, і як ён лічыў Сталіна бацькам усіх народаў, і як плакаў на яго пахаванні.

І цяпер тое самае, гісторыя нічому не навучыла.

### Крыўда

Кабета жалілася сяброўцы:

— Ніначка, я ж такая хворая, у мяне і ногі баляць, і сэрца, а мой Павел (муж) такі здаровы, у яго ніколі нічога не балела, ён ніколі не хадзіў да дактароў, і мне так крыўдна...

### Плата

Жыццё — гэта радасці і свята, за якія трэба расплачвацца старасцю, хваробамі і смерцю.

### Дарогі

Лёс вывеў цябе на нейкую сцежку, і ты ідзеш па ёй, але варта табе зрабіць крок улева альбо ўправа — і пойдзеш ты па іншай каляіне, якая кардынальна зменіць тваё жыццё. Можа, да лепшага, а можа, да горшага.

### Няма ратунку

Чалавецтва, якое прыдумала цудоўныя машыны, апараты, навучылася лётаць у космас, уратавала людзей ад страшэнных эпідэмій (чумы, халеры, воспы), ніяк не можа знайсці сродкаў, каб спыніць войны.

Колькі існуе, столькі і ваюе.

### Кіёчак

Прыйшла бабка да доктара. Пачала жаліцца, што нага баліць. Доктар агледзеў тую нагу і кажа:

— Лякарства вам, бабка, магу параіць адно — кіёчак!

— Як гэта? — не зразумела бабка.

— Купіце кіёчак і пры хадзе абапірайцеся. Назе будзе лягчэй.

І пайшла бабка купляць кіёчак.

### Ген

У мужчын вельмі глыбока сядзіць ген агрэсіі, можа, гэта спадчына яшчэ дагістарычных часоў, калі мужчына мусіў забіваць звяроў, каб карміць сваё племя ды яшчэ бараніць сваю здабычу ад людзей другога племені. Можа, таму і войны спыніць немагчыма, ваююць жа адны мужчыны...

### Заслужыць

Хварэю, цяжка мне, але разумею, што яшчэ не памру. Трэба доўга памучыцца, каб заслужыць смерць.

### Незвычайная гісторыя

Ён вучыўся ў аспірантуры. Жыў у інтэрнаце — пяць чалавек у пакоі. Арганізм свой падтрымліваў за грошы невялікай аспіранцкай стыпендыі. Сябраваў з дзяўчынаю, такою ж галадранкаю, як і сам. Ці кахаў ён яе — сам не ведаў.

На сваім вопытным участку пасадзіў новы гатунак бульбы. Бульба вырасла добрая, і вырашыў яе прадаць. Падказалі — каму. І ён пайшоў. Там жылі матка з дачкою. Бульбу ў яго купілі, за стол пасадзілі, частавалі блінцамі, катлеткамі. Запрасілі заходзіць. Вельмі падабалася іхняя кватэра — светлая, трохпакаёвая. Дачка не вельмі падабалася, але бачыў, як яна хацела замуж. І ён падумаў: «А чаму і не?..»

І ажаніўся.

Жыў, як пан, на ўсім гатовым, еў тыя блінцы і катлеты. Заўважыў, што пачаў таўсцець. Вельмі гаспадарлівая была цешча. У горадзе трымала парсюка, вечна прападала на базары, нешта там купляла, прадавала. І дачка ў матку пайшла — што б ні рабіла, каб з добраю выгадай.

І раптам у гэтай шыкоўнай кватэры яму зрабілася душна. І блінцы з катлетамі ў горла не лезлі, і аказалася, што тую дзяўчыну, з якою сябраваў, ён кахаў.

Трываў месяц. Трываў два. Трываў тры. Не вытрываў і ўцёк.

Дзяўчыну, з якою гуляў да гэтай жаніцьбы, узяў за руку і пераехаў з ёю ў другі горад.

### Звычайная гісторыя

Ён вярнуўся з арміі пасля вайны — ні кала, ні двара. Здымаў ложак у пажылой удавы. Уладкаваўся на працу, дзе плацілі капейкі. А побач жыла багатая сям'я, і ў ёй была дзяўчына гадоў пад трыццаць. Людзі казалі, што яе матка ў час вайны за кавалак хлеба выменьвала ў яўрэяў каштоўныя рэчы. Магчыма, бо пасля вайны, калі ўсе хадзілі абтрапаныя, яна насіла паліто з чарнабуркаю. І яшчэ — у яе была машына. Гойсала па горадзе на «Волзе».

У дзяўчыны быў доўгі чырвоны нос і тоўстыя, як калоды, ногі.

Дзяўчына яму не падабалася, падабалася машына. І ён, можна сказаць, ажаніўся на машыне.

Жыццё ішло. Нарадзілі двух сыноў. Але адзін, недзе гадоў пад сорак, — памёр. Другі спіўся.

Жыццё ўжо не ішло, а бегла. Людзі казалі, што ён яе біў, што хадзіў па бабах, але яна трывала, бо баялася, што як пачне скандаліць, то ён зусім сыйдзе.

І так яны дажылі да старасці. Без радасці, без кахання.

А машына згніла.

### З хворай галавы

Расейцы, зрабіўшы нейкае глупства ў сваёй палітыцы, каб адвесці ад сябе сорам, усю віну ўзвальваюць на Амерыку. Амерыка, маўляў, ва ўсім вінаватая, гэта яна напусціла на Расею чорныя сілы.

Разбурылі Савецкі Саюз, зрабілі гэта самі, без нічыёй дапамогі. І тут віну ўсклалі на Амерыку.

А калі Амерыка — і праўда — у нечым вінаватая, то чаму вы, расейскія палітыкі, дазваляеце ёй гаспадарыць у вашым доме?

### Адкуль

Як толькі людзі адчулі сябе людзьмі, пачалі задаваць сабе пытанне: «Адкуль яны ўзяліся і хто стварыў гэты свет, такі разумны і такі жорсткі?» І прыйшлі да думкі: Бог. Нейкі час гэта ідэя задавальняла чалавецтва, але час ішоў, ідэя Бога ўсё больш траціла сваю верагоднасць і нарэшце зусім адпала. І цяпер людзі зноў не ведаюць — што і адкуль узялося, і нават вялікія вучоныя не маюць на гэта адказу.

### Першыя крокі

Калі пачынала працаваць над вывучэннем жыцця і творчасці Цёткі, то ў першую чаргу мне захацелася пабываць на яе магіле. І ў сувязі з гэтым мне ўспомніўся расповед паэта Пятра Глебкі — як ён шукаў магілу нашай паэтэсы. Ён ведаў, што Цётка пахавана на Лідчыне, але дзе?

Будучы ў тых мясцінах, ён зайшоў у райком партыі, прадставіўся і спытаў:

— Ці ведаеце вы, дзе тут пахавана Цётка?

Сакратар націснуў на кнопку, выклікаў свайго падначальнага і загадаў:

— Дапамажыце паэту Пятру Глебку знайсці магілу яго цёткі...

Як далей шукаў Глебка магілу Цёткі, мне было невядома, і я мусіла пачынаць усё спачатку.

У падручніках таго часу было напісана, што Цётка пахавана ў вёсцы Высокі Двор. І я пачала пытацца ў людзей, дзе гэта вёска. Але мне сказалі, што такой вёскі ў гэтых ваколіцах няма. Тады я паставіла пытанне іначай.

— Ці ведаеце вы, дзе пахавана беларуская паэтка Цётка?

— А-а, дык гэта ж у Старым Двары, ідзіце па гэтай шашы і знойдзеце, кіламетраў за дзесяць.

І я пайшла. Маладыя на той час ногі служылі спраўна.

Здалёк убачыла купку дрэў і пахавальны гранітны крыж. Падышла бліжэй. Зняла з пляча фотаапарат. На крыжы было напісана:

*На магіле ўзыйду дубам,*
*Пачну шаптаць братнім губам*
*Аб іх долі, аб свабодзе,*
*Стану песняй у народзе.*

Так пачалася тая дарога, па якой я ішла, можна сказаць, усё жыццё. Потым былі бібліятэкі, архівы, сустрэчы з людзьмі, якія тады яшчэ жылі і памяталі Цётку. Я збірала ўсё новыя матэрыялы, дапаўняла імі старонкі кніг.

Выйшлі чатыры мае кнігі пра Цётку. Першая ў 1956 годзе, апошняя — у 2006-м.

# Вузялкі дзеля памяці



Васіль ЗУЁНАК

* * *

*Начное неба: стынь і прыгажосць, —*
*Няўжо ўсё гэта створана бязмэтна?*
*Ці толькі для таго, каб сцвердзіць: ёсць —*
*Ёсць Бог, — адзіны, неспазнаны,*
*усясветны?..*

*Ён, толькі Ён, — як вечнасць у труне:*
*Сам для сябе, і вечна непаўторны...*
*А хто ж тут я? Што застаецца мне?*
*Што будзе там, за тым парогам зорным?*

*У Ім усё: і ява й небыццё,*
*Ён і тварэц, Ён і само знікненне.*
*А я? А я ў Ягонае жыццё*
*Зямное — і наіўнае — памкненне.*

* * *

*Камп'ютара мёртвыя формы,*
*Хароны жывога агню...*
*Знікаю — жывы, непаўторны, —*
*А што ў небыцці даганю?..*

*Якія там знойдуцца словы?*
*А пэўна ж, гаворыць яно*
*Сваёю нязбытнаю мовай,*
*Што з намі яно заадно.*

*Камп'ютарнай вечнасці тайна*
*Ў сусвеце на саменькім дне,*
*І гэта яшчэ пытанне:*
*Я сёння — жыву ці не?..*

## Характар

*Угодлівыя ці талерантныя?—*
*Тасуе гісторыя рысы:*
*Ці выжывання гарантыя,*
*Ці пасіянарнасці прысак?*

*Абачлівасць ці непарушнасць,*
*Улежнасць ці абыякавасць?*
*Ці час: «на вярбе ігрушы» —*
*Салодка надзею кунежыць?..*

*Ці сэнс: «Ат, было б што ў місе»,*
*Ці ўсё ў душы адгарэла?*
*Змарыўся народ? Ці змірыўся*
*З дзяцінствам сваім састарэлым?..*

* * *

*Як развітанне з небасхілам*
*Маіх, адлётных, журавоў, —*
*Адкуль ты, незямная сіла,*
*Мяне трывожыш зноў і зноў?..*

*Я ўсё спазнаў: і зло, і ласку, —*
*Я на жыцці не кіну цень,*
*Але якой аздобіць казкай*
*Свой вольны грэх — твой кожны дзень?..*
*З табой, мая бяда і доля,*
*У небыццё — не ў забыццё*
*Ляціць абманлівая воля,*
*Як стылай восені лісцё...*

*Халодным позіркам планета*
*З-пад жураўлінага крыла*
*Вясну крыжуе над сусветам,*
*Што ў судны дзень мяне знайшла,*
*Навек зняволіўшы сакрэтам:*
*«За што, за што мне радасць гэта*
*Ўсявышнім дадзена была?..»*

* * *

*Самазванцы дваццаць першага*
*стагоддзя, —*
*Вы адкуль і вы чые сыны?*
*Прарастаюць з семені бязроддзя*
*На здзічэлым полі палыны.*

*Самародцы дваццаць першага стагоддзя,*
*Прыкарытнай велічы чыны, —*
*Ля карыта свой свайго і плодзіць:*
*Лыч у лыч — з калыскі да труны.*

*Самахвальцы дваццаць першага стагоддзя,*
*Казак дзіўных тэлебаюны, —*
*Ды чамусьці моўчкі абыходзіць*
*Будучыня вашыя званы...*

*Самаўладцы дваццаць першага стагоддзя,*
*Шулы вертыкальнае сцяны, —*
*Хто душу народа адгародзіць*
*Ад уладнай шулерскай маны?..*

* * *

*Здаецца ж, усё было, як было,*
*І засталося ў той меры.*
*Адкуль падступіла, адкуль наплыло, —*
*І сам сабе ўжо не верыш.*

*Травой-муравой зашаптаў тратуар,*
*Вясною дыхнула ўвосень,*
*І вечнасць назад павярнуў каляндар, —*
*Як быццам раней не жы-*
*лося.*

*І ногі га-*
*то-*
*выя да*
*«казач-*
*ка»,*
*І просіцца песня*
*на вусны,*
*І ўспомніла стан трапяткі*
*рука,*
*І ў зрэнках праменьчык хруснуў.*



*І на мяне паглядзеўшы: —Ага!.. —*
*Грак вынес прысуд грачыны.*
*А што тут «агакаць»? — Бог памагаў:*
*Насустрач прайшла жанчына!..*

## Дарога

*Дарог на свеце многа,*
*А дорага адна:*
*Да роднага парога*
*Вядзе заўжды яна.*

*Калі б дарогу тую*
*Ды ў нітку распрастаць,*
*Напэўна б, і святую*
*Зямлю ты мог дастаць.*

*Якія далягляды,*
*Высокасны прастор!—*
*Ідзі, ідзі — не падай:*
*Дарога аж да зор!*

*Але ж яна — зямная*
*І ў рай прамых шляхоў*
*Не мела і не мае, —*
*Не абмінеш грахоў...*

*Дарога не пытае,*
*Куды і хто ідзе,*
*Дарога — не вяртае,*
*Яна адно — вядзе.*

*Дарога — не сяброўка:*
*Не скажаш: «Адпусці...», —*
*Няма такой, каб зноўку*
*Сваё жыццё прайсці...*

*І я такой не маю...*
*Жарсцвяніць каляя,*
*Крутая, не прамая,*
*Але яна — мая...*

*Я ў свет выходзіў з Богам*
*З-пад роднае страхі, —*
*Прабач, прабач, дарога,*
*За ўсе мае грахі...*

## З барышом

*Я добры тым, што добры не зусім,*
*І сам сябе падхвальваю, што ў*
*модлах*
*Ніколі ў д'ябла грыму не*
*прасіў,*
*Каб выгляд мець*
*напышлівы і*
*модны.*

*Узор-*
*ны зорны*
*— гэта не*
*пра нас.*
*Грахі прасей-*
*ваць не прыдбаў я сіта,*
*Не ныў, адпрасаваны напаказ,*
*На свяце задаволеных і сытых.*

*Душой, як загудроненай шашой,*
*Пад колы ўлады слугаваць не клаўся,*
*Кахання, як манах, не абышоў,*
*І чарку прыгарнуць — амаль што класік...*

*Як хораша, што я жывы жыву,*
*Што я жыўцом у бронзе не адліты,*
*Даўжнік жыцця, — вось гэтым і слыву,*
*І гэтым, сціпла скажам, знакаміты.*

*Даўжнік!.. — Таму й спяшаю абвясціць,*
*Бо час ляціць, і пяць не маю жыццяў:*
*Каму за гэту радасць заплаціць? —*
*Ды з барышом наверх! — Хутчэй скажыце!..*

## Дзень забітых дзвярэй

*Дзверы ў свет, дзе да клямкі ледзь-ледзь*
*даставаў —*
*Той, якую ў мароз траскучы*
*Па «навуцы» старэйшых лізнуць*
*спрабаваў*
*І язык прымарожваў балюча...*

*Дзверы ў госці, дзе й ноччу*
*на клямку рука*
*Патрапляла па-гаспадарску,*
*Дзверы, дзе з вандраванняў парог чакаў*
*Маіх крокаў, далёка не царскіх...*

*Гэта свята было — дзень жаданых*
*сустрэч:*
*Хата дзверы трымала насцеж,*
*Смажыць, скварыць, варыць*
*не стамлялася печ,*
*Стол гайдаў у кілішках прычасце...*

*Апусцела гняздо, разляцеліся ўсе:*
*Хто — у горад, а хто — на пагосце...*
*Нелюдзеюць дзвярэй вушакі пакрысе,*
*А ўжо я тут — не знаюся й госцем...*

*Сёння іншае свята — старэй-не-старэй,*
*А дарога мая прычакала:*
*Дзень забітых дзвярэй,*
*дзень забытых дзвярэй, —*
*На цвіках, на замках, на завалах...*

## Спытайце цагліну...

*Якая ўважная ў нас міліцыя,*
*А самы ўважны, бадай, АМАП:*
*Уважаць усіх — і тых, хто на мыліцах,*
*І юных, — адно пад дубінку патрап...*

*А майце за ўдачу, калі вы патрапілі*
*Пад апеку тых, хто за гонар свой*
*Уважаюць берэт нахлабучыць крапавы*
*І цагліны з размаху б'юць галавой.*

*Гэтыя й вам адшукаюць прычыну*
*Пасмакаваць, чым служба жыве,*
*Бо якая розніца: галавой аб цагліну*
*Ці цаглінаю па галаве?..*

## Вузялкі дзеля памяці

*Каса, як вуда,*
*Ды рэжа худа:*
*Каса без клёпу —*
*Язык без клёку.*

*Знясуць з узлоб'я*
*Ў кювет калёсы,*
*Як пры аглоблях*
*Няма атосаў.*

*Няма бяседы*
*Без лішняй чаркі, —*
*А з ёю — беды,*
*Грызня ды сваркі.*

*Пішчом не годна*
*На неба лезці,*
*Усенародна*
*Спраўляць ушэсце.*

*Хай канкурэнты*
*Грабуць дашчэнту:*
*Стрыгуць працэнты*
*З апладысментаў.*

*Бяссмерця тайне,*
*Як Богу, верце:*
*Жыцця не стане —*
*Не будзе й смерці.*

* * *

*На стрэлках часу толькі «зараз»*
*Век адзначае малады.*
*А час ідзе — і ўжо напару*
*Два словы: «зараз» і «тады»...*

*Хусцінкай лёгкаю штовечар*
*Ружовіў захад твар зямлі.*
*І развітанні — як сустрэчы:*
*З надзеяй светлаю былі...*

*Прыйшло — прагнозаў абяцанні*
*Гнятуць: адны «цяжкія дні»...*
*Сустрэчы — нібы развітанні*
*Ў перадсусветнай цішыні...*

*О стрэлкі часу,*
*Стрэмкі часу...*

# Мапа на далоні



Марыя ВАЙЦЯШОНАК

## Каляднае

### Вовачка

Ён тэлефануе на мабільны, што вось ідзе з дачкой каля майго дома, што хоча павітацца — мне трэба падысці да вакна.

Восьмы паверх, заўсёды пужаюся, што не адразу разгледжу, дзе яны стаяць, ужо махаю адной рукой, бегучы па пакоях з кухні, у другой жэзва для кавы. А мне было (такі выдаўся нерухомы час) — не адарваць ногі ад зямлі.

Яны стаяць блізка адно да аднаго, як з аднаго кораня, закінуўшы галовы, падняўшы твары, стаяць... у белым, як прывіды, каб не ранак, і ледзь здагадваюся: гэта сёння святочны, веснавы, маёвы дзень. І ў мяне на вачах прарастаюць ваконныя рамы, першая клейкая лістота гаёвая. Керамічная птушка на падваконні дастае з-пад крыла керамічную свістульку. Божа, яшчэ ні людзей, ні руху, а яны ўжо прыбраліся са сваімі бяссоннымі начамі, адчаем і перамогамі бясконцымі, каб не спазніцца, далучыцца да ўсіх.

Мне здаецца: так ходзіць па горадзе Бог, пасадзіўшы пад храмам жабракоў, іх часта бачу ў скверы каля Магдаліны. Яны сядзяць на поручнях лавак, урадок, па-птушынаму, ловячы свежае паветра пасля падвальных сырых начэй, ловячы сонца. Гаворка ціхая, ранішняя, амаль табе катораму малазнаёмая, калі ты маеш свой дом.

Бог выпускае са скляпенняў згубленых, бяздомных істотаў, выводзіць Валодзю з дачкой калекай, дзень у дзень.

Іншы раз я баюся зазірнуць ёй у вочы, убачыць, не разглядзеўшы, вар'яцтва — а ў яе высокая місія.

Вовачка зусім сівы, галава крыху ўскінута, бы ўвесь час углядаецца ўгору, нехта яму падае знакі — ідзе далей. У гаворцы не заўсёды ўдзельнічае, адзываецца аднымі выклічнікамі, — засяроджана нешта мацуецца ўнутры, парушанае людзьмі, і нечакана раптам гаваркі, як ручай, весела пераскокваючы праз паленне, каменне, свае звыклыя перашкоды, смех лёгкі, такуючы, смех вызвалення.

Ім іншы раз бабулі ў пераходах метро дораць рукаўкі, шкарпэткі — за што? За тое, што седзячы з пруткамі дзень-ноч, крыпаючы вочка ўлева, вочка ўправа, ды й з накідам, слепішся, слепнеш, і раптам з'ява: чыста Святы Дух! Дораць за напамінак: вера патрабуе нашага сэрца.

Добрай раніцы, мой маёвы горад. Стаўлю жэзву на пліту, мне едка ў вачах, слёзы градам, бы ад дыму, бы я на гарачым вуголлі гатую сабе каву, раскашую.

Бы ў гасцях...

### Андрук

Лязг старога ліфта, лязг жалезя цяжкога, і ні ў якім разе, што падымаешся ўверх — так спускаюцца ў шахты шрэк. Ужо бачыш скібы, слаі глебы праз шкло: зямля, пясок, гліна.

Гліна мае памяць.

Дзверы расчыняюцца.

Калідор, бы вясковыя сенцы на некалькі катухоў разбіты. Дзверы цвікамі прымацаваныя, і зайсці ў свой катух можна толькі хіба з абцугамі і зноў за сабой забіць, абавязкова. Тут калісьці жыў сабака, кажа Хрысціна, паказваючы ўбок, і я чую яго голас, ён усім надакучаў.

Мне адчыняюць дзверы падвойныя, бы вечка чамадана, куфра, кубла.

Зайшоўшы ў пакой, час можна не заўважыць. Ён стаіць тут з вешаком, каб вас спыніць каля сябе, затрымаць надоўга, можа, назаўсёды, хоча павесіць вашу вопратку, можа ўдасца вам запамятаваць, дзе яна пакінута. Я не распранаюся. Ён так і стаіць.

Шоргат скрылля — прыляцелі галубы (адчынены балкон), можна спадзявацца, што гэты пакой жывы. Шырокі ложак пасярод, птушкі злятаюцца, на жалезных брыжах і начуюць. Такая старая пасцеля, дарала б яе ўбачыць і на сметніку ці ў садзе, што звычайна ў дзявочых снах.

Хрысціна тут не гаспадыня, прыходзіць і адыходзіць, калінікалі. А можа залятае праз балкон разам з галубамі. Ступае босай нагой на ложак — гандолу, разам з гаспадаром вяслуюць да другога берага сваёй маладосці. Ніхто не ведае пра ейныя справы, занятак, на ейным заблытаным птушыным шляху кожны чалавек — паляўнічы.

Тут на вачах стаяць валізка, папяровы карабок, перавязаны матузом, даўно стаяць, рэчы памерлага ў другім горадзе, у другой сям'і бацькі гаспадара. Вось ён, толькі прыехаў сюды, вярнуўся, ён недзе тут, несумненна, вітае ў пакоі пах старэчай адзежы, і ты запавольваеш рухі, крокі, як звычайна каля старых людзей.

Каля вакна на плячо фатэля накінута калісьці матчына футра з краля, фатэль брычкай, утульным вазком, які спыніўся ў часе і нехта во сыйшоў, прыехаўшы, ён у доме, на некаторы час, на спатканне — з кім? — бо конь запрэжаны каля ганка, мне так думаецца.

Калі не стала маці, малады гаспадар нічога не скрануў з мейсца, нічога новага не набываў — ён жыў сярод старых рэчаў, з старымі рэчамі. На сцяне адляцела шпаклёўка, у мяне пад нагамі рабусціць друз, хаця гэта немагчыма — гаспадар кожны дзень здымае пыл, ажыўляе рэчы, успаміны.

Гэты дом можна было б скласці ў кніжку, як рэдкі цвяток, а потым праз гады выпадкова знайсці — ён не згубіць свой дзіўны пах.

Ён мог быць маім, куды зводжу, купляючы на кірмашах камусьці непатрэбнае, але яшчэ жывое. Мне неабходны старыя рэчы, хай сабе і чужыя — хай мой дом меў біяграфію, гісторыю, меў свае ўспаміны. У мяне ад бацькоўскага дома ані трэскі.

Пра што мы гаварылі? А хіба гаварылі?

Тут яшчэ жывуць другія галасы, гукі, іншыя словы, падняўшыся пад столь, нячутна ападуць далоў з папяровым шоргатам ад ветру з балкона.

Як я сюды трапіла? Хіба мяне хто запрашаў, рыхтаваў пачастунак? На стале тое, што засталося ад снядання, а можа ад учарашняга — памінальны стол, які пакідаюць, яго нельга прыбіраць на ноч...

Калі з пагорка ад Магдаліны спусціцца па сходках уніз і праз трамвайныя рэйкі, якраз напроці, праз нізкую брамку — гэты дом. Я вяртаюся сюды і вяртаюся, гаспадары і не здагадваюцца. Саджуся ў фатэль, на плечы ягоныя старыя накінута старое футра, фатэль брычкай, вазком, запрэжаны маім жарабцом Ірысам.

І да касцёла!

Казалі ў Грыдзьках, за польскім часам Ірыс меў на выставах узнагароды. Конь у яблыкі, казалі...

### Аліна

«Што гэта табе ёсць? Маша звалілася з лесвіцы, а ты дзе быў, не падтрымаў? — Яна паляцела не ўніз, а ўверх...» — перагаворваліся потым мае мужчыны.

Праўда, уверсе, у небе таксама шмат перашкод: грузалле, гарачая пудраванка вулканаў, як пасля пікнікоў грэчаскіх багоў, сонечныя промні лазерам — не перажаргаць, і самалёты, расклад іх рухаў не паспела даведацца — можна сутыкнуцца.

Зямля раптам вельмі блізка, як не наскрозь, касцьмі склаўшыся, ляжыш — і першае: вось яна табе, твая бяда. Некалькі сходак, такая малая адлегласць ад ранейшага звыклага стану. Імгненне матэрыялізавалася і шмякнулася побач, аніяк нельга аднавіць у памяці: як гэта адбылося? Трэба ўстаць... анікога... трэба скласці шкілет, завінціць, як было, не пераблытаць левае з правым... анікога... не да смеху... анікога бліжэй начной кашулі і дзень, і два, і болей.

Тэлефон: я еду, збяры адзежу, я памыю, а што з ежы? забяру цябе памыцца... не можаш? я ўсё зраблю...

Крэўны дотык, нечаканы, запамятаваны, як згублены ключ ад роднага дому, ад усяго чалавечага роду.

Знак супакою.

Працягваю руку, адчыняю захраслыя дзверы, каб упусціць анёлаў.

Яны ўсе спарадку падобныя да Аліны: нізенькія, бухматыя, у камізэльках, перабіраюць ножкамі, спяшаюцца.

Яна спяшаецца заўсёды: некага там пабіў муж п'яны, — трэба адвезці ў другі горад да маці, пакуль свара ўсціхне; некаму зёлкі, лекі, абаранкі для ўцехі, некаму ласку боскую. Сядзіць сама за рулём, падымае рукі, раскрывае далоні чашамі, замаўкае, толькі кратае вуснамі, трымае рукі так, пакуль не пацяжэюць. Ледзьве-ледзь прыпадымае крылы, заводзіць матор. Сонм анёлаў за ёю, дарожны патруль, пэўна, хрысціцца, калі ўмее: няўжо, маўляў, гэта ад учарашняга не прайшло? чад у галаве?

Я ж зусім мала ведаю, зусім. Дзе яна жыве, таксама. А праўда, дзе жывуць анёлы? Пэўна, на званіцы, каб першымі ведаць, чуць, што дзе адбываецца, каб паспець.

Аліна часцей у дарозе, можа і ноччу, уключыўшы, каб не заснуць, джаз, або «на далёкай Амазонцы не бываю ніколі».

Хаця для анёлаў не праблема, туды дастацца, абы ахвота.

* * *

Па радзімых плямах, па радзімках апазнаю нанова гэты амаль чужы горад, амаль незнаёмы горад, з якім іншы раз пачыста гублю сувязь, губляюся, не разумеючы, дзе я, з кім.

Тады шукаю знакі на ягонай мапе, як на сваёй далоні: Вовачка — блакітным, Андрук — юлёвым, Аліна... — нябесным. Потым рака, цэрквы, касцёлы, сінагога, менавіта сінагога старая. Зімой з ейнага коміна на марозе ішоў пахнючы дым.

Тады яшчэ Хрыстос цепліў дровамі...

## Багавіцы любові

### Сонечнае кола

Маўчанне маладой жанчыны, бы спакой пані на партрэце ў дарагой раме насупраць.

Змяняла позу незаўважна, галаў павярнуўшы, з ценю на сонца пераходзячы.

Твар на памежжы звыкласці і прыгажосці залежаў ад асвятлення неба, ад ЯГОНАГА позірку, які яшчэ адчувала.

Зняла капялюш, і ён ужо за рамай, чужы, выпадкова некім пакінуты.

Гаварылі пра ЯГО, успаміналі дробязі, пілі каву, лёгка быццам пераходзілі на іншае — гасцявалі, прыехаўшы з горада. Не заўважалі слёз у ейных вачах, стаячыя слёзы — вокны пакінутага дома.

Раку за руку калісьці прывялі мужыкі, пусцілі праз вёску. Рэчка перабівала, уплятаючыся ў галасы. Гаварылі, гаварылі аб усім, раз пораз чуваўся то плёскат, то бульканне ў вузкае горла бутэлькі паляўнічага ці пастуха, сцюдзёная вада з горным норавам, бы скочыўшы сюды са скалы. Праз вёску, блізка, як праз хату, праз сад.

Гаварылі, гаварылі. Палкая размова на другім беразе сухім трэскам, а потым — спеў, падобны на галашэнне: кароткія, аднатонныя паўторы, бы абрываючы сябе за крысо, і без пакуты, як замова на ваду. Каму голас належаў? Са старых жанчын у вёсцы толькі хворая на галаву баба Зося.

Маладая жанчына расплакалася як не ўголас, раптоўна, бы дзіця, якое стрымлівалася доўга... ад крыўды. На ўсё жывое навокал. Здзічэўшы ад гора, высцілала, укладала побач з ІМ коней, зброю, усе фарбы, скарбы мастака, і сама наастатку.

Ужо адышлі ўсе памінкі, дзевяць, сорак дзён, успаміны, спагады, лягчэй не ставала.

Будзь прагавітай на гора як і на шчасце, не спадзявайся на помач, ні з кім не дзялі, яно толькі тваё, скажа самая старэйшая з іх, а можа падумалася кожнай немаладой жанчыне за сталом, што перабіралі свае радасці, беды, гора, як на ружанцы.

«У мяне маё» — падумала адна з іх, першая жонка мастака, яна папраўляла маладошай валасы, здымала і здымала ўсе дні побач чорныя покрывы, усцілаючы імі сад, поле да лесу, смутак чэзнуў, як туман, была вясна, рух, галасы ішлі ад зямлі, увысь, як дзіцячы спеў у час ютрані. Хавала свой жаль у маладшай на плячы па-мацярынску. Адышла ад стала на хвіліну, скочыла ў човен шамана, адплывала, таксама адчуваючы, што ЁН побач. І як ніхто разумеў: можна плысці супраць цячэння, не вяслуючы.

І яшчэ адна жанчына, крыху ўбаку на рагу стала, пачуўшы мужчынскія галасы на вуліцы, прыпадымалася, бы на кані, намацвала нагой стрэмя, лавіла, адзывалася на голас, як на паляўнічы ражок вечных ловаў. Хто ёй? каторы? калі? скажа, акрамя ЯГО, што яна падобна на француэанку, ягоную трэцюю жонку ў Францыі.

Іхны час ляцеў, мінаў. Старэйшая заўсёды меркавалася сесці бліжэй да вакна.

Жанчыны, яны ўсе ішлі па высахлым рэчышчы сваіх жарсцяў. Ён аддаляўся ад іх на сонечным ровары з адным колам (адзін з нязджмана дзіўных праектаў перамяшчэння, руху ў небе), губляў залатыя спіцы.

Жанчыны падымалі іх, ушпільваючы сабе ў валасы.

Адна чыркнула бліскучым аўтографам маланкі... Генюсь Хацкевіч.

### Прычасце

Ідучы каля Юзэфінай хаты, азірнешся, быццам спатыкнуўшыся — анікога. Хоць ідзі і пакліч, пашукай, дзе яна: можа, на печы, ці на ложку, ці накуця, як абразок — яна недзе тут.Тут, у хаце, цяпер усё па-другому, анічога ейнага, засланяе сабой на момант увахад гараджанка, якая здымае хату на лета.

Але вось яно — вакно, міжволі паварочваешся, глядзіш, пэўна, часцей за ўсё вунь туды, каб пазнаць, хто там ідзе па вуліцы: кот прыходзіць пад раніцу, трэба ўпусціць у хату, і цяпер во пад дзвярыма. А якое надвор'е? А ці высока яшчэ сонца? Тут настоенае, аблюбаванае старой гаспадыняй мейсца, тут яшчэ цёпла найболей.

Тут хочацца даўжэй пастаяць, бы Юзэфа побач.

Вось тая лава, неяк давялося зазірнуць у хату, нешта папытацца. Лезла з печы, кацілася, спяшалася, і не патрывожылі мы яе, не бойцеся — быццам нас чакала. У хаце даўно такі нечапаны парадак. Ужо баба Юзэфа хадзіла, жыла, скарачаючы свае сцежкі ў наваколлі і ў хаце, паступова

пакідаючы тое-сёе на сваім мейсцы, не чапаючы рэчы, хай сабе і патрэбныя наразе, адыходзіла з хаты памаленьку, нічым і моцна пільным не карыстаючыся.

І цяпер ейны цень, каб нікога не патрывожыць, можа слізгануць па сцяне — галінкай яблыні.

І яна во па гэтай лаве рукой раз-пораз, запрашаючы сесьці, дзьмухала на яе, хукала, месцячы мне, сцелючы, як дзікаму кацяняці, паказваючы, дзе ягоны, нарэшце, дом — ён тут.

А то было машына наша захрасла якраз напроці бабы Юзэфы. Яна, нічога ўжо не чуючы, пільнавалася жыцця адным вокам, ішла да нас, несла дошку пад кола, быццам адламаўшы яе ад стала ці ад дзвярэй у хаце. Несла, прыціснуўшы да грудзей, несла, пэўна, моцна беражонае, жывучы без мужыка, каб у плоце загарадзіць дзірку ад курэй ці так што якое.

Мы тады хутка вылезлі на дарогу, яна засталася стаяць і глядзела ўслед. Ту́га павязана хустка на галаве, і ўся яна, як спавітая, ва ўсё, што мела, на холадзе, нерухома стаяла, непарушная ў сваёй шчырасці.

Назаўтра едучы, аніякай выбоіны на гэтым мейсцы і не было, можа, мне атумысла была яна патрэбна, гэтая сустрэча, каб маё сэрца памякчэла?

Даехаўшы да свайго лецішча, спынілася і, адпусціўшыся на ўсё благое паміж намі, набрала твой нумар.

Надзя, пытаюся ў суседкі, а што баба Юзэфа, якая яна? Найлепшая самая, адказвае, найхарошчая.

Яна, каторая можа стаяць ля любой дарогі з ягадамі ці грыбамі, быццам дзеля прыліку гэты продаж. І мне не мусова патрэбна, а я куплю, спыняюся, каб нешта ўзяць з ейных рук, загаварыць — як прычасце, прычасце да лесу, да поля, прычасце любові.

Сама баба Надзя, што мяне дзівіць да пуду, ідзе па грыбы дык па грыбы, няхай немаведама якое надвор'е. Дождж, дрэвы палошчуцца, як на плыні рачной, бы па самым дне, ідзе запаволена, не захінаючыся (які гэта ёй дождж!), вада скочваецца з твару, як з яблыка.

Жыве ў маім канцы. То неяк прыбегла пад ганак наказаць: ласіха з дзіцем за мастом, скарэй! Бегла, была паваліўшыся, уся ў гразі.

Я за ёй не паспяваю, у мяне адна думка, каб хаця тая ласіха не схавалася ў лесе, каб не дарэмна яна бегла па мяне, несучы лепшую палову свайго свету на ўцеху другому чалавеку.

Дзе, каму перайшлі ейныя зрухі, хто пераняў ейнае дыханне?

Скрозь сон іншы раз чую нейкія гукі ў начным небе, бы тачку нехта цягне, такі звыклы рух; гукі, як на зямлі, пэўна, і там каторая з нашых баб, таксама ўпрогшыся ў работу, — усё на сабе.

Цяпер баба Надзя нічога не робіць, ледзьве дасталася ў той канец да Юзэфы, абедзьве ў плач — так даўно бачыліся. Сядзіць на панадворку, высока сядзіць на вялікім камені, ажаргаўшы яго, як свой помнік, даруй, Божа, на кладах, не даецца смерці, сварыцца з мужыком абы за што якое, спаганяючы маладое каханне — ён таму каханню варты не меў.

Адхінае хустку — валёнку, заводзіць за вуха, каб лепш чувалася: куды ён пайшоў? Ці бачыла ты яго? Дзе гэта ён? Пытаецца без патрэбы, абы той з вачэй. Нашто ён табе? Злуюся, няхай бы сама ціхенька без нерваў пасядзела, адпачыла. Хачу хоць цяпер памерці разам, кажа, маўляў, гэтых амураў у вёсцы! невыводныя век, асабліва іх поўна ў вішанні, як пчол, поўна. А ёй мужык у хаце цяпер — гэта, як той казаў, унутраны вораг, не паварочвайся да яго спінай.

Каб пагаварыць пра каханне, папытацца каго, ніхто без жартаў не адкажа, як з пазыкай звяртаешся перад вялікім святам. Але ж во і прагаварылася: разам памерці. Букет, бачыш, ён паставіў на верандзе, стары чалавек. Гэта насцярожвае, што праўда, то праўда.

За плотам міргнула яркая хустка суседкі, век у яе грэбень чырвоны, век у ахвоце.

Ідзе баба Надзя дробнымі крокамі, на дарозе, абы каго ўбачыла, яшчэ пушчэй прыпускае, каб заспець чалавека, пагаварыць. Пра што б сама не распавядала, ніводнага ў ейнай гаворцы слова ўчарашняга ці чужога.

Але яшчэ будзе час, яшчэ мы нагаворымся, яшчэ мы ўсе нікуды не дзенемся і ніколі.

Мы хаваемся, абы ўбачылі яе: няма часу, няма! Разбягаемся, бокам усё, бокам, быццам не бачачы, што яна спяшаецца да нас, бокам, з пагляднай у ейную старану, дзе жыве.

Яна ловіць нас, бы пулянят, збірае ў прыпол, нясе, высыпае сабе на веранду, зачыняе дзверы, каб не ўцяклі — каб нарэшце-такі нагаварыцца.

Мы не даемся, шчэмімся паміж ейных нягнуткіх ног, растапырыўшы скрылле пісклюкамі, аж пыл ідзе.

Мы не верым у смерць, у старасць. А тут яна, старасць, падышла раптоўна, ходзіць па вуліцы, твар быццам знаёмы. Цурайся не цурайся, а ад яе сыходзіць статычная хваля, як ад гліны, яна супадае з нашым маладым целам.

Іхныя адыходзіны вятрамі выхаладжваюць і маё жытло, быццам доўга-доўга ішла і ісці яшчэ спора, і вось заначавала ў чужым, пакінутым доме.

Адыходзяць без аркестра, без музыкаў, ціха, некалькі, адна-дзве таварышак ззаду. Мужыка ледзь знойдуць жывога, каб каторай ейны цяжкі крыж у рукі даць несці. І без галашэння, быццам ужо і па пары адысці.

І гэта ўсё?!

І раптам голас, вядома, мужчынскі: мужаў? палюбоўніка? Адтуль, дзе можна яшчэ сустрэцца? Хоць ты вазьмі і падымі голаў.

Заспяваў айцец Мікалай з Залаўя. Спеў нечуваны на зямлі, з паднябесся. Спеў пад купалам неба, як у храме, дзе лес, поле, хаты, сады. Жыццё хай сабе і просценькае, адразу набыло высокі сэнс, веліч.

Жыццё, як дар.

Паступова ў ім пачуеш і спеў старога Венечкі, калі пасвіў кароў, сам сабе спяваў, а голас зычны, чысты, наскрозь поле.

Ці спеў у хаце маёй цёці Марылькі, калі нешта зашывала, латала вялізнай іголкай, шывок за шыўком, шырока, марудна, яны быццам клаліся на музыку, слова за словам, што ўзыдуць на памяць, пакуль не скончыцца нітка.

Пагалоска ад зямлі, з лесу: ідзе хваля грыбная — апёнкі!

Будзёныя галасы, галасы суцяшэння.

І памерці, пачуўшы, ах, Божа мой, гэта як проста шчыльна прыціснуць, зачыніць за сабой дзверы, у сцюжу, вядома.

Ужо і Стасіну хату ейныя дзеці абставілі ад сонечнага боку, якраз як знарочыста, бітым шыферам, усім чым непатрэбным, толькі што дзверы яшчэ не падпёртыя звонку, кажу ёй, жартуючы.

А я не бачу, дзівіцца, нахіляецца, падымае з-пад ног, каб нечым рукі заняць, дубчык лёгенькі, бы веснавая птушка ў дзюбу. Зараз узляціць на дрэва будаваць сабе гняздо, сонечнае з усіх бакоў, сухое, без платоў і загародак. Да Паўліка, мужа, нядаўна ездзіла на клады, наведалася, кажа. Гаварыла пра яго, гаварыла, шчэпала на грудзях, перабірала пальцамі, нешта папраўляючы, бы толькі што во пераапранулася нават дзеля гаворкі нашай пра яго, не тое што.

І я бачу адразу — неяк была ўзышоўшы нечакана: яны сядзяць насупраць адно аднаго, на чыстым стале яблык. Во, кажа Стася, першы яблык ад маладзенькай яблыні, дачакаліся, будзем каштаваць. Сядзяць амаль урачыста. І мяне пасадзілі побач і рэжуць яблык ужо на тры долечкі.

Я заўсёды мела сабе ад іх добрую долю радасці, долю любові.

Зверху аднекуль голас сініцы. Птушка ледзьве дакранулася смычком, спрабуючы, ці настроена тут, як было пры старым гаспадары, на вясковы лад.

Стася ў маладосці вучылася іграць на скрыпцы.

Ці яны, дзеці, пра яе гэтага не ведалі, ці ім не на памяці, што маюць побач пеўчую душу...

Адна за адной, як на кані ў тарантасе, едучы разам на буракі ці бульбу, знікаюць мае багавіцы любові з вачэй вунь там, дзе вуліца, хістаючыся, паварочвае ўбок.

І, здаецца, вечарам вернуцца, як было дагэтуль.

Галасы далей і далей. Толькі крылатыя белыя хусткі яшчэ відаюцца. Ужо не разгледзець, хто там лейцамі кіруе, пэўна ж Бог.

Дарога выбеленая, шырокая; пакацілася за імі па ёй маё сонца.

Дождж ноччу праз адчыненае вакно зусім блізка, ляжыш у ложку, як пад дрэвам, дождж ціхі, роўны, бы плач палёгкі. Толькі невядома, на якім ты свеце, адно больш пэўна, што ў раі.

Ці плачаце вы ў сне, не памятаючы раніцай, што вам бачылася?..



### Рымскі сняданак

Сяброўкі, вярнуўшыся з Рыма, наперабой распавядаюць пра атэль прыватны, Калізей, форум Аўгуста, шопінг, аксесуары са скуры пад пітона, выставу Вяцолі, любімца моды і арта, пра праект Джоні, які ўключае ў экспазіцыю працы самавучак, нікому не вядомых аўтараў — ён называе мастацтвам усё, што заўгодна. Вядома, ягоную «світу» мадэлек, як калісьці знакамітых рымлянак, іх не суправаджае цэлы статак асліц, каб было абмаладзіцца ў свежых малочных ваннах, але...

Але што падаюць у Рыме на сняданак?

Мне хочацца зайсці ў Рым чалядніцай, палюбоўніцай на досвітку з кубкам эспрэса. Жабрачкай з сабакамі, як тая, што падмывала ім хвасты каля калонкі на вуліцы, не звяртаючы ўвагі на здзіўленых, зніякавелых на момант японак і нас, былі праездам. Толькі на момант, сумеўшыся, мы ўсе разам зразумелі, што Рым для яе не прытулак, не скляпенне, дзе яна з сабакамі, можа, начавала.

Рым — гэта ейны ДОМ.

Хачу, спяшаючыся, як калісьці, за свежымі кручонікамі, бегчы па вузкім тратуары і яшчэ, і яшчэ раз азірнуцца на маладога мужчыну, з якім разміналася блізка, цесна, быццам ледзьве здолела выпырхнуць з ягоных ранішніх абдымкаў...

Мне пільна трэба на гэтым сёняшнім часе, як на змроку, дастацца да Маці Божай з дзіцем у базіліцы Санта Марыя Маджорэ, такая яна вясковая на здымку, блізкая, быццам калісьці ўжо бачыліся.

Дык што цяпер падаюць у Рыме на сняданак?

Рым, я прыняла тваю любоўную атруту, трымаючы кубак абедзвюма рукамі, бы на ранку сваёй маладосці...

# На Каляды



Таццяна БАРЫСІК

Чорнаю хусткай апусцілася на зямлю калядная ноч. Дзікія слівы цягнулі ўвышкі свае каравыя лапы. На неба ўзышлі зоры-зарніцы, божыя памочніцы. Пад адзіным на дзве вёскі ліхтаром ззяла мільёнамі бітых шкельцаў снежная неруш. Белы дол стаіўся ў чаканні цуду. Паўсюднае бязлюддзе і цішыня аж да звону ў вушах зрабіліся звыклымі і даўно нікога не насцярожвалі.

Напачатку дваццаць першага стагоддзя, ідучы след у след, таптала каляіну на бальшаку, што яднаў Лужок і Засценак, калядная чарада. У Лужку засталося пяць жылых хат, у Засценку вокны свяціліся ў чатырох.

Першым, упэўнена раскідаючы снег валёнкамі, рушыў жвава дробненькі Андрэй Казачок. У параўнанні з астатнімі, асабліва здаля, ён глядзеўся падлеткам. За ім у шырачэзных спарціўках з лампасамі, плюшаўцы, большай на тры памеры, чым трэба, што матляецца на ёй як на плоце, з вусамі, падмаляванымі вугельчыкам, зыркае вачыма на белы свет з-пад шапкі-кубанкі «бывай 90-я» ссохлая ў трэску кабета гадоў пяцідзесяці, жыхарка Лужкоў Валя Чацвяртушка. Такую ўжо долю пакінула ў спадчыну маці разам з мянушкаю. Як есці і піць — дык усе, а як рабіць, дык толькі Валя. Яна і ў гародзе, яна і на ферме, яна і з караваю, яна і ў ягады, яна прыбраць, наварыць і памыць. Але ж колькі ні высільвайся — тваражок, смятанка і мяса ўмомант разыходзяцца, на стале застаецца пярлоўка, смажаная на крамным тлушчы бульба ды таннае віно. Зачынілі ферму — грошай не стала зусім, магчымасці выручыць паўлітру якога пойла за дарэмны камбікорм ці зерне таксама. Пакрысе звялася яе сямеечка: памерла ад інсульту маці, атруціўся палёным спіртам бацька, п'яны брат засіліўся ў хляве на бэльцы, за ўгон мапеда патрапіў на хімію сын, дадому так і не вярнуўся, пайшоў недзе ў прымы. З усёй іхняе вялікае кодлы застаўся толькі мужык. Па маладосці такі ўжо ваяўнічы быў, такі заядлы, як вып'е, адразу біцца кідаецца, а пасля па яго міліцыя едзе. Цяперака ўжо нікуды не лезе, толькі ляжыць на ложку і стогне з тае пары, як з апошняй адсідкі вярнуўся. Спярша сухоты ў яго прызнавалі, пасля і ногі адняло. І зноўку ўсё на адны Валіны рукі. Мала, што ягады ўлетку, гарод і «хадзяйства», дык яшчэ з-пад яго мый ды вынось!

Добра, Андрэйка, нябожчыка Лёнькі Лупатага пасынак, калі-нікалі памагае. Сірата пры жывой матцы, каб яе зямля не насіла, прайдзісветку прыблудную! Вось і сёння зайшоў у госці ды яшчэ са сваімі ста грамамі, ля печы пагрэўся, пад'еў трохі. Валя яму і кажа: «Сёння ж Багатая каляда, то хадзем у Засценак калядаваць. Яны тамака багатыя — усе пенсію палучаюць! Ды і карову ў Бога перакупіць трэба, каб не хварэла і ацялілася ўдала. Адзявай кажух на той бок — казлом будзеш». Ну, казлом дык казлом. Андрэйка і не думаў Валі пярэчыць, хаця ні пра якое калядаванне ніколі не чуў. Сцяміў толькі адно: яго клічуць на пагулянку, дзе кладуць каўбасу ў торбу, даюць выпіць. А мо і маладзіца якая да каго гасцяваць прыедзе, тады ён у шапку спаць не будзе, а адразу пойдзе ў прымы, бо ў горадзе ўсе багатыя, на машынах ездзяць, і печ паліць не трэба.

Надта ж бедным на радасці і забавы выдалася ягонае дзяцінства і маладосць. Гадоў з васьмі гадаваўся ў інтэрнаце. Там краў з тумбачак круглыя пячэнікі, большыя хлопцы білі за тое, а бараніць не было каму. Маці падзелася некуды, як яшчэ малы быў, а знайшлася, калі ў восьмым класе вучыўся, забрала і павезла ў Расію да цыгана. У цыгана ён даглядаў быдла, а матка — цыганятаў. Аднаго разу яна пайшла ў горад на кірмаш і зноўку знікла. А праз год напісала ліст, маўляў, прыязджай, сынку, да мяне, я выйшла замуж у вёску за добрага чалавека. Андрэйка назбіраў грошай на дарогу і дызелямі з перасадкамі, баючыся, каб міліцыя не забрала, бо ў свае дзевятнаццаць так і не прыдбаў пашпарта, дабраўся да Лужка. Новы айчым меў хату і каня, хаця й любіў выпіць, але гультаём не быў: улетку пасвіў калгасных цялятаў, разам з Андрэйкам пераворваў соткі тутэйшым дачнікам, збіраўся вясною купіць парася. Толькі не пашчасціла. Пайшоў летась Андрэйка ў мястэчка ў заработкі — калоць дровы адной бабцы. Атрымаў грошы, загуляў з Насцяю, другая хата злева, як на пошту ісці. Вярнуўся дадому дзён праз пяць — ні айчыма, ні маці, ні грошай на парася! Лёнька Лупаты ўгарэў, бо спаў выпіўшы, а юшка была зачыненай, грошы скралі невядома калі, маці кудысь падзелася, хавалі айчыма ўжо без яе. Людзі здагадваліся — усё гэта невыпадкова... Лёнькава сястра забрала каня, а хату прадала на лазню. То ж і яе бацькаўшчына! Андрэйку без дакументаў і сталай працы нічога не засталося, як перабрацца ў кінутую халупу і жыць там, перабіваючыся выпадковымі заробкамі. Хацеў у прымы прыстаць, але ў Лужку маладзіц не было.

Зараз у прадчуванні дарэмнай ежы і асабістага шчасця ды шчэ ў цёплым кажуху ён выбег на вуліцу і адразу сустрэўся са Сцёпішыным сынам, які ўчора быў п'яны, добры ды вясёлы і нават падарыў ваенныя штаны, а сёння, сумны і цвярозы, увесь калаціўся. Усё, што старая маці прыхавала на свята, ён выразаў яшчэ зранку і сноўдаўся па вуліцы з адзінай марай — пахмяліцца. У маладосці ён служыў у войску на звыштэрміновай, загадваў складам, потым ездзіў па шабашках, апошні год вартаваў дзіцячы садок. Калі выгналі і адтуль, жонка страціла цярпенне. Сцёпішын сын мусіў вярнуцца ў Лужок і вось ужо месяц сядзеў на матчыным карку. Прапанову пакалядаваць ён прыняў ахвотна, бо дзе ж ты знойдзеш паўлітру на цёмнай зімовай вуліцы?

Люба прыехала адведаць цётку акурат на каляды. Вядома, парадчыць у хаце і мыць бялізну ў святыя вечары нельга, але ісці па ваду ёй усё ж давялося, ад такога даручэння цёткі ніяк не адмажашся. Калядную чараду яна заўважыла ўжо ля калодзежа. Набрала вады ў вядро і ўглядалася ў цені, што нетаропка паўзлі па пустой цёмнай вуліцы. Валю Чацвяртушку і прыблуднага Андрэя пазнала адразу, а вось высокага мужчыну ў скуранцы і андатравай шапцы — не. Калі ў жніўні яна апошні раз прыязджала ў Лужок, тут такіх не было. Параўняліся, павіталіся.

— А, гэта ж во Сцёпішын сын Коля! — радасна прамовіла Чацвяртушка, апярэдзіўшы традыцыйнае «нешта я вас не знаю».

— Харошы дзядзька, мне ваенныя штаны падарыў! — пахваліўся Андрэйка, — мы ў Засценак калядаваць ідзём.

— Дык вы, можа, і сам з ваенных? — пацікавілася Любка.

— Было дзела... — з гонарам адказаў чалавек у скуранцы.

— Можа, і мне з вамі прайсціся? — у Любкі аж вочы загарэліся. Шчасце, здавалася, само йшло ў рукі. Праз якія пяць хвілінаў яна пераапранулася і выскачыла з хаты. Калядны строй Любкі ўяўляў сабою нешта сярэдняе паміж цыганкай і маці Божай: хустка з махрамі, доўгая спадніца, паўкажушок і скрутак з анучаў у руках — дзіця, значыць. Гэткая калядоўшчыца спрадвеку была тут у кожнай каляднай чарадзе. Вобраз дзіўным чынам пасаваў Любе, пры жаданні яна магла выдаць сябе за каго заўгодна. Бо была настолькі хітрай кабетай, што, здаецца, перахітрыла ўсіх, апроч сябе. Двухпакаёўку пасля мужавай смерці ў свякрухі адваявала? Адваявала! Увесь свой век рабіць рабіла, але на пуп асабліва не брала. Хіба дурніца якая на будоўлі ўкалваць ці за станком стаяць? Не. То буфетчыцай у санаторыі прыладзіцца, то камендантам у інтэрнаце. Хай сабе заробак і не вялікі, затое ў чыстым, у цёплым, маеш прыбытак і блат. Ад войска сына адмазала? Адмазала. А якую нявесту яму сасватала! Бацька яе над усім энерганаглядам начальнік, ды і сама маладзіца не бяды — золатам абвешаная. Час і пра сябе, урэшце, падумаць. Вось каб знайсці сабе мужа, лепш адстаўнога ваеннага з харошай пенсіяй! Тады можна было б і зусім у вус не дзьмуць. Кінуць працу, палежваць сабе, серыялы глядзець, а там і ўнукі пойдуць, сыну дапамога спатрэбіцца...

Грошы з мізэрных адпускных разышліся, палкоўнік так і не з'явіўся побач, а дзень народзінаў свацці набліжаўся з кожным днём. Сваты людзі забяспечаныя — тут настойкай «Журавіны на каньяку» і скрадзеным бальнічным ручніком не абыдзешся. Давялося ехаць да цёткі ў Лужок, каб разжыцца грашыма хаця б на падарунак, тым больш — Каляды, цётка не прымусіць рабіць, можна проста пагасцяваць і адпачыць на свежым паветры. А раптам хоць цяпер пашанцуе?

Любка не адыходзілася ад Сцёпішынага сына ні на крок. «Ага, апрануты не абы-як, значыць, ёсць грошы. Высокі, здаровы, па ўсім відаць ваенная выпраўка». Жанчына імкнулася спадабацца яму, нахвальвала сябе як магла:

— Ды я сабе цану ведаю, раблю дзіцячым доктарам, у мяне знаёмствы ўсюды, сват у горадзе чалавек не апошні...

Мужчына слухаў моўчкі. «Не гаваркі, мусіць, сур'ёзны, не хамло якое», — узрадавалася Любка і працягвала сакатаць без упынку.

Чэзлы Казак, бязрогі Казёл, Цыганская Мадонна і Чалавек у скуранцы падыходзілі да самай вялікай засцянкоўскай хаты. Калядная ноч нібы замёрла, толькі рыпеў снег пад нагамі, і фанабэрыстае: «Ды я ж у белым халаціку пахаджваю, ды ў мяне ж наварана...» раз-пораз абуджала зімовую цішу.

У двух вокнах хаты гарэла святло. Колішняя гаспадыня — настаўніца Гуляевічыха, ужо гады два як памерла. Сёлета засталіся на зіму пільнаваць нажытае і гадаваць курэй яе дачка Марыя з мужам Сяргеем. Марыя распальвала грубку, Сяргей тупаў з кута ў кут і бурчэў:

— Хопіць там кешкацца. Давай правіць багатую каляду!

— Паспееш, бачыш, занятая. Спраўны надта языком балбатаць...

— Маці мая хоць бедная была, а хавала мне ў сена каляду — чацвяртушку самагонкі і каўбасу, калі малы быў, — не здаваўся Сяргей. — Ідзі збірай на стол. Нясі халадзец з кладоўкі...

— Сам нясі! — не сцярпела жонка.

Сямейную гутарку перапыніў нечаканы стук у шыбу.

— Жонка, паглядзі, каго там чорт нясе, а я ў кладоўку па халадзец.

— Во дзіва, чуеш, лужкоўскія калядаваць прыйшлі! Чацвяртушка ў казака ўбралася, Андрэй дурнаваты, а з імі — нейкі здаровы незнаёмы мужык, увесь у чорным!

— Адчыні.

— Хочаш, каб я ім тваю паўлітру аддала — адчыню... Тушы святло, скажу, спаць паўлягаліся, як папытаюць. Вось так маці мая ў канцы пяцідзясятых калядоўшчыкаў у хату пусціла. А пасля ў райкам ананімка на яе прыйшла, маўляў, партыйная грамадзянка спраўляе рэлігійныя культы...

На ганку тупала калядная чарада. Цыганка шчыльней укручвалася ў хустку, чалавек у скуранцы злаваўся: «Не хрэн было сюды перціся».

— А давайце шыбы паб'ем! Гы-гы-гы! — прапанаваў Казёл.

— Хаця ж не дадумайся, у міліцыю заявяць. Няма чаго тутака стаяць, яшчэ тры хаты е. Пайшлі да Зайца. Харошы дзед. Аўталаўка сёння была, не можа быць, каб не ўзяў чаго ў запас.

Дзед па мянушцы Заяц калісьці рабіў заатэхнікам, і хоць жыў не бядней за Гуляевічаў, хатку меў невялічкую, затое за свой век купіў цэлых два матацыклы і адзін «Запарожац», што цяпер стаялі радком у вялізным, бы калгаснае гумно, гаражы. Багатую Каляду стары сустракаў адзін: святла не паліў, у вакенцы блішчэў агеньчык тэлевізара. Патузалі за клямку, гаспадар пачуў, пашкрэбаў у сенцы і, не спытаўшы, адразу адчыніў дзверы.

— Святы вечар, багаты вечар! Дай здаровейка таму, хто ў етым даму! — праспявала напаўзабытаю каляду Чацвяртушка. — А ў нас і каза е, скакаць умее, і цыганка е, паваражыць можа. А гэта во Сцёпішын сын!

— А мае ж вы, дзеткі, малайцы якія! Калядуеце. Раней Тамковічы хадзілі, але ж во з'ехалі, дык у нас няма каму. Праходзьце.

— Дайце казе сала, каб каза ўстала! — не здавалася Чацвяртушка. Але ў кухні, застаўленай розным старым ламаччам, падаць не было дзе. Шафа ля дзвярэй, нейкае рыззё, раскладзенае на зламаных зэдліках, уздоўж сцяны пыльнымі экранамі глядзяць на божы свет тры няспраўныя тэлевізары. Сцёпішын сын пасунуўся да стала — ледзьве не ўваліўся ў памыйнае вядро. На стале — парэзанае сала, дзве бляшанкі кількі ў тамаце, жменька цукерак, адкаркаваная бутэлька віна «Сасновы водар».

— Выпіце во за свята, закусіце, кансерва харошая, для зубоў мяккая, — гасцінна запрашаў гаспадар.

Казлу і чалавеку ў скуранцы запрашэнне было не надта патрэбнае. Адзін пахмяліўся адразу цэлай шклянкай, другі ўмомант злупіў ладны шматок сала, Валя таксама не адставала:

— Во, вы, дзядзька, нас частуеце, а Гуляшыны нават і на парог не пусцілі!

— То вялікі грэх, калядоўшчыкаў прымаць трэба.

Любка прыгубіла віно, каб не пакрыўдзіць старога. Паветра Зайцавай хаты — чад, змешаны з водарам кількі і нямытай бялізны, — літаральна душыў яе.

— Закусіце во, маладзічка, цукеркай доўгаіграюшчай. Глядзіш тэлевізар, укінеш у рот — хораша! Мне ж сын тэлевізар новы прывёз... — гаманіў дзед, займеўшы побач чуйныя вушы.

Цыганская Мадона маўчала, часам дзеля прыліку ўсміхалася. Астатнія пачувалі сябе, бы рыба ў вадзе. Сцёпішын сын кульнуў яшчэ — твар адразу пачырванеў, шапка з'ехала на бок, з-пад скуранкі з падзёртымі локцямі тырчэла крысо зашмальцаванага кабата, мусіць, матчынага. «Дык алкаш жа! А я перад ім лістом сцялюся, што тая сямнаццатка», — чарговы раз расчаравалася Любка ў сваіх надзеях. Калядаванне адразу страціла сэнс, хоць Заяц адорваў шчодра: паклаў у торбу пляшку гарэлкі, бляшанку кансерваў, на хвілінку задумаўся і, нібы вяртаючы пазычанае, даў Валі слоік грыбоў.

Калядоўшчыкі выкаціліся з хаты, а дзед, параіўшы яшчэ зайсці да Савы і яе дачкі Галі, зашчапіў дзверы ды патэпаў да тэлевізара. І быў бы, мусіць, шчаслівейшы, чым у маладосці, каб не кляты ўспамін-назола. Ён –пятнаццацігадовы падлетак, навучэнец першага курса сельгастэхнікума, сядзіць за сталом і пад матчыну дыктоўку піша на чыстым аркушы паперы: «Заяўляю вам, што партыйная грамадзянка Патупчык В. спраўляе рэлігійныя культы і запрашае калядоўшчыкаў у хату...» І не ў галаве яму, што даносіць на сваю першую настаўніцу Веру Гаўрылаўну. «Ат, скуль жа я ведаў, што яна дзявочым прозвішчам пісалася, яе ж усе па мужу Гуляевічыхай звалі...

«Не пашчасціла, як заўжды. Пэўна, доля такая — адной век дажываць, — разважала Любка. — А раз так — трэба вяртаць дахаты ды пашукаць грошы, што цётка на смерць прыхавала. Вазьму няшмат, хаця соцэнкі

тры — усё адно інфляцыя з'есць». Сумная і паспакайнелая, яна не хацела разам з усімі ісці да Савы. І прычынаю такога рашэння быў не толькі Сцёпішын сын-алкаш, але і кошык памідораў гатунку «Чорны прынц», скрадзены ёю ўлетку з гэтага падворка.

— Нешта ўчадзела я, галава баліць, пайду дадому, можа, таблетку якую вазьму, — пажалілася Любка.

Стрымліваць яе ніхто не збіраўся:

— Ідзі, цётка, нам больш будзе! — рагатнуў Казёл.

— Не хрэн піць, раз табе віно не йдзе, — вякнуў наўздагон чалавек у скуранцы.

...Галя не чакала ад жыцця ніякіх цудаў ужо вельмі даўно. Пагадавала і папарадчыла дзяцей, два гады таму пахавала мужа. Адпрацаваўшы чвэрць стагоддзя на хімкамбінаце, сышла на ільготную пенсію, каб даглядаць матулю. Старая апошнім часам аслабла, рэдка падымалася з ложка. Галя ўлетку корпалася ў гародзе, хадзіла па лесе, зімою — чысціла снег. Жанчына цешылася спакоем, часам ёй здавалася, што нікуды яна і не з'язджала, не было ніякага горада, яна дасюль маленькая, проста маці прыхварэла, а сястра некуды пайшла з дому. Сёння яна ўтушыла чыгунок бульбы, наварыла кісяльку, пакарміла маці і ціхенька сядзела ля вакна, глядзела, як скача па гародзе беленькі зайка. І раптам расчыняюцца дзверы і на парозе з'яўляецца, нібы Піліп з канапель, цуд прыроды — Коля, Сцёпішын сын. Яе першае каханне, самы прыгожы хлопец у Лужках. А калісьці даўно, здавалася, ужо не ў гэтым жыцці, гадоў трыццаць таму, яна і марыць не магла пра такое шчасце. У тым далёкім жыцці Коля быў вайскоўцам — прыгажуном, сынам загадчыка пошты, а Галя сціплай школьніцай у сястрыных абносках, дачкой удавы, простай калгасніцы. Яна была закаханая ў яго, а ён не заўважаў яе існавання: хапала смялейшых і прыгажэйшых.

У цяперашнім жыцці з'яўленне Колі з усёй лужкоўскай грамадой Галю не ўзрадавала. Пачуўшы пра вяртанне Сцёпішынага сына і яговыя выбрыкі, яна ў думках дзякавала лёсу, што ў маладосці ён не ўпадабаў яе: «Во, зараз жыву сабе спакойна і мамачку гляджу, а так бы хавала грошы і бутэлькі па ўсёй хаце і нервы свае трапала».

— У кладоўку заглядай і каўбаску даставай! — загалёкала Чацвяртушка.

«Ну нікуды ад іх не падзенешся, ні ў будні ні ў святы. Аднаго агарод пераворваць паклічаш — цэлая капэла збяжыцца, і ўсім налівай! Але ж і без іх ніяк. Плот абяцалі падладзіць, ды й калі з маці, крый Божа, што, хто дапаможа?»

І тут здарыўся яшчэ адзін цуд. З ложка ўстала, выпаўзла на сярэдзіну хаты старая. Чаму яе звалі Савою, ніхто з прысутных не ведаў. Сава дашкрэбала да Андрэйкі і пачала жаліцца:

— Ой, мая дзетка, ці не ведаеш ты, хто ж у нас у Засценку ў Святыя вечары малоціць. Так цапамі ляскаюць, так ляскаюць... нямножна, аж галава шуміць!

Андрэйка разявіў рот ад здзіўлення:

— Што такое баба кажа? Гэта ж летам камбайн малоціць!

— Бачыце, зусім дрэнна ёй, бярыце во бутэлечку віна і ідзіце далей гуляйце, — прапанавала Галя.

— Мы да такіх гадоў не дажывем, — зазначыў на развітанне Коля.

Бабка яшчэ раз пажалілася на малацьбітоў, пасля патэпала назад да ложка. Зірнула на покуць — а там яе маці-нябожчыца сядзіць.

— То здані ўжо, — прашамкала Сава сама сабе, перахрысцілася, супакоілася і нечакана хутка заснула.

Накалядаваную бутэльку Казак, Казёл і Сцёпішын сын выпілі лёгка і нязмушана, бы ліманад «Бураціна», па дарозе да апошняй жылой хаты — сядзібы Іванавіча.У вочы — Іванавіч, за вочы — Свіны татка. Для мясцовых ён быў чалавекам-таямніцай. З'явіўся ў Засценку нечакана, ніхто не ведаў адкуль, за якую цану і пры якіх абставінах купіў хату колішняга паштара. Спярша, як толькі прыехаў, кажуць, нават на вуліцу не выходзіў, усё болей у хаце ці пуні адседжваўся, нібы хаваўся ад каго. Пасля асвойтаўся, завёў гаспадарку, гандляваў разведзеным спіртам. Але жыў адасоблена, асабліва нікому нічога пра сябе і сваё мінулае не расказваў, гасцяваннаў не любіў. Кожны выходны да яго прыязджала жанчына, казаў — жонка. Здаралася, наведваліся нейкія людзі на машынах.

Гэты падворак Андрэйку з Валяй быў добра знаёмы. Неадночы яны куплялі ў Іванавіча спірт, мянялі зерне і камбікорм, выграбалі за паўлітру гной з хлява. За спірт усё рабілася, касілася і кармілася. Спірт і ферма побач сталіся асноўным сакрэтам поспеху яго прыватнай гаспадаркі. «Я пакажу вам, як трэба жыць!» — часам хваліўся ўвішны гаспадар перад засценкоўцамі. А тыя адно пасміхаліся ў адказ, маўляў, тут жылі людзі не роўня табе — ніводзін не разбагацеў. «Ад зямлі не будзеш багатым — будзеш толькі гарбатым». Раней Іванавіч гадаваў в'етнамскіх свіней, у хляве заўжды рохкала чацвёра, а то і шасцёра. А як зачынілі ферму, дык халяўнае зерне за паўлітру больш ніхто не прыносіў. Пакрысе свінні звяліся, а мянушка Свіны татка засталася. Цяпер ён трымаў толькі авечак і цялушку. Увесь учарнеў ад работы, а багацця так і не нажыў. Хаця на падворку шашлыкі калі-нікалі яшчэ здараліся.

Захмялелая калядная чарада ўвалілася да Свінога таткі без грукату ў дзверы, адразу з песняю. Дакладней, спявала адна Валя, Андрэйка бязладна гоцаў побач, Сцёпішын сын цягнуўся следам. На здзіўленне, хата аказалася адзінаю, дзе гула не надта шматлюдная бяседа. Гаспадар прымаў рэдкіх гасцей. За сталом сядзелі чацвёра: сам Іванавіч, чэзлы маладзён з мутнымі вачыма, дзве дзеўкі — адна бялявая, маладзейшая і худзейшая, другая чарнявая — старэйшая і паўнейшая. Пазногці ў абедзвюх доўгія, пад хахламу распісаныя. Маладзён ужо ладна набраўся, цяпер матляўся на лаўцы, бы першамайскі сцяг, і бубнеў сам сабе пад нос нешта няўцямнае. Бландынка пілавала свае дзівосныя кіпці, часам віслала на шыі ў п'янага маладзёна і скуголіла: «Валера, мне ску-у-ушна». Але той не звяртаў увагі. Чарнявая, наадварот, адрывалася па поўнай і ўпарта даказвала сваім субутэльнікам:



**Дробны Казачок і шалёны Казёл ішлі па двары да веснічак. — Бач ты, багата накалядавалі! Добра, што той смоўж адваліўся. А то ўсё б выжлукцыў**

— Ды я ў рэстаране бываю чашчэй, чым на свежым воздухе. Ды Ахмет міня ў Турцыю зваў! Кіёсак закроем і паедзем.

Казак, Казёл і Чалавек у скуранцы спярша крыху знікавелі.

— Гэта мая гомельская радня, — нібы апраўдваючыся, паведаміў Свіны татка.

— А гэта во Сцёпішын сын! Святы вечар, багаты вечар! Іванавіч, пасып медзь, і авечкі не будуць хварэць, — не здавалася Чацвяртушка.

— Ражаным сто грам! — завішчэў маладзён.

Коля асвойтаўся і хціва пацягнуўся па чарку. Андрэй без запрашэння прысеў за стол бліжэй да гарадскіх дзевак, яны абедзве яму спадабаліся.

— Э, не, так справа не пойдзе! — падаў голас Свіны татка. — Як я малы хадзіў са сваім бацькам калядаваць, дык такі артыст быў, што нават на пузе танчыў! А вы два разы тупнулі — і налівай?

Валя ўтаропілася на яго і зразумела, што тут нічога, апроч пяцідзесяці грамаў, не выцыганіш. Ведаючы Свінога татку не першы дзень, гэта сцяміў і Андрэй. У дурнаватым інтэрнаце яго ніхто не вучыў на пузе танчыць, таму ён піхнуў у бок Сцёпішынага сына:

— Дзядзька, а дзядзька, хоць ты патанцуй. А то цётка Валя пяе, я скачу, як казёл, а ты толькі валочышся следам ды гарэлку п'еш!

Чалавеку ў скуранцы дзявацца не было куды. Выпіць яшчэ хацелася. А з гэтых недаробкаў што ты возьмеш? Нідзе не былі, нічога не бачылі! І ён рашыўся.

— Што ты лыбішся, лахудра маляваная? — крыкнуў ён чарнявай, што сядзела і пагардліва ўсміхалася. Тая спрабавала агрызнуцца, прыстрашыла нейкім Ахметам, але хутка змоўкла, бо Ахмет быў далёка, а прысутныя бараніць яе не дужа кідаліся.

Сцёпішын сын выйшаў на сярэдзіну хаты, хмельная кроў віравала ў галаве горнаю ручаіной. І на якое імгненне падалося, нібыта ён зноў малады, у бялюткіх фірмовых красоўках, першы хлопец на ўвесь Лужок, на сцэначнай дыскатэцы ў Бабруйскім Доме культуры танчыць ніжні брэйк, вабныя дзеўкі стаяць кружком і захапляюцца яго ўмельствам! Але няма таго, што раньш было...

Спіна ўпарта не хацела варушыцца. Танцор у адстаўцы падрыгаў трохі нагамі, ледзьве пераварнуўся на пуза. Паўбутэлькі спірту зарабіў, але самастойна ўзняцца з падлогі ўжо не здолеў. На шчасце, падбегла Чацвяртушка, дапамагла ўстаць:

— Во, набраўся як бэля, цяпераka дадому не зацягнем! Іванавіч, мы табе памаглі, і ты нам памажы, няхай у цябе праспіцца.

— Ладна, валачыце яго да кладоўкі ў катух, туды, дзе ягнятка, яно шчэ слабенькае, дык я ў хату забраў, пакуль маразы. Тамака і салома, і палавік стары, цяплей будзе...

Бразнула клямка, абабітыя дзермацінам дзверы выплюнулі ў начную цемру самых цягавітых калядоўшчыкаў. Свіны татка азірнуўся навокал: недапечаны Валера хроп, уклаўшыся галавою на стол, сяброўка шкамутала яго і працягвала канючыць. Чарнявая гаманіла невядома з кім. Рэстаран, Ахмет і Турцыя не сыходзілі з языка.

— Ды сціхні ты ўжо са сваім Ахметам! — гыркнуў гаспадар, страціўшы цярпенне, і пайшоў да прыпечка. «Яшчэ гадок адсяджуся, і ліняць адсюль трэба. Гэтак можна спіцца ці з глуздоў з'ехаць у адзіноце, а з такой кампаніяй дык яшчэ хутчэй. Мясцовыя п'яніцы хоць гной з хлява выкінуць ці вады нацягаюць. А гэтыя... Ні рабіць, ні піць не ўмеюць. Паі, кармі і іх, і дзяцей іхніх, і блядзей іхніх. Спірту яны мне перадалі на продаж... А каму яго тут прадаваць? Вымерлі людзі, як маманты, і п'яныя, і цвярозыя...»

Дробны Казачок і шалёны Казёл ішлі па двары да веснічак.

— Бач ты, багата накалядавалі! Добра, што той смоўж адваліўся. А то ўсё б выжлукцыў, нам бы мала што перапала. А так і спірт застаўся, і віна трохі, і закуска. Прыйдзем у Лужок — пабалюем!

— Ага, пад'еў я ўволю, толькі дзеўкі надта нос дзяруць, не падступіся.

— Ведама, гарадскія шкуркі, фанабэрыстыя. Але віду не маюць. Ну іх, Андрэйка, к чортавай мацеры, маладзіц гэтых! Яны ўсе цяперака прайдзісветкі ды гультайкі! Лепш пераходзь да мяне, калі мой мужык перакуліцца, не доўга ўжо засталося. А не, дык цяпер перабірайся! А то ён ляжыць сабе, як калода, лапы склаў, а мне і хадзяйства аднай глядзі, і агароды.

Цішыня аж да звону ў вушах. Крычы, хоць парвіся, не пачуе ніхто, а звалішся на бальшаку — не ўгледзяць, праляжыш да ранння, а то й да паўдня, скалееш...

— А й праўда, Валька, дзе я тут каго шукаць буду! У цябе печ цёплая і ў чыгунку наварана. Ды і сама ты нічога шчэ, гы-гы-гы! — адгукаецца Андрэйка, і бачыць на яве: знаёмая постаць адхіснулася ад лаўжоў на тым баку вуліцы.

— Мамка! — немы енк хлапчыны працяў наваколле. Вялізны чорны цень страсянуўся і з гучным трэскам ляснуўся на дарогу, перагарадзіўшы вуліцу.

— То ж ігруша старая. Камель раскалоўся, вось і звалілася. Не крычы... — супакойвала Чацвяртушка. — А мо здалося што, дык перахрысціся.

— Здалося. А чаго яна, бляха, звалілася, ветру няма ж?

— Аджыла сваё. Снегу на галлі нападала. Добра, нас не зачапіла. А то ж магла забіць ці пакалечыць.

Слівы цягнулі ўвышкі свае каравыя лапы. Спалоханы зайчык прыціснуў вушы і паляцеў праз поле прэч ад чалавечага жытла. Мароз аздабляў стылыя шыбы хвойкамі ды мальвамі.

Калядоўшчыкі пералезлі праз ламачча і рушылі напрасткі. Ішлі з Засценка назад у Лужок па той самай пратаптанай колькі гадзін таму каляіне. Белы дол стаіўся ў чаканні цуду. На здзічэлым бальшаку ў Святы вечар зоры-зарніцы, Божыя памочніцы, спаткаліся з людзьмі.

У Гуляішчыных запалілі святло і ўзяліся святкаваць. Сяргей уліў у чарку прыхаваны да Багатай каляды самагон. І хацянапой не быў чыста хлебным, але падаўся яму гэткім жа мяккім і смачным, як тады, у трэцім класе напярэдадні школьнай Ёлкі. А вось закуска была куды лепшая, чым у маленстве. Асабліва ўдаўся халадзец. А інакш і быць не магло! Цэлая кура ў печы паўдня прэла, ды й капыт добра ўварыўся. Нахвальваючы страву, Сяргей узяўся ўжо за другую талерку, нібы імкнучыся вярнуць назад дзяцінства і ад'есціся ўволю за ўсе галодныя гады адразу.

А вось Любка святла не паліла, каб не пабудзіць цётку. Пакуль старая спала, яе клапатлівая пляменніца паролася ў шафе. Там паміж пажоўклых прасцін і цвілых суконак былі схаваныя грошы на смерць. Вось яны! Чатыры мільёны ўкручаныя ў баваўняную панчоху. Любка адлічыла сабе трыста пяцьдзясят. Астатнія паклала на месца. «Не бяру, пазычаю, як пампэ, усё адно мне хаваць», — апраўдвала сябе Цыганская Мадонна, упершыню пашкадаваўшы, што параднілася не з роўняю.

Сцёпішын сын хроп у катуху на саломе. Палавічок скулёмчыўся, скуранка спаўзла з пляча, а ён прытуліўся да цёплага бока ягняці — адразу ўлежна і ўтульна зрабілася.

Пад святлом адзінага на дзве вёскі ліхтара мільёнамі бітых шкельцаў ззяла снежная неруш. Вяртацца дадому і не ўбачыць на сваім шляху ніводнага следу, апроч уласнага, што гэта: праклён ці дабраславенне? Невядома. Толькі перажыць такое наканавана не кожнаму.

**2014 г.**

# Забойства напярэдадні Новага года

Роберт ВАН ГУЛІК

**Дзеянне гэтай гісторыі адбываецца ў Ланьфане. Звычайна тэрмін працы кітайскага суддзі ў акрузе доўжыцца тры гады. Але ў канцы 674 года н.э. суддзя служыў у Ланьфане ўжо чатыры гады, а вестак са сталіцы ўсё не прыходзіла... Гэта гісторыя пра тое, што здарылася ў апошні вечар таго змрочнага года. У мінулых справах, расследаваных суддзём Дзі, усе яго здагадкі заўсёды аказваліся ў канцы правільнымі. Аднак чытач убачыць, што ў дадзеным выпадку суддзя Дзі зрабіў дзве вялікія памылкі. І ўсё ж, насуперак усяму, памылкі гэтыя прывялі да шчаслівага фіналу!**



Калі суддзя Дзі адклаў апошнюю справу і зачыніў шуфляду, яго раптам прабралі дрыжыкі. Ён падняўся і, шчыльней захутаўшыся ва ўцепленую хатнюю кашулю, падышоў да акна свайго халоднага пустога кабінета. Потым адчыніў акно, але, зірнуўшы на цёмны двор суда, хуценька зноў яго прычыніў. Снег падаць перастаў, але парыў ледзянога ветру ледзь не задзьмуў свечку на стале.

Суддзя падышоў да ляжанкі ля задняй сцяны і з уздыхам пачаў рассцілаць пасцель. Гэтую ноч, апошнюю ў годзе, які восьвось міне, гэтым маркотным чацвертым годзе яго працы ў Ланьфане, ён будзе спаць тут. Яго ўласны дом на задах суда стаяў цяпер пусты, калі не лічыць некалькіх слуг. Два месяцы таму яго Першая пані вырашыла наведаць у родным горадзе сваю старую маці, а дзве іншыя жонкі з дзецьмі адправіліся разам з ёй у суправаджэнні вернага радцы Хуна. Яны вернуцца толькі ранняй вясной — а вясна ў гэты халодны і змрочны вечар здавалася такой далёкай!

Суддзя Дзі ўзяў гарбатнік, каб наліць сабе апошні кубак, з трывогай адзначыўшы, што робіцца ўсё халадней. Ён ужо сабраўся пляснуць у далоні, каб паклікаць пісара, але ўспомніў, што адпусціў усіх судовых служак улучна з трыма сваімі памочнікамі. У судзе засталіся толькі вартаўнікі, што стаялі ля галоўнай брамы.

Нацягнуўшы на вушы хатнюю шапачку, ён узяў свечку і пайшоў скрозь цёмную пустынную канцылярыю ў вартоўню.

Убачыўшы суддзю, чацвёра вартаўнікоў, што сядзелі на кукішках вакол каміна, які гарэў у цэнтры каменнай падлогі, падскочылі і паспешліва прывялі ў парадак шлемы. Толькі начальнік варты стаяў да суддзі спінай: ён акурат высунуўся з акна і люта лаяўся на кагосьці звонку.

— Гэй, ты! — раўнуў на яго суддзя Дзі, і калі начальнік павярнуўся і глыбока пакланіўся, рэзка сказаў: — Сачы лепш за языком у апошні дзень года!

Начальнік прамармытаў нешта пра нахабнага абадранца, які асмельваецца турбаваць суд у такі позні час.

— Маленькае малпяня хоча, каб я знайшоў яго маці! — пагардліва дадаў ён. — Яны што, лічаць мяне нянькай?

— Наўрад ці! — суха сказаў суддзя Дзі. — Што ўсё гэта значыць?

Ён падышоў да акна і вызірнуў вонкі.

Унізе ля сцяны скурчыўся маленечкі хлопчык, шукаючы абароны ад пранізлівага ветру. Месяц асвятляў яго заплаканы твар. Дзіця румзала:

— Гэта ўсё... усё на падлозе! Я паслізнуўся і зваліўся туды... А мама знікла!



Ён паглядзеў на свае маленькія ручкі і паспрабаваў выцерці іх аб тонкую латаную курточку. Суддзя Дзі ўбачыў чырвоныя плямы. Хутка павярнуўшыся да вартаўнікоў, ён загадаў іх начальніку:

— Падай майго каня і ідзі за мной з двума людзьмі!

Як толькі яны выйшлі на вуліцу, суддзя падняў хлопчыка і пасадзіў яго ў сядло. Потым уклаў нагу ў стрэмя і марудна забраўся на каня за дзіцем. Паморшчыўшыся, суддзя ўспомніў, што яшчэ зусім нядаўна ён мог лёгка ўскочыць у сядло, але апошнім часам яго турбуюць прыступы рэўматызму. Раптам ён пачуў сябе стомленым і вельмі старым. Чатыры гады ў Ланьфане... Ён зрабіў намаганне, узяў сябе ў рукі і вясёлым голасам звярнуўся да заплаканага хлопчыка:

— Зараз мы разам паедзем і знойдзем тваю маму. Хто твой тата і дзе ты жывеш?

— Мой тата — разносчык Вэн, — адказала дзіця, глытаючы слёзы. — Мы жывем у другім завулку на захад ад храма Канфуцыя, непадалёк ад Рачной брамы.

— Ясна! — адказаў суддзя Дзі.

Ён асцярожна скіраваў каня заснежанай вуліцай. Начальнік варты і двое яго людзей моўчкі ехалі за імі. Моцны парыў ветру здзьмуў з даха снег, крупінкі якога пакалолі іх твары сотнямі іголак. Праціраючы вочы, суддзя зноў спытаў:

— Як цябе завуць, малы?

— Мяне завуць Сяо-пао, пане, — адказаў той дрыготкім голасам.

— Сяо-пао значыць «маленькі скарб», — сказаў суддзя Дзі. — Якое цудоўнае імя! А дзе твой тата?

— Я не ведаю, пане! — з роспаччу ўсклікнуў хлопчык. — Калі тата прыйшоў дадому, ён моцна пасварыўся з мамай. Мама не прыгатавала ніякай ежы, яна сказала, што дома няма нават локшыны. Тады... тады тата пачаў яе лаяць, крычаць, што ўдзень яна была з панам Шэнам, старым ліхвяром. Мама заплакала, і я збег. Я хацеў пазычыць трошкі локшыны ў бакалейшчыка, каб тата зноў быў вясёлы. Але там было шмат людзей, і я не змог прабіцца і пайшоў дамоў. Але таты і мамы дома не было, а была толькі кроў, на ўсёй падлозе. Я паслізнуўся і...

Ён зноў заплакаў — так, што яго маленькая спіна затрэслася. Суддзя мацней прыціснуў хлопчыка да сябе, захінуўшы яго футрам. Далей яны скакалі моўчкі.

Калі суддзя Дзі ўбачыў наперадзе на фоне неба абрысы вялікай брамы храма Канфуцыя, ён спешыўся. Апусціўшы хлопчыка на зямлю, ён сказаў начальніку варты:

— Мы амаль прыехалі. Коней лепш пакінуць ля брамы. Не будзем нікога папярэджваць пра свой прыход.

Яны зайшлі ў вузкі завулак, па абодва бакі якога стаялі шэрагі трухлявых дамкоў. Хлопчык паказаў на дзверы аднаго з іх, якія былі прачыненыя. Праз папяровае акно прабівалася цьмянае святло, аднак другі паверх быў ярка асветлены і адтуль даносіліся невыразныя крыкі і спевы.

— Хто жыве над вамі? — спытаў суддзя Дзі, спыніўшыся ля дзвярэй.

— Кравец Лю, — адказаў хлопчык. — Да іх на свята прыйшлі сябры.



— Сяо-пао, пакажы начальніку варты дарогу наверх, — сказаў суддзя хлопчыку, а потым шэптам звярнуўся да начальніка: — Пакінь дзіця з тымі людзьмі, а сам прывядзі сюды на допыт гэтага Лю.

Затым ён разам з двума вартаўнікамі зайшоў у дом.

Халодны бедны пакой быў асветлены толькі чаднай масленай лямпай на хісткай падстаўцы ў куце. У сярэдзіне пакоя на вялікім груба збітым стале стаялі тры патрэсканыя гліняныя місы, а скраю ляжаў вялікі кухонны разак, запырсканы крывёй. На выкладзенай каменнымі плітамі падлозе крыві было шмат — цэлае возера.

Паказаўшы на разак, старэйшы вартаўнік зазначыў:

— Хтосьці, пане, тут акуратна перарэзаў камусьці горла!

Суддзя Дзі кіўнуў. Ён дакрануўся ўказальным пальцам да плямкі крыві на разаку і пераканаўся, што кроў яшчэ свежая. Суддзя хутка агледзеў паўзмрочны пакой. Ля задняй сцяны стаяла вялікая ляжанка з бляклымі сінімі занавескамі, а ля сцяны злева — маленькі незавешаны ложак, відавочна, для хлопчыка. Голыя патынкаваныя сцены былі дзе-нідзе неахайна замазаныя. Суддзя Дзі падышоў да зачыненых дзвярэй збоку ад ляжанкі. Яны вялі ў маленькую кухню. Прысак у ачагу ўжо астыў.

Калі суддзя вярнуўся ў пакой, маладзейшы вартаўнік з ухмылкай сказаў:

— Рабаўнікі сюды наўрад ці зазірнуць, пане! Я пра гэтага разносчыка Вэна чуў, ён бедны, як пацук!

— Матывам можа быць успышка гневу, — рэзка прамовіў суддзя і паказаў на ядвабную насоўку, якая ляжала на падлозе ля ложка. Мігатлівая масленая лямпа высвечвала на ёй вышыты залатой ніткай вялікі іерогліф «шэн». — Калі хлопчык сышоў пазычаць локшыны, разносчык заўважыў насоўку, забытую каханкам жонкі. Спрэчка яго і так распаліла, а гэтая знаходка ўвогуле давяла да шалу. Ён схапіў разак і забіў яе. Гэтая гісторыя старая, як свет, — суддзя пацізнуў плячыма. — Мабыць, цяпер ён хавае цела. Гэты разносчык, ён моцны?

— Здаровы, як бык, пане! — адказаў старэйшы вартаўнік. — Я нярэдка з ім сутыкаўся: ён з ранку да вечара хадзіў па вуліцах, цягаючы на спіне тую цяжкую скрыню.

Суддзя Дзі зірнуў на вялікую квадратную скрыню, прыкрытую прамасленай анучай, і марудна кіўнуў.

Увайшоў начальнік варты, падштурхоўваючы высокага худога мужчыну. Той выглядаў зусім п’яным. Ледзь трымаючыся на нагах, мужчына агледзеў суддзю мутным поглядам маленькіх хітрых вачэй. Начальнік варты схапіў яго за каўнер

і прымусіў укленчыць. Суддзя склаў рукі ў сваіх шырокіх рукавах і рэзка прамовіў:

— Тут адбылося забойства. Дакладна раскажы ўсё тое, што ты чуў і бачыў!

— Гэта, мабыць, усё тая жанчына вінаватая! — прамармытаў кравец, з цяжкасцю варочаючы языком. — Увесь час тут туляецца, а ні разу не зірнула на такога цудоўнага і моцнага хлопца, як я! — тут ён ікнуў. — Занадта я для яе, бачыце, бедны, ну проста як яе муж! Гэтай шлюсе, бачыце, грошыкаў ліхвяра захацелася!

— Паводзь сябе прыстойна! — гнеўна загадаў суддзя. — І адказвай на маё пытанне! Столь тут з тонкіх дошак, ты мусіў чуць, як яны сварыліся!

Начальнік варты штурхануў краўца пад рэбры і раўнуў:

— Гавары!

— Я нічога не чуў, пане! — застагнаў перапужаны кравец. — Тыя выродкі зверху зусім напіліся, яны ўвесь час крычаць і спяваюць! А гэтая мая дурніца перакуліла місу, а сама надта п'яная, каб за сабой прыбраць. Давялося добра яе патрэсці, перш чым яна змагла ўзяцца за працу.

— З пакоя ніхто не выходзіў? — спытаў суддзя Дзі.

— Гэтыя дакладна не, — прамармытаў кравец. — Яны ўсе занадта занятыя тым парасём, якое зарэзаў для нас мяснік Лі! А хто парася засмажыць? Канечне ж, я! Гэтыя ёлупы толькі хлебчуць маё віно, яны лянуюцца нават прасачыць, каб вугаль нармальна гарэў. Увесь пакой задымлены, давялося адчыніць акно. Тады я і ўбачыў, як гэтая шлюха збягае!

Суддзя Дзі прыўзняў бровы і, трошкі падумаўшы, спытаў:

— Муж быў з ёй?

— А ён ёй трэба? — ухмыльнуўся кравец. — Ёй лепей адной.

Суддзя тут жа павярнуўся, нахіліўся і ўважліва агледзеў падлогу. Сярод хаатычных крывавых адбіткаў ён заўважыў сляды маленькіх вастраносых туфлікаў, што вялі да дзвярэй. Суддзя ўсхвалявана спытаў у краўца:

— У які бок яна пайшла?

— Да Рачной брамы, — змрочна адказаў кравец.

Суддзя Дзі захінуўся ў футра.

— Адвядзіце гэтага нягодніка наверх! — загадаў ён вартаўнікам і, падыходзячы да дзвярэй, паспешліва шапнуў іх начальніку: — Чакай мяне тут. Калі Вэн прыйдзе, арыштуй яго! Мабыць, ліхвяр вярнуўся сюды забраць насоўку акурат у той момант, калі Вэн сварыўся з жонкай і знайшоў прапажу. Вэн забіў ліхвяра, а жонка збегла.

Суддзя выйшаў з дома і праз сумёты цяжка пакрочыў на суседнюю вуліцу. Там ён падняўся на каня і на ўсю моц паскакаў да Рачной брамы. Адной смерці дастаткова, думаў ён.

Даехаўшы да пачатку каменнай лесвіцы, што вяла да брамнай вежы, ён саскочыў на зямлю і паспяшаўся па стромкіх прыступках, слізкіх ад мёрзлага снегу. Уверсе ён убачыў жанчыну, што стаяла на самым далёкім парапеце. Падабраўшы кашулю, яна нахілілася і глядзела ўніз — у ваду гарадскога рова.

Суддзя Дзі падбег да яе і паклаў руку ёй на плячо:

— Не варта гэтага рабіць, пані Вэн! — сур'ёзна сказаў ён. — Ваша смерць забітага не верне!

Жанчына адхінулася ад зубчастай сцяны і спалохана зірнула на суддзю, разявіўшы ад страху рот. Чыноўнік заўважыў, што хаця твар яе асунуўся і змізарнеў, яна ўсё яшчэ вылучалася своеасаблівай грубаватай красой.

— Пан, відаць, з суда! — прамармытала яна. — А значыць, ужо вядома, што мой бедны муж яго забіў! Гэта ўсё мая віна!

І тут яна разрыдалася.

— Ён забіў ліхвяра Шэна? — спытаў суддзя Дзі.

Яна горка кіўнула, а потым закрычала:

— Я такая дурніца! Клянуся, што паміж мной і Шэнам нічога не было, я проста хацела трошкі падражніць мужа... — Яна адкінула з ілба мокрую пасму. — Шэн замовіў мне некалькі вышываных насовак, каб падарыць на Новы год сваёй каханцы. Я мужу пра гэта не казала, бо хацела, каб грошы сталіся для яго сюрпрызам. Сёння вечарам Вэн знайшоў маю апошнюю насоўку, схапіў кухонны нож і закрычаў, што заб'е і Шэна, і мяне. Я выбегла з дома, спадзеючыся схавацца ў сястры на суседняй вуліцы, але ў яе было зачынена. А калі я вярнулася да нас, мужа ўжо не было і... паўсюль гэтая кроў. — Яна закрыла рукамі твар і скрозь усхліпы дадала: — Шэн... ён мусіў зайсці па насоўку і... Вэн забіў яго. Гэта мая віна, як я магу жыць, калі мой муж...

— Не забывайце, што ў вас ёсць сын, пра якога трэба клапаціцца, — перапыніў яе суддзя. Ён крэпка сціснуў яе рукі і павёў да прыступак.

Вярнуўшыся ў дом, суддзя загадаў начальніку варты адвесці жанчыну наверх. Калі той выканаў загад, чыноўнік сказаў:

— Трэба стаць ля самых дзвярэй і прыціснуцца да сцяны. Мы можам толькі чакаць, калі забойца прыйдзе дадому. Вэн забіў Шэна тут, а потым адправіўся хаваць цела ахвяры. Ён збіраўся вярнуцца і прыбраць кроў, але яго сын прывёў нас сюды, і план забойцы праваліўся. — Трошкі памарудзіўшы, ён з уздыхам дадаў: — Шкада хлопчыка — такое цудоўнае дзіця!

Чацвёра мужчынаў сталі ля сцяны, па двое з кожнага боку ад дзвярэй, суддзя Дзі — ля скрыні разносчыка. Зверху чуліся грубыя галасы: там, відаць, ішла спрэчка.

Раптам дзверы адчыніліся і ўвайшоў моцны, шыракаплечы мужчына. На яго тут жа кінуліся вартаўнікі. Заспеты знянацку, гаспадар жытла не паспеў і зразумець, што адбываецца, як яго рукі скруцілі за спінай і закавалі ў кайданы, а самога Вэна прымусілі ўкленчыць. З яго рукава вываліўся скрутак, завернуты ў прамасленую паперу, і па падлозе рассыпалася локшына. Адзін з вартаўнікоў пхнуў скрутак у кут.

Наверсе хтосьці пачаў танчыць. Тонкія дошкі столі гнуліся і рыпелі.

— Не раскідвайся добрай ежай! — рыкнуў суддзя, разлаваны на вартаўніка. — Зараз жа падымі!

Прысаромлены вартаўнік паспяшаўся сабраць локшыну. Паклаўшы скрутак на стол, ён прамармытаў:

— Не такая ўжо яна цяпер і добрая, вунь як на яе сыплецца бруд са столі.



— У нягодніка кроў на рукаве, пане суддзя! — узрушана ўсклікнуў вартаўнік, які правяраў кайданы на руках Вэна.

Вэн вялікімі вачыма ўтаропіўся ў лужыну крыві, якая была проста пад нагамі. Яго вусны заварушыліся, але з іх не вырывалася ні гуку. Урэшце ён узняў погляд на суддзю і прамовіў:

— Дзе мая жонка? Што з ёй здарылася?

Суддзя Дзі сеў на скрыню, склаў рукі ў шырокіх рукавах на грудзях і холадна сказаў:

— Тут пытанні задаю я, суддзя акругі. Скажы мне...

— Дзе мая жонка? — шалёна пракрычаў Вэн.

Ён паспрабаваў ускочыць, але начальнік варты ўдарыў яго па галаве пугаўём. Вэн агаломшана затрос галавой і, запінаючыся, паўтараў:

— Мая жонка... і мой сын...

— Адказвай! Што здарылася тут сёння вечарам? — дапытваўся суддзя.

— Вечарам... — абыякавым голасам паўтарыў за ім Вэн і запнуўся.

Начальнік варты пхнуў яго:

— Адказвай і гавары толькі праўду!

Вэн нахмурыўся. Ён зноў зірнуў на лужыну крыві на падлозе. Урэшце сказаў:

— Вечарам, калі я ішоў дадому, бакалейшчык сказаў мне, што сюды зазіраў ліхвяр Шэн. А калі я зайшоў дадому, не было ні ежы, ні нават нашай навагодняй локшыны. Я сказаў жонцы, што не хачу яе больш бачыць і што яна можа ісці да гэтага Шэна і заставацца ў яго. Я сказаў, што ўсе суседзі бачаць, як ён яе наведвае, калі мяне няма дома. Яна нічога не казала, ні так, ні не. Потым я знайшоў ля ложка насоўку і пайшоў па разак. Я збіраўся спачатку забіць яе, а пасля пайсці і разабрацца з тым Шэнам. Але калі я вярнуўся з кухні, жонка ўжо збегла. Я схапіў насоўку і хацеў кінуць яе ў твар Шэну перад тым, як перарэзаць яму горла. Але тут я падрапаў руку ўторкнутай у тканіну іголкай.

Вэн замаўчаў. Ён кусаў вусны і шмыгаў носам.

— Я зразумеў, што быў жудасным ёлупам. Шэн не губляў тут насоўку, гэта была проста адна з тых, якія ён замовіў маёй жонцы і над якой яна дагэтуль працавала... Я кінуўся шукаць жонку. Забег да яе сястры, але там нікога не было. Тады я адправіўся ў крамку Шэна, хацеў закласці куртку і купіць жонцы нешта прыемнае. Але Шэн сказаў, што павінен мне звязку медзякоў за набор з дванаццаці насовак. Калі ён зазірнуў да нас удзень, апошняя была яшчэ не гатовая, але яго каханка вельмі ўзрадавалася тым адзінаццаці, якія ён прынёс. А паколькі сёння навагодні вечар, ён усё адно мне заплаціў. Я купіў пакунак локшыны і папяровую кветку для жонкі і вярнуўся сюды. — Гледзячы на суддзю, ён не вытрымаў і закрычаў: — Што з ёй здарылася?! Дзе яна?

Начальнік варты разрагатаўся і выгукнуў:

— Якія казкі расказвае нам гэты сабака! Мярзотнік спадзяецца пацягнуць час! — Падняўшы пугаўё, ён спытаў суддзю: — Можа, пералічыць яму зубы, пане, каб праўдзе было прасцей выходзіць вонкі?

Суддзя Дзі адмоўна пахітаў галавой. Марудна пагладжваючы бакенбарды, ён пранізліва глядзеў на скажоны твар укленчанага разносчыка. Потым суддзя загадаў начальніку варты:

— Паглядзі, ці праўда ён прынёс папяровую кветку!

Начальнік варты сунуў руку разносчыку за пазуху і выцягнуў чырвоную папяровую кветку, паказаў яе суддзю, а потым пагардліва кінуў на падлогу і растаптаў.

Суддзя Дзі падняўся, рушыў да ляжанкі, узяў насоўку і ўважліва яе агледзеў. Потым падышоў да стала і трошкі там пастаяў, разглядваючы брудную локшыну на кавалку прамасленай паперы. У цішы чулася толькі цяжкае дыханне ўкленчанага.

Нечакана на верхнім паверсе зноў выбухнулі крыкамі. Суддзя Дзі зірнуў на столь, потым павярнуўся да начальніка варты і загадаў:

— Прывядзі сюды тых дваіх!

Убачыўшы жонку і сына, разносчык ажно адкрыў рот ад здзіўлення і радасці. Ён закрычаў:

— Слава нябёсам, вы жывыя!

Ён паспрабаваў ускочыць, але вартаўнікі груба яго спынілі. Жанчына кінулася да яго і прастагнала:

— Даруй мне, даруй! Я была такой дурніцай, я проста хацела цябе падражніць! Што я нарабіла, што я нарабіла! Цяпер ты... Яны забяруць цябе і...

— Устаньце, вы абодва! — перарваў яе строгі голас суддзі.

Уладным жэстам ён загадаў вартаўнікам не трымаць больш Вэна за плечы.

— Здымі з яго кайданы! — працягнуў суддзя Дзі.

Калі агаломшаны начальнік варты выканаў загад, чыноўнік звярнуўся да Вэна:

— Сёння вечарам твая дурная рэўнасць ледзь не забіла тваю жонку. Жахлівае няшчасце не здарылася дзякуючы вашаму сыну, які своечасова мяне папярэдзіў. Хай гэты вечар будзе для вас урокам — і табе, і тваёй жонцы. Новы год — гэта час успомніць. Успомніць пра тое, што вам падарылі блаславёныя нябёсы, успомніць пра тыя дары, якія мы лічым чымсьці натуральным і пра якія надта хутка забываем. Вы кахаеце адно аднаго, у вас добрае здароўе і цудоўны сын. Шмат у каго гэтага няма! А таму пастарайцеся надалей быць вартымі гэтых дароў! — павярнуўшыся да хлопчыка, суддзя пагладзіў яго па галаве і дадаў: — А каб вы пра ўсё гэта не забывалі, я наказваю вам змяніць імя хлопчыка на Та-пао — «вялікі скарб».

Суддзя рушыў да дзвярэй, жэстам паказаўшы варце ісці за ім.

— Але, пане... гэтае забойства...

Спыніўшыся ў дзвярах, суддзя слаба ўсміхнуўся і сказаў:

— Ніякага забойства не было. Калі наверсе закалолі кабанчыка, жонка краўца вывернула місу з крывёй, але была занадта п'яная, каб адразу ж усё прыбраць. Скрозь шчыліны ў столі кроў пачала капаць на стол і падлогу... Усяго добрага!

Жанчына закрыла рот далонню, стрымліваючы радасны крык. Яе муж дурнавата ёй усміхнуўся, а потым нахіліўся і падняў папяровую кветку. Няўклюдна паправіўшы пялёсткі, ён падышоў да жонкі і ўплёў кветку ў яе валасы. Хлопчык глядзеў на бацькоў з шырокай усмешкай на маленькім круглым твары.

Начальнік варты падвёў каня суддзі Дзі да самых дзвярэй. Толькі ўскочыўшы ў сядло, чыноўнік зразумеў, што рэўматызм яго больш не мучыць.

Начны гонг абвясціў поўнач. На рынкавай плошчы пачуўся трэск феерверкаў. Зрушыўшы каня, суддзя павярнуўся і крыкнуў:

— З Новым годам!

Ён сумняваўся, што тыя трое ля дзвярэй яго пачулі. Але гэта не мела ніякага значэння.

**З ангельскай мовы пераклала**
**Ганна Янкута**

# Паэт у прозе



Мікола АЎРАМЧЫК

**У беларускай літаратуры Янка Брыль займае месца, адпаведнае яго знешняй мажной постаці.**

Сярод пакалення пісьменнікаў, якія адразу ж пасля вайны ўваходзілі ў беларускую літаратуру, ён не быў пачаткоўцам. Невыпадкова ўжо да другой кнігі яго апавяданняў «Нёманскія казакі» прадмову напісаў тагачасны патрыярх беларускай літаратуры Кандрат Крапіва.

Што ні возьмеш з твораў Янкі Брыля: ці напісаную для маленькіх дзяцей «Ліпку і клёнік», ці «Лазунка» — для падлеткаў, ці яго раманы і аповесці, — на іх ляжыць адбітак рукі сталага майстра з паэтычнай натураю.

Сам аўтар крытычна ставіўся да сваёй аповесці «У Забалоцці днее», якая ў свой час была адзначана Дзяржаўнай прэміяй Савецкага Саюза. Але для мяне гэты твор застаўся блізкім і дарагім менавіта паводле сваёй паэтычнай узнёсласці. Нават неспрактыкаванае вока наглядна ўбачыць паэзію ў Брылёвых аповесцях, апавяданнях і, асабліва, у «Жмені сонечных промняў».

Як вялізнае трумо нават у пахмурнае надвор'е адлюстроўвае на сцяну або столь святло, што падае з аконнага праёму, гэтак творы Янкі Брыля выпраменьваюць на чытача паэтычныя іскрынкі і сонечныя зайчыкі.

Асабіста я адчуваю паэзію нават у самой стылістыцы яго мовы. Янка Брыль — выдатны стыліст. Многія сказы з яго навелаў і лірычных мініяцюраў я люблю перачытваць і смакаваць, як удалыя паэтычныя радкі з добрых вершаў. Прыгадваю, з якім хваляваннем я калісьці чытаў яго аповесці «Расчараванне», «На Быстранцы», «Золак, убачаны здалёк» і «Ніжнія Байдуны». Апошняя выклікала ў мяне не толькі захапленне і добрую сяброўскую зайздрасць, але і прыемнае здзіўленне. Бо ў аснове яе ляжыць усяго толькі якая-небудзь пятая частка жыццёвых падзеяў, пра якія аўтар расказваў мне на працягу многіх гадоў нашага сяброўства. Дык колькі ж яшчэ цудоўных твораў магло з'явіцца з-пад ягонага пяра...

Алесь Адамовіч, Янка Брыль і Уладзімір Калеснік разам напісалі ўнікальную дакументальную кнігу «Я з вогненнай вёскі», падобнай да якой, напэўна, няма ў сусветнай літаратуры. У ёй адлюстраваны не толькі жахлівыя дакументы фашысцкага вандалізму на беларускай зямлі, але і запісаныя галасы ды сфатаграфаваныя абліччы многіх ацалелых ахвяраў гітлераўскіх карнікаў.

Прыяцелі аўтараў ведалі, у сувязі з якой «мышынай» валтузнёю некаторых усесаюзных чыноўнікаў ад літаратуры гэтая кніга не атрымала ў свой час найвышэйшай літаратурнай узнагароды былога Савецкага Саюза.

...Некаторыя мае калегі прызнаваліся мне, што заўсёды бянтэжацца перад унушальнай постаццю Янкі Брыля не толькі як пісьменніка, але і як чалавека. Прызнацца, і ў мяне таксама было гэткае ж адчуванне ў часе першых сустрэчаў з Янкам. Хутчэй за ўсё гэта ад таго, што пры ўнушальнай мажной постаці твар Янкі таксама выглядаў для незнаёмага занадта строгім, калі не суровым. Але Янка быццам добра ведаў і адчуваў, якое ўражанне на незнаёмага робіць яго постаць: неяк незаўважна ўмеў развеяць разгубленасць новых знаёмых. Мяне дык ён адразу ж літаральна абяззброіў сваёй шчырасцю і ўвагаю. Памятаю, як пасля нашага знаёмства ён прывёз мне з Вільні падарунак: тры шыкоўныя, вытканыя ў народным стылі гальштукі. Адзін з блакітным, як васількі, арнаментам, другі — зялёны з чорным, а трэці — з залацістымі каласамі на ружовым фоне. А потым яшчэ прывёз з Масквы вушанку з трусінага футра.

У далейшым мяне з Янкам болей зблізіла тое, што мы разам пачалі працаваць у створанай тады «Маладосці». Ён — як намеснік галоўнага рэдактара і загадчык аддзела літаратуры, а я — літсупрацоўнік, які вёў паэзію. Напэўна, як у кожнага таленавітага чалавека, у яго я ніколі не адчуваў сябе падначаленым.

Фактычна ў маім жыцці менавіта Янка быў першым празаікам, які не тэарэтычна, а на практыцы прывучаў літсупрацоўніка аваладваць празаічным словам, якое чамусьці заўсёды выклікала ў мяне боязь. Хоць я і пачынаў у раннім юнацтве пісаць апавяданні, але тыя патугі былі яшчэ не зусім усвядомленай працаю...

Янка закасваў рукавы, садзіў мяне побач з сабою, браў у рукі самапіску і паказваў, як трэба працаваць над сказам, адкідваючы лішнюю непатрэбшчыну, выпраўляючы недакладныя словы і няўдалыя выразы. Рабіў папраўкі Янка як майстра, а я толькі нясмела дапамагаў яму, як чаляднік. Але гэта надавала мне большай упэўненасці ў аваладанні мастацкім словам у прозе.

Аднойчы, у першыя пасляваенныя гады, Янка запрасіў А. Бялевіча, У. Карпава і мяне паехаць на сваю «малую» радзіму. Мы тады наведалі яго родную Загару, гасцявалі ў сем'ях ягоных братоў Мікалая і Міхася, выступалі перад вучнямі школы і жыхарамі мястэчка Мір.

Янкавы партызанскія сябры, кіраўнікі мясцовага спіртзавода, запрасілі нас азнаёміцца з працаю іхняга прадпрыемства. Ужо два тыдні як завод стаяў на рамонце. Я здолеў прайсці ўсяго толькі два цэхі, вокны якіх былі насцеж расчынены. Але, надыхаўшыся спецыфічна настоеным паветрам, адчуў сябе вельмі кепска. Вымушаны быў дачасна закончыць экскурсію, выйшаў і сеў на беразе сажалкі. А мае калегі абышлі ўсе астатнія цэхі і, адведаўшы канчатковай прадукцыі прадпрыемства, дапамаглі мне ачомацца, каб пайсці на чарговае выступленне.

Пасля тае паездкі А. Бялевіч не раз расказваў у Мінску калегам пра тое, як я асарамаціўся перад Янкавымі партызанскімі сябрамі...

Разам з Янкам я нямала паездзіў па былым Савецкім Саюзе.

Дзе мы толькі ні бывалі?! Самалётам ляталі на Урал, у Сібір і ва Узбекістан. Праз лесастэп, тайгу, тундру і вечную мерзлату па Енісеі ад Краснаярска да Запаляр'я праплылі на цеплаходзе «Рубінштэйн», капітан якога расказваў, колькі ён перавазіў гэтым водным шляхам зняволеных — і нікога не прывозіў назад.

У час нашых супольных паездак я часта быў сведкам таго, як Янка сваімі паводзінамі вельмі хутка выклікаў да сябе сімпатыю мясцовых кіраўнікоў або незнаёмых яму дзеячоў культуры і пісьменнікаў братніх рэспублік.

Прыгадваю, як мы невялікай групай беларускай інтэлігенцыі некалькі дзён ездзілі па Узбекістане і як у выніку гэтай паездкі да яго па-сыноўняму, з замілаваннем пачалі ставіцца народны паэт гэтай рэспублікі Аскад Мухтар, народны артыст Беларусі спявак Леанід Бражнік і народны артыст нашай рэспублікі саліст балету Валеры Міронаў. Або як у час нашага плавання па Енісеі гэтак, як і мы, беларусы, яго пачціва пачалі называць татам расійскія паэты Ірына Валабуева і галоўны рэдактар часопіса «Наш современник» Сяргей Вікулаў.

Нязмушаныя, вельмі натуральныя паводзіны, умельства ненавязліва весці рэй, прадстаўляць аўдыторыі сваіх калегаў, расказваць штосьці вясёлае, небанальнае вылучалі Янку сярод іншых і выклікалі да яго асаблівую сімпатыю. У гэтым сэнсе яны з М. Танкам у любой дэлегацыі выглядалі сапраўднымі еўрапейцамі. Прычым, у адрозненне ад Максіма, які быў абаяльным і незаменным расказчыкам, але і па-еўрапейску ўмеў ігнараваць чарку і ўхіляцца ад абвяшчэння тостаў, Янка па-славянску прыгожа рабіў і тое і другое дый у дадатак у застоллі яшчэ ўмеў хораша заспяваць. А спяваў Янка вельмі хораша. У яго быў прыгожы голас. Я не помню ніводнага выпадку, калі б ён адмовіўся заспяваць што-небудзь па маёй просьбе. Асабліва ён любіў на польскай мове «Галубку», польскія салдацкія, расійскія, украінскія і беларускія народныя песні. Дома ў яго быў спецыяльны столік-шафка, у сярэдзіне з прайгравальнікам і каробкамі з кружэлкамі...



Янка Брыль

Часцей за ўсё мы з Янкам вандравалі па роднай Беларусі. Мяне то аднаго, то з Нілам Гілевічам, то з Сяргеем Грахоўскім Янка пастаянна браў з сабою ў Вілейскі і Лідскі раёны, ад якіх выбіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларусі некалькіх скліканняў. У тых раёнах мы выступалі перад вучнямі і настаўнікамі. Асабліва хвалюючыя сустрэчы для нас умеў наладжваць першы сакратар Лідскага райкама партыі Міхаіл Мінкевіч, які пазней быў міністрам адукацыі. Ён вазіў нас у самыя глыбінныя школы свайго раёна, знаёміў з цікавымі настаўніцкімі калектывамі. Аднойчы, калі ён сам павінен быў праводзіць у Лідзе нейкую важную нараду і даручыў загадчыку ідэалагічнага аддзела суправаджаць нас у паездцы па раёне, адбыўся смешнаваты выпадак. У той дзень мы прыехалі з Мінску. Для нас былі заказаныя месцы ў гасцініцы, і мы, не заходзячы ў яе, паехалі ў раённую глыбінку. Выступалі ў некалькіх школах. Вярнуліся толькі апоўначы. Дзяжурная ў гасцініцы палічыла, што мы яшчэ не прыехалі з Мінску, і пасяліла ў прызначаныя для нас нумары вясковых жыхароў, якія не ўправіліся са сваімі справамі і вымушаны былі заначаваць у раённым цэнтры. Збянтэжаная, яна хацела разбудзіць іх сярод начы. Але Янка ўпрасіў жанчыну не рабіць гэтага. Маўляў, людзі здарожыліся, спяць моцным сном. Не трэба іх раскатурхваць...

Загадчык ідэалагічнага аддзела ўгаварыў нас пайсці начаваць да яго на кватэру. А раніцою, як прыкладны служака, вядома, далажыў начальству пра прыкрую прамашку гасцінічнай абслугі. Калі мы ўвайшлі ў кабінет да Міхаіла Гаўрылавіча, ён першым чынам пацікавіўся, як мы адпачылі? Янка адказаў, што нармальна ўладкаваліся і як след паспалі. Міхаіл Гаўрылавіч недаверліва паглядзеў на яго, незадаволена ўхмыльнуўся, але нічога не сказаў. А я, глянуўшы на крыху сканфужанага Янку, сам сабе надумаў тады, што іншы слуга народу зрабіў бы строгую вымову дзяжурнай гасцініцы за яе недагляд.

Сярод маіх сяброў Янка вылучаўся прастатой і даступнасцю. Яму не ўласцівы былі адасобленасць і замкнёнасць, якія характэрныя для большасці талентаў. Ён разумеў гумар і ўмеў дасціпна жартаваць.

...Аднойчы Янка напісаў мне: давай хоць калі-небудзь пасварымся з табою. Мне зрабілася няёмка. Я прыгадаў, як Янка некалі аднаму з першых даваў мне прачытаць рукапіс рамана «Птушкі і гнёзды». Напэўна, хацеў, каб не толькі як сябра, але і як чалавек, які ведае Нямеччыну знутры, выказаў яму сваё ўражанне аб гэтым творы. Прызнацца, тады ягоны раман выклікаў у мяне нямала заўвагаў і прэтэнзіяў, якія я і выказаў аўтару. Памятаю, што яны вельмі збянтэжылі Янку.

Значна пазней я двойчы перачытваў «Птушкі і гнёзды», і яны выклікалі ў мяне захапленне. Не ведаю, ці таму, што Янка кампазіцыйна крыху перапрацаваў раман, ці таму, што прайшло шмат часу і густ мой болей абвастрыўся, дый сам я многае зразумеў па-іншаму. Як бы там ні было, але Янка ніколі не прыгадваў мне пра тую нашую даўнюю размову...

Апошнія дзесяцігоддзі амаль кожны тыдзень мы тэлефанавалі адзін аднаму, абменьваліся думкамі пра жыццё-быццё і пра літаратурныя навіны, бо значна радзей наведвалі літаратурныя вечары і рэдакцыі газет ды часопісаў. Жартаўліваму напрамку нашых працяглых размоў заўсёды задаваў тон Янка. Часцей за ўсё ён з гумарам называў мяне на нямецкі лад: калі звяртаўся пяшчотна «Ніко», я лагодна зваў яго «Ёган», а калі называў мяне «Нікалаусам», я таксама сур'ёзна зваў яго «Іяганам».

Праўда, калі Янка нярэдка заканчваў нашую тэлефонную размову жартаўліва-пяшчотным: «Вот так, дарагі мой Колечка», у мяне не паваротваўся язык, каб назваць гэтага блізкага і дарагога чалавека Ванечкам...

**«Літаратурная Беларусь», № 4-5, 2007**

*14 студзеня Мікола Якаўлевіч Аўрамчык сустракае свой 95-ы дзень народзінаў. Найшчыра жадаем яму сонечнай радасці, каляднага здароўя і аптымістычнага стогадовага ўзросту!*

# «Куды мы ідзем, невядома...»

## Лісты Рыгора Барадуліна да Васіля Быкава ў Хельсінкі

**Доўгае сяброўства паміж класікамі нацыянальнага мастацтва Васілём Быкавым і Рыгорам Барадуліным увекавечана ў паэтычных і празаічных прысвячэннях, надпісах, успамінах, згадках, лістах, кнігах...**

Родны Васілю!

Сёньня ў Калядны вечар дзякаваў Богу за ўсё. Узгадваў, вядома, цябе. Шкадаваў, што не магу пачуць голас твой, якім душа твая шчырая прамаўляе. За Калядным сталом усёй нашай невялікай сямейкаю жадалі табе здароўя, шчасьлівага вяртаньня.

Хай зорка Віфліема ня гасьне ў тваёй душы! Хай вясёла калядуе настрой твой! Хай, як продкі казалі, здароўе тваё будзе як калядны лёд!

Дужа прасіў перадаць табе паклон з пажаданьнямі ўсяго лепшага Алесь Жук. Пятро Драчоў, які рупіцца музэем Уладзімера Караткевіча ў Воршы, жадае табе плёну, здароўя, настрою. Мы зь ім доўга гаварылі пра ўсе нашыя тутэйшыя фатыгі, аж я напісаў дурноту.

Каб толькі...

*Дзяруцца ўверх па вэртыкалі*
*Апенькі*
*І дрыжаць штоміг.*
*Каб толькі пень не сьпілавалі.*
*Ня будзе пня — ня будзе іх!*

Відаць, ты ведаеш сёлетнія дзяржпрэміі. Усё зьведзена на самоў хвост.

*А прэміі дзяржаўныя*
*Ва ўсе часы забаўныя.*
*Былі яны ад Сталіна.*
*Цяпер — ад Зямы Таліна.*

Ну, гэта мяне панесла. Пра справы. Цьвірка поўны рашучасьці выдаць твой паважны том у «Беларускім кнігазборы». У «Мастацкай» усё трымае на кантролі Ганад [Чарказян], які заўсёды пытаецца пра цябе й перадае табе самыя высокія ўсходнія словы.

Віншуй з Калядамі Ірыну Міхайлаўну. Паклон табе і ёй ад усіх нас.

Абдымаю! Твой Рыгор.

**6 студзеня, 1999**

Родны Васілю!

Атрымаў твой ліст, прыехаўшы з Полаччыны, дзе ладзілі вечарыны перад навучэнцамі вучэльняў, школьнікамі, студэнтамі, негустой нацыянальна-сьведамай інтэлігенцыяй. Усё прайшло добра. Але адчуваецца, што ў паветры разьліты страх, страх якраз і робіць людзей і маўклівымі й абыякавымі, халаднаватымі і абачлівымі. Няма тае шчырасьці, што была напачатку дзевяностых. Але амаль ва ўсіх аўдыторыях пыталіся пра цябе. Як пачуваешся, што пішаш? Усе прасілі перадаваць табе самыя лепшыя словы свайго захапленьня, свайго спачуваньня, сваёй падтрымкі, што я і раблю. Цябе любяць, цябе чакаюць. У прэсе нават было, што трэба параіцца з Быкавым, каго абіраць прэзыдэнтам, бо Быкаў — адзіны сумленны чалавек на ўсю Беларусь.

Дужа добра йдзе твой «Крыжовы шлях» [Быкаў В. Крыжовы шлях: Артыкулы, эсэ, інтэрв'ю, выступленні. — Мінск, Рэспубліканскі літаратурны фонд «Гронка», 1998]. Ранейшых тваіх кніг нідзе няма. (...)

Сёньня прыйшоў студзеньскі нумар «Полымя». Адкрываецца «Ваўчынай ямай». Дапішу табе ліст і засяду за сьвята — буду чытаць цябе. Бо заўсягды, калі чытаю цябе, як ваду сьвятую п'ю. У аўтобусе сустракаюся з рэжысёрам, які ўзяўся за «Жоўты пясочак». Тады ж і напішу табе, што, як, дзе.

Паклон ад усёй нашай хаты, скончаючы Міронам, табе, родны браце, ды тваёй шчырусе Ірыне Міхалішцы. Яна ў цябе класны фотамаг ці фотамагіня.

Абдымаю. Твой Рыгор.

**12.III.99. Менск**



**Васіль Быкаў і Рыгор Барадулін, 2003 г.** Фота Сяргея Шапрана

Родны Васілю!

Адразу ж праглынуў «Ваўчыную яму», а сабраўся напісаць во калі.

Ты дасягнуў такой глыбіннае вышыні, якая завецца біблейскай. Дакладнасьць і афарыстычнасьць, стрыманасьць і ўтрапёнасьць, простасьць і недасяжнасьць. Усё на дэталях і пакутлівай думцы.

Гэтыя два недалугі проста бяз груку ўваходзяць у душу. Пачынаеш успрымаць іх як старых знаёмых, ледзь не як родных, спачуваць ім, хварэць за іх. Пра мову я ўжо й не кажу. Як цёплая рэчачка бяжыць па зябкіх каменьчыках. Наша!

Шмат ужо хто прачытаў — і ўсе ў захапленьні.

Сяргей [С. Законьнікаў] пакінуў табе нумары з тваімі рэчамі.

Сустракаўся я з рэжысёрам Вітаўтасам Грыгалюнасам. Ён хоча паставіць «Жоўты пясочак». Усё, як заўсёды, упіраецца ў маленькую драбязінку — у грошы. Але рэжысёр поўны рашучасьці.

Раладн зрабіў прыстойную вэрсію паводле тваёй навэлы. У мяне экз. для цябе маецца.

Адбылося ўручэньне Багушэвіцкіх прэміяў. Усё прайшло добра.

Апошнім часам часта сьню цябе. Учора хапаюся, каб пазваніць табе, не забыцца. І прачынаюся. Не пазвоніш.

Усе пытаюцца пра цябе, пра тваё здароўе. Езьдзіў абсьледаваў галаву на прадмэт дурасьці. Там, у Аксакаўшчыне, галоўны па рэнтгэну сьпэцыяліст Пятухоў памятае цябе па лечкамісіі. Прасіў перадаць табе самыя добрыя зычэньні...

Шызагэбіст Вячаслаў Д. зьбірае подпісы на альтэрнатыўны Саюз пісьменьнікаў. Ужо быццам бы каля 60 членаў маецца. І гэты, цяперашні, ручны да бессаромнасьці, дык трэба яшчэ болей ручнейшы. Некалі хадзіў анекдот пра эстонскага вярхоўнасаветчыка. Звоніць Брэжневу і ўсё паўтарае: так, так, так. І раптам — не. Адзін раз. А потым зноў, як з кулямёта: так, так, так... Калі размова з Крамлём скончылася, усе падначальнікі пытаюць: як гэта Вы асьмялелі сказаць не. А той адказвае: гэта Леанід Ільліч запытаўся, ці не стаміўся я казаць так.

Навошта ўспамінаць даўныя, у нас новых, штодзённых анекдотаў мех з торбачкай. Як некалі вушацкія людзі казалі: жыць будзеш, ды не захочаш.

Раптоўна стала цёпла. Неўзабаве пачнецца бітва за пасяўную. Потым бітва за ўраджай. А пакуль бітва кілёмэтровымі чэргамі па яйкі. Толькі ў песьні: Вялічка прыйшло, яечка зьнясло... Казала, бывала, мама: ёсь што гаварыць, ды няма каму слухаць. А ў нас ёсьць каму й за аклад закласьці.

Абдымаю цябе. Паклон Ірыне Міхайлаўне ад усіх нас.

Твой Рыгор.

**31.III.99. Менск**

Родны Васілю!

Атрымаў твой ліст зь велікоднымі паштоўкамі. А сёньня раніцай пачуў цябе. Твой канвэрт гэтак клеілі-пераклейвалі, што рог надарвалі. І чырвоны, савецкі штэмпэль паставілі: «Атрымана ў ДП «Мінская пошта» ў пашкоджаным выглядзе. Подпіс» — тут кручок шарыкам. І навошта рабіць добрую міну пры благой гульні? Неакамуністы амаль як ранейшыя пачалі фармальнасьць захоўваць.

Навіны нашыя ты ведаеш. Яны невясёлыя. Некалі Іван Калесьнік пісаў: кожны год у жыцьці паварот. А куды мы ідзем, невядома...

Нашым ч-к адным вядома, куды хацелася б пагнаць рахманы табун. Цэны ўгору, дабрабыт — уніз. Тэлешоў доўжыцца.

Сталы аўтар Славянскага сабору сабраў каля 40 подпісаў супраць заявы Рады Саюзу пісьменьнікаў, за саюз з Белакаменнай. Пачынаюць сьпіс два Іваны, а далей скабялёвы, савіцкія, аўруціны, лукшы — папера можа пачырванець ад прозьвішчаў.

Некалі адзін з Іванаў, які з большым чэравам, пакрыўдзіўся за дурноту:

*А літаратурныя Іваны,*
*Каб ня змыўся зь іх цэкоўскі глей,*
*Са свайго ж дзярма прымаюць*
*ванны —*
*І самаакупней, і цяплей.*

Хочуць новы саюз пісьменьнікаў — пракалхозьніцкі. Вольнаму — воля, шалёнаму — поле...

Валянцін Тарас прасіў перадаць табе, што як ня кожны дзень думае пра цябе. Усе чытаюць «Ваўчыную яму» — і захапляюцца.

Маемся з Алесем Камоцкім павыступаць перад уніятамі са сьпецыяльнай праграмай. Пакуль што будзем у Маладэчне і Лідзе. А там — далей. Бо нашая нацыянальная царква памалу аднаўляецца.

Карлас [Шэрман] зьбіраецца да цябе. Перадам ліст празь яго.

Паклон ад усёй нашай сям'і табе й Ірыне Міхалішцы! Абдымаю.

Твой Рыгор.

**11.IV.99**

Родны Васілю!

Вось я і ў Менску. Твой званок быў першы. Твой голас асланіў мяне, блаславіў на жыцьцё й працу. Дзякуй! Дзякуй! Дзякуй!

Далёкіх вандровак не раблю. Толькі зьезьдзіў у «Полымя» да Сяргея [С.Законьнікава], у ПЭН да Карласа [К. Шэрмана].

Сяргей увесь у клопаце пра «Полымя». Пасьля выезду Някляева пачынаюць трэсьці ўсе выданьні Саюза П[ісьменьнікаў]. У Карласа нага зажывае, але ня хутка.

Некалі пры камуністах старых зайшоўся я ў «Зьвязду». Там арганізоўвалі водгукі рабочых і калхозьнікаў на ўдзяку, што павышаліся цэны. Тады я прапанаваў:

*Наперад мы крочым нязьменна.*
*У грошай мы не рабы.*
*Калі павышаюцца цэны –*
*Павышаецца дабрабыт!*

Цяпер бы можна паўтарыць гэты водгук, які тады, вядома, не надрукавалі. Ці нэо, ці старыя, хай ад іх Бог крые!

Званіў Уладзімер Паўлаў, што ён можа дапамагчы табе падлячыцца ў падзем'і ў Салігорску. Ну я, зразумела, падзякаваў і перадаю табе ад Уладзімера прывітаньне й добрыя зычэньні.

Ні тэле, ні радыё не ўключаю. І так вядома, што Адам і Ева былі праваслаўнымі атэістамі, славянамі. Карл Маркс і Фрыдрых Энгельс, а заадно й зялезны Фэлікс — славяне, пры тым праваслаўныя.

Часьцей і часьцей прыходзіць на памяць прымаўка: абяцаў пан футра — ягонае слова цёплае... А пры такой сьпякоце летам, зімой можа быць сіберна.

Паклон і прывітаньне, браце, табе й дарагой Міхалішцы ад усіх нас.

Абдымаю! Твой Рыгор.

**3.IX.99. Менск**

Родны Васілю!

Сёньня першы дзень сьнежня. І якраз сёньня прыйшоў твой ліст.

На дварэ сьняжніца, вятруга. А мне на душы сонечна ад словаў тваіх. Дзякуй табе за клопат, за ласку, за шчырасьць. Раднейшых у мяне ў гэтым сьвеце няма. Ты самы родны! (...)

З кнігарняў, з шапікаў як скразьняком вынесла ўсё беларускамоўнае. Дамінічка ходзіць у беларускі клас. Ужо кажуць, што зь пятага класу ліквідуюць гэты адзінюткі ў школе загончык, дзе беларускі дух пасецца на вытаптаным пасьвішчы.

І так нашая разьлеглая суседка кусае сабе локці, што дазволіла колькі гадоў беларускасьці перавесьці дых. Цяпер рука ейная шчыльна ляжыць на коўціку ў нас. Ніякіх рэзкіх рухаў.

Але ўсё ў Божай волі. Толькі на Бога трэба спадзявацца. Нездарма ж кажуць: Бог ня выдасьць, сьвіньні не зьядуць! Бяда, што сьвіней развялося! Куляшоў нават у вершы пра камсамольскі білет агаварыўся: жыць застанесься — жыццё даражэй.

Чакаю цябе. Чакае ўся Беларусь!

Абдымаю.

Твой Рыгор.

**Менск, I.XII.99**

**«Літаратурная Беларусь», № 16–17, 2008**

# ПРЭМІІ

## Прэмія Сервантэса

**Лаўрэатам самай прэстыжнай узнагароды ў іспанамоўнай літаратуры — прэміі імя Сервантэса — у 2014 годзе стаў Хуан Гайцісола.**



«Усёй сваёй працай ён дапамог узбагаціць літаратурную спадчыну на іспанскай мове», — з такой фармулёўкай з 1975 года прысуджаецца гэтая прэмія. Як правіла, аўтары з Лацінскай Амерыкі і Іспаніі атрымліваюць узнагароду па чарзе. Так, летась уладальніцай прэміі стала мексіканская пісьменніца Алена Панятоўска.

Імя ўладальніка прэміі за 2014 год назваў міністр культуры Іспаніі Хасэ Ігнасіо Верт. Як адзначылі члены журы, прэмія Хуану Гайцісолу прысуджана за «стылістычнае абнаўленне і яго непараўнальнае экспрэсіўнае майстэрства». Яны таксама зрабілі акцэнт на ўнёску ў пасярэдніцтва паміж еўрапейскай ды ісламскай культурамі. Члены журы назвалі Гайцісолу «інтэлектуалам, які дапамог фармаваць узаемаразуменне ў рэгіёне Міжземнамор'я, ахопленага шматлікімі канфліктамі, але заснаваным на агульнай спадчыне габрэяў, арабаў і хрысціян».

Хуан Гайцісола піша на кастыльскай і каталонскай мовах і вялікую частку жыцця правёў за межамі Іспаніі. Яго бацька быў арыштаваны франкістамі ў гады Грамадзянскай вайны (1936–1939), маці загінула падчас бамбавання Барселоны ў 1938-м. У 1956 годзе Гайцісола быў у апазіцыі рэжыму Франка і пакінуў Іспанію, эміграваў у Парыж. Напрыканцы 1960 – пачатку 1970-х ён выкладаў у ЗША. У 1996 годзе пасяліўся ў Марока, аднак працягваў друкавацца ў іспанскай прэсе, быў ваенным карэспандэнтам газеты «El Pais» у Чачні і Босніі.

Прэмію ў памеры 125 тысячаў еўра (яна фінансуецца міністэрствам культуры Іспаніі) Хуану Гайцісолу ўручыць асабіста кароль Іспаніі Феліпэ VI 23 красавіка 2015 года — у дзень смерці Мігеля дэ Сервантэса.

## Ордэн Ганаровага легіёна

**Расійская пісьменніца Людміла Уліцкая стала афіцэрам французскага Ордэна Ганаровага легіёна.**



Знак афіцэра Ордэна ёй уручыў пасол Францыі ў Расіі Жан-Морыс Рыпер на ўрачыстай цырымоніі ў сваёй рэзідэнцыі.

Людміла Уліцкая — лаўрэат прэмій «Вялікая кніга», «Рускі Букер», французскай прэміі Медычы, Аўстрыйскай дзяржаўнай прэміі па еўрапейскай літаратуры, італьянскай прэміі імя Джузэпэ Ачэрбі і шэрагу іншых аўтарытэтных літаратурных узнагародаў. Творы пісьменніцы перакладзены больш чым на 30 моў свету.

Ордэн Ганаровага легіёна па прыкладзе рыцарскіх ордэнаў Напалеон Банапарт заснаваў 19 мая 1802 года. Прыналежнасць да Ордэна лічыцца афіцыйным прызнаннем заслугаў перад Францыяй, а сам знак адрознення з'яўляецца сімвалам гонару і павагі ў грамадстве. Ва ўзнагароды ёсць тры ступені (кавалер, афіцэр, камандор) і два рангі: вышэйшы афіцэр і кавалер Вялікага крыжа. У Ордэн Ганаровага легіёна, за некаторымі выключэннямі, не прымаюць пасмяротна.

## Jan Michalski Prize

**Вядомы ўкраінскі пісьменнік, паэт і грамадскі дзеяч Сергій Жадан быў узнагароджаны прэміяй Яна Міхальскага (Jan Michalski Prize).**



Адна з самых прэстыжных швейцарскіх літаратурных узнагародаў была ўручана аўтару з Луганска за раман «Варашылаўград» (журы ацаніла кнігу, перакладзеную на французскую мову).

Раман пра родны Луганск, які ў савецкія гады зваўся Варашылаўградам, прынёс Сергію Жадану міжнародную вядомасць. «Фінансавы бок» узнагароды — 5000 швейцарскіх франкаў (1 швейцарскі франк = 11094.59 беларускіх рублёў).

Jan Michalski Prize — літаратурная прэмія, заснаваная аднайменным фондам у 2004 годзе. Асноўная мэта ўзнагароды — садзейнічанне мультыкультуралізму і падтрымка творчасці пісьменнікаў з розных краінаў свету. Апроч прэміі, фонд таксама займаецца падтрымкай рэзідэнцыі для паэтаў, пісьменнікаў і мастакоў, размешчанай у горадзе Монрышэ (Швейцарыя).

## Прэмія Андрэя Белага

**У Санкт-Пецярбургзе ўручылі прэмію імя Андрэя Белага.**



Гэта найстарэйшая недзяржаўная літаратурная прэмія Расіі. Заснавала яе рэдакцыя самвыдатаўскага часопіса «Гадзіннік» у 1978 годзе. Традыцыйная ўзнагарода лаўрэатам — бутэлька гарэлкі, яблык і адзін рубель, — нязменная і дагэтуль. У розныя часы прэмія Андрэя Белага ўручалася Эдуарду Лімонаву, Васілію Аксёнаву, Льву Рубінштэйну, Андрэю Бітаву і інш.

Уладальнікамі ўзнагароды ў намінацыі «Паэзія» ў гэтым годзе сталі адразу два аўтары: Ірына Шастакоўская за рукапіс «2013-2014: the last year book» і Кірыл Мядзведзеў за кнігу «Паход на мэрыю». Узнагарода ў намінацыі «Проза» дасталася Аляксею Цвяткову-малодшаму за кнігу «Кароль тапельцаў», лепшым у намінацыі «Гуманітарныя даследаванні» назвалі Ігара Чубарова з працай «Калектыўная пачуццёвасць: Тэорыі і практыкі левага авангарду», а прэмію ў намінацыі «Крытыка» падзялілі Дзмітрый Бавільскі з кнігай «Да запатрабавання. Гутаркі з сучаснымі кампазітарамі» і журналіст Ігар Гулін з серыяй крытычных артыкулаў 2012–2014 гадоў. У спецыяльнай намінацыі «За заслугі перад расійскай літаратурай» прэміяй Андрэя Белага былі ўганараваны італьянскі славіст Паола Гальваны і перакладчыца Наталля Азарава.

# Спадчына Паўстоўскага

**Дом плошчай 128 квадратных метраў у Калужскай вобласці, а таксама два зямельныя надзелы ў 2,27 гектара падарыла-перадала ўладам Масквы спадчынніца вядомага рускага пісьменніка Канстанціна Паўстоўскага Галіна Арбузава.**



Нерухомасць прызначаецца для музея пісьменніка; ён будзе размешчаны па адрасе: горад Таруса, вул. Пралетарская, 2.

У распараджэнні ўрада Масквы гаворыцца, што горад прымае ў падарунак прапанаваныя дом і зямельныя надзелы. У далейшым нерухомасць перададуць дзяржаўнай установе культуры Масквы «Маскоўскі літаратурны музей-цэнтр К. Г. Паўстоўскага».

Галіна Арбузава — падчарка Канстанціна Паўстоўскага, дачка акцёркі Таццяны Арбузавай (у дзявоцтве Яўцеевай) і драматурга Аляксея Арбузава.



Самаабвешчаны старшыня СП Данеччыны. Фота glavcor.blogspot.com

# «Саюз пісьменнікаў ДНР»

Узброеныя баевікі захапілі будынак аддзялення Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны ў Данецку.

Як стала вядома, ва ўзброеным нападзе ўдзельнічаў так званы «намеснік міністра абароны» так званай Данецкай народнай рэспублікі пісьменнік-фантаст таварыш Бярэзін. Ён заявіў, што ў памяшканні цяпер будзе размяшчацца «Саюз пісьменнікаў ДНР».

# Пазачарговы З'езд НСПУ

**Адбыўся VII пазачарговы З'езд Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны (НСПУ).**



Міхаіл Сідаржэўскі

Ён выбраў Міхаіла Сідаржэўскага старшынёй арганізацыі, былога старшыню Кіеўскага аддзялення НСПУ, грамадскага дзеяча, публіцыста, паэта, галоўнага рэдактара «Української літературної газети».

НСПУ заставаўся без кіраўніка з 30 ліпеня гэтага года, калі былы старшыня Віктар Баранаў памёр пасля працяглай хваробы.

«У сучасным літаратурным працэсе Саюз павінен стаць эфектыўным менеджарам, які ініцыюе кніжныя серыі, займаецца прапагандай украінскай літаратуры ў краіне і за мяжой, пры гэтым выступае ў ролі прафсаюзнай арганізацыі, аказвае матэрыяльную, прававую і сацыяльную падтрымку пісьменнікам, ініцыюе адпаведныя законы, абараняе літаратараў і аўтарскае правы», – адзначыў у сваім выступе Міхаіл Сідаржэўскі.

Па запрашэнні НСПУ на З'ездзе прысутнічаў старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч (Сачанка), які звярнуўся да калегаў з вітальным словам.

# Забіць жонку і напісаць кнігу

**Галандскі пісьменнік-дэтэктыўшчык Рычард Клінкхамер выдаў кнігу, у якой апісаў сем спосабаў забіць жонку.**



Сродкі і метады ён паведаміў чытачу ў драбнюткіх падрабязнасцях і, як аказалася, невыпадкова, бо падчас напісання кнігі Клінкхамер канчаткова рашыўся на здзяйсненне злачынства. Праз год пасля знікнення сваёй жонкі пісьменнік перадаў рукапіс кнігі выдаўцу. Аднак у першапачатковым варыянце кніга Клінкхамера прынята не была — выдавец палічыў яе занадта жудаснай для шэраговага чытача. Ды аўтар вырашыў выдавацца ў падпольнай друкарні. Пасля гэтага да Клінкхамера прыйшоў поспех — ён стаў знакамітым, яго рэгулярна запрашалі на тэле- і радыёшоў, што і дазволіла аўтару і яго новай сяброўцы пераехаць у Амстэрдам.

У сталіцы Галандыі Клінкхамер пражыў тры гады, пакуль у яго старым доме не ўсяліліся новыя жыхары... і знайшлі там цела памерлай жонкі пісьменніка. Аказваецца, раней паліцыя Галандыі, разглядаючы справу па знікненні спадарыні Клінкхамер, нават рабіла цеплавое сканаванне будынка з верталёта, аднак нічога не знайшла, бо цела ляжала пад бетонным падмуркам.

У забойстве жонкі 62-гадовы Клінкхамер досыць хутка прызнаўся; яму пагражае пажыццёвае турэмнае зняволенне.

**Старонка падрыхтавана паводле матэрыялаў РИА Новости, The Guardian, novostiliteratury.ru, Gazeta.ua і Newsru.ua.**

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

TV

## 26 СНЕЖНЯ, ПЯТНІЦА

**Беларусь 1**

**07.40** Музычная камедыя «Непапраўны хлус» (СССР).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Камедыя «Адзін дома-2: згублены ў Нью-Ёрку» (ЗША).
**11.15** Рамантычная меладрама «Усё будзе добра» (Расія). 1 - 4 серыі.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.45** Камедыйная меладрама «На кручку!» (Расія).
**17.30** Меладрама «Зімовае танга» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**21.00** Панарама.
**22.00** Нацыянальны адбор Міжнароднага конкурсу песні «Еўрабачанне - 2015». Фінал. Прамая трансляцыя.
**00.00** Фантастычны баявік «Людзі Ікс: апошняя бітва» (Канада-ЗША- Вялікабрытанія.
**01.50** Дзень спорту.

**ОНТ**

**06.00, 07.00** Нашы навіны.
**08.00** Нашы навіны.
**09.05** «Граф Монтэ-Крыста». Мастацкі фільм.
**12.25** «Формула кахання». Мастацкі фільм.
**14.05** «Калядны анёл». Мастацкі фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.20** Песня года-2014.
**20.00** Навіны спорту.
**20.30** Нашы навіны.
**21.05** «Чорна-белае».
**22.10** Голас.
**00.35** «Вячэрні Мінск».
**01.40** Начныя навіны.

**СТВ**

**06.15** Фільм «Любовь-морковь» (Расія, 2007 г.).
**08.10** Фільм «Дэніс-кат наносіць новы ўдар!» (ЗША, 1998 г.).
**09.35** «Добры дзень, доктар».
**10.10** «Аўтапанарама».
**10.35** Фільм «Гары Потэр і кубак агню» (Вялікабрытанія - ЗША, 2005 г.).
**13.15** Фільм «Гары Потэр і ордэн Фенікса» (Вялікабрытанія - ЗША, 2007 г.).
**15.40** «Такі лёс».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** Фільм «Гары Потэр і прынц-паўкроўка» (Вялікабрытанія - ЗША, 2009 г.).
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ спорт».
**20.05** Фільм «Любовь-морковь-2» (Расія, 2008 г.).
**22.00** СТБ прадстаўляе: вячэрні шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**23.15** «Дакументальны праект».
**00.55** Фільм «Грэмліны-2. Схаваная пагроза» (ЗША, 1990 г.).

**Беларусь 2**

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Беларуская кухня.
**09.40** Навагодняя гісторыя «Пасылка з Марса» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**11.50** Капейка ў капейку.
**12.25** Я хачу гэта ўбачыць.
**13.00** Камедыйны серыял «Універ» (Расія).
**14.10** Сямейная камедыя «Дружба народаў» (Расія). Заключная серыя.
**15.15** Вось дык так!
**15.50** Фантастычны блокбастар «Аватар» (ЗША).
**18.45** Прэм'ера. Прыгодніцкі фільм-фэнтэзі «Персі Джэксан і выкрадальнік маланак» (ЗША).
**20.55** Цела чалавека.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** «Бітва экстрасэнсаў». Містычнае рэаліці-шоў (Расія).
**23.10** Рэпарцёр.
**00.05** Містычны трылер «Воўк» (ЗША).

**Беларусь 3**

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Таямніца душы».
**08.40** «Дванаццатая ноч». Камедыя (СССР).
**10.05** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**10.30** «Графіня». Меладрама (Расія, 1991 г.).
**11.50** «Навагоднія вечары ў Маладзечне». Вакальны ансамбль «Камерата».
**12.45** «Персона». Аляксандр Збруеў.
**13.10** «Калейдаскоп».
**13.25** «Сіла веры».




**13.50** «Аўтограф». Камерны аркестр Гомельскай абласной філармоніі. Мастацкі кіраўнік - У.Міловцін.
**14.15** «Музеі Беларусі». Музей гісторыі Мінска.
**14.45** «Навагодні тыдзень». Вакальна-інструментальны ансамбль «Синяя птица».
**15.40** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**16.05** «Людзі на балоце. Палеская хроніка». Драма. 8-я серыя, заключная (СССР, 1984 г.).
**17.15** «Культурны праменад». Інфармацыйна-забаўляльнае ток-шоу.
**17.55** «Музычнае прынашэнне настаўніку». Да 90-годдзя прафесара Міхаіла Солапава.
**18.55** «Калейдаскоп».
**19.10** «Тварам да сцяны». Крымінальная драма (СССР, 1989 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.00** «Вялікі вальс». Музычная драма (ЗША, 1938 г.).
**22.40** «Культурны праменад». Інфармацыйна-забаўляльнае ток-шоу.
**23.20** «Навагоднія вечары ў Маладзечне». Арт-група «Беларусы».
**00.15** «Камертон». Эдуард Ханок.
**00.45** «Калейдаскоп».

**Беларусь 5**

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Авертайм.
**08.30** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ. ЦСКА (Расія) - «Цмокі-Мінск» (Беларусь).
**10.10** Біятлон. Этап Кубка свету. Эстэрсунд. Спрынт. Мужчыны.
**11.45** Хакей. Чэмпіянат Беларусі. «ХК Гомель» - «Юнацтва» (Мінск).
**13.40** Біятлон. Этап Кубка свету. Эстэрсунд. Спрынт. Жанчыны.
**15.10** Свет англійскай прэм'ер-лігі.
**15.40** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Чэлсі» - «Вэст Хэм». Прамая трансляцыя.
**17.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Манчэстэр Юнайтэд» - «Ньюкасл». Прамая трансляцыя.
**19.55** Піт-стоп.
**20.25** Фактар сілы.
**20.55** Хакей. Чэмпіянат свету. U-20. Расія - Данія. Прамая трансляцыя.
**23.10** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Вэст Бромвіч» - «Манчэстэр Сіці».
**01.00** PRO спорт. Навіны.

**БЕЛСАТ tv**

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Рэпартэр.
**07.40** Відзьмо-невідзьмо.
**08.10** «Мы вольныя людзі», дак. фільм, 2008 г., Польшча.
**09.05** «Плынь кахання», дак. фільм, 2013 г., Венгрыя.
**10.15** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Тэдор Нарбут.
**10.30** «Бабуля, тысячу разоў», дак. фільм, 2010 г., Аб'яднаныя Арабскія Эміраты – Катар – Ліван.
**11.15** «Шапэн. Прага кахання», біяграфічны фільм, 2002 г., Польшча.
**13.25** «Прыватны сусвет», дак. фільм, 2012 г., Чэхія.
**14.45** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**15.15** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**15.40** «Жанна д'Арк», маст. фільм, 1999 г., Канада – ЗША: 1 серыя.
**17.10** «Каханне па-беларуску», дак. фільм, 2013 г., Беларусь.
**17.40** «Малая Масква», серыял.
**18.30** «Вандроўная ноч», дак. фільм, 2012 г., Францыя.
**19.25** «Жанна д'Арк», маст. фільм, 1999 г., Канада – ЗША: 2 серыя.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**21.50** «Неабвешчаная вайна. Нататкі дакументаліста», дак. фільм, 2014 г., Украіна: ч. 3.
**22.40** «Ясмін», маст. фільм, 2006 г., Польшча.
**00.30** «Апошні золак», канцэрт.

## 27 СНЕЖНЯ, СУБОТА

**Беларусь 1**

**06.45** Існасць.
**07.10** Камедыйная меладрама «Цётка Клава фон Гетэн» (Расія).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Клуб рэдактараў.
**09.50** Камедыйны серыял «Цуд» (Украіна).
**10.50** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.25** Кулінарная дыпламатыя.
**12.10** Гісторыі рамонту.
**12.50** «Здароўе». Ток-шоў.
**13.30** БеларусьLIFE.
**13.55** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.30** «Вялікая розніца». Парадыйнае шоў (Расія).
**17.00** Калядная камедыя «Залатыя нажніцы» (Расія).
**19.00** Камедыя «Адзін дома» (ЗША).
**21.00** Панарама.
**21.40** Камедыйная меладрама «Лепшы сябар майго мужа» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**23.45** Камедыйны серыял «Цуд» (Украіна).
**00.40** Дзень спорту.
**00.50** «Вялікая розніца». Парадыйнае шоў (Расія).

**ОНТ**

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі».
**09.20** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.10** «Ідэальны рамонт».
**12.05** «Разумніцы і разумнікі».
**13.00** «Здабытак рэспублікі».
**15.10** Насмяшы коміка.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Тарзан». Мастацкі фільм.
**17.45** «Поле цудаў».
**18.55** Нацыянальная музычная прэмія «Ліра».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Сёння ўвечары».
**22.50** «Герцагіня». Мастацкі фільм.

**СТВ**

**06.00** Фільм «Любовь-морковь-2» (Расія, 2008 г.).
**07.45** Фільм «Дэніс - кат Калядаў» (ЗША, 2007 г.).
**09.20** «Чыстая праца».
**10.00** «Іншая краіна».
**11.30** «Мінск і мінчане».
**12.05** «Прыгоды дылетанта».
**12.40** Фільм «Экіпаж» (СССР, 1979).
**15.15** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** Канцэрт Міхаіла Задорнава.
**18.25** СТБ прадстаўляе: інтэлект-шоу «Разумней не прыдумаеш».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ спорт».
**20.10** Фільм «Любовь-морковь-3» (Расія, 2010 г.).
**22.00** «Зорны рынг. Бітва хітоў».
**23.15** «Дакументальны праект».
**00.10** Фільм «Бітлджус» (ЗША, 1988).

**Беларусь 2**

**07.05** Мастацкі фільм «Спадарыня Завея» (ГДР).
**08.05** Толькі для дарослых.
**08.25** Прыгодніцкі мультсерыял «Аватар: легенда пра Аангу» (ЗША).
**09.45** Беларуская кухня.
**10.30** Тэлебарометр.
**10.35** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**12.10** Капейка ў капейку.
**12.45** «Бітва экстрасэнсаў». Містычнае рэаліці-шоў Расія.
**14.20** Вось дык так!
**14.55** Прыгодніцкі серыял «Бафі - знішчальніца вампіраў» (ЗША).
**17.20** «Comedy woman». Гумарыстычная шоу-праграма (Расія).
**18.25** Ікра.
**19.15** Ваша лато.
**19.55** Латарэя «Пяцёрачка».
**20.05** «Сустрэча з..».
**20.40** Кіпень.
**21.00** Спортлато 6 з 49.
**21.05** КЕНО.
**21.15** Тэлебарометр.
**21.20** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**23.00** Біяграфічная гісторыя «У пагоні за шчасцем» (ЗША).

**Беларусь 3**

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.15** «Тварам да сцяны». Крымінальная драма (СССР, 1989 г.).
**09.50** «Камертон». Станіслаў Гаварухін.
**10.15** «Шчасце Алены». Алена Турава.
**10.35** «Рыжык у Зазяркаллі». Дзіцячы прыгодніцкі фільм. 1-я і 2-я серыі (Беларусь, 2011 г.).
**12.35** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**13.05** «Калейдаскоп».
**13.20** «Тарцюф». Музычная камедыя (Расія, 1992 г.).
**14.55** «Русалачка». Фільм-казка (Чэхаславакія, 1976 г.).
**16.20** «Калейдаскоп».
**16.35** Прэм'ера. «Музеі Беларусі». Філіялы Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі.
**17.00** «Навагодні тыдзень». Мікалай Гнацюк.
**17.55** «Дыя@блог P.S.».
**18.20** «Байран». Біяграфічная драма. 1-я і 2-я серыі (Вялікабрытанія, ЗША, 2003 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.10** «Пісьмо незнаёмкі». Меладрама (Францыя, Германія, 2001 г.).
**22.40** «Мама». Дакументальны фільм пра жыццёвы і творчы шлях народнай артысткі СССР Галіны Макаравай.
**23.10** «Калейдаскоп».

**Беларусь 5**

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Чэлсі» - «Вэст Хэм».
**09.55** Хакей. Чэмпіянат свету. U-20. Расія - Данія.
**11.45** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Арсенал» - КПР.
**13.40** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Манчэстэр Юнайтэд» - «Ньюкасл».
**15.35** Піт-стоп.
**16.05** Фактар сілы.
**16.35** Авертайм. КХЛ.
**16.55** Хакей. КХЛ. «Дынама» (Мінск) - «Дынама» (Рыга). Прамая трансляцыя.
**19.25** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Агляд тура.
**20.20** Мастацкая гімнастыка. Baby Cup.
**22.20** Біятлон. Этап Кубка свету. Хохфільцэн. Спрынт. Жанчыны.
**23.55** Хакей. КХЛ. «Дынама» (Мінск) - «Дынама» (Рыга).
**01.45** PRO спорт. Навіны.

**БЕЛСАТ tv**

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**07.15** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**07.50** Маю права (юрыдычная праграма)..
**08.10** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**08.30** Чорным па белым (культурніцкая праграма).
**09.00** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**09.25** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Валянцін Акудовіч.
**10.00** «Ноч святога Мікалая», маст. фільм, 2000 г., Польшча.
**10.55** Казкі для дзетак: «Польскія казкі і паданні», «Вынаходлівы Дабрамір».
**11.35** «Лонданцы II», серыял.
**12.25** «Час гонару», серыял.
**13.05** Без рэтушы: «Скрушны лёс», рэпартаж, 2013 г., Беларусь.
**13.20** Два на два (тэледыскусія).
**13.50** МакраФон: Канцэрт «АВ-ВА-аркестру», выступ Алеся Камоцкага і Андрэя Мельнікава.
**14.45** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**15.20** «Жанна д'Арк», маст. фільм, 1999 г., Канада – ЗША: 2 серыя.
**16.55** Моўнік (лінгвістычная праграма): Пытаецеся – адказваем!
**17.05** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**17.35** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**17.50** «Малая Масква», серыял.
**18.40** «Mad Men. Утрапёныя-III», серыял.
**19.25** «Неабвешчаная вайна. Нататкі дакументаліста», дак. фільм, 2014 г., Украіна: ч. 3.
**20.10** Форум (ток-шоу): Брак ці шлюб?
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.10** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма)..
**21.45** Суботні сеанс: «Скала Малголэнд», маст. фільм, 1995 г., ЗША.
**23.30** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**23.55** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Валянцін Акудовіч.
**00.30** Аб'ектыў.
**00.40** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).

TV

## 28 СНЕЖНЯ, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**07.05** Калядная камедыя «Залатыя нажніцы» (Расія).
**08.50** Слова Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Камедыйны серыял «Цуд» (Украіна).
**10.45** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.20** Xxl woman tv. Жаночы часопіс.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.10** Таямніцы следства.
**13.50** Каробка перадач.
**14.30** Eurovision. Вынікі тыдня.
**14.50, 22.15** Вялікае тэлебачанне.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Вакол планеты.
**16.20** Тэлефільм АТН цыклу «Вялікі рэпартаж».
**16.55** Камедыйная меладрама «Кватарантка» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**18.45** Камедыя «Адзін дома-2: згублены ў Нью-Ёрку» (ЗША).
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.25** Камедыя палажэнняў «Каляды з няўдачнікамі» (ЗША).
**00.20** Камедыйны серыял «Цуд» (Украіна).

### АНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. Пін-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.40** «Фазэнда».
**11.10** Шоу-гульня «ТБ-таксі».
**11.35** «Брэйн-рынг».
**13.10** «Сватаўство гусара». Мастацкі фільм.
**14.25** «Белыя Росы». Мастацкі фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Цырымонія ўзнагароджання нацыянальнай прэміяй» Народная марка «.
**18.00** «Белыя Росы. Вяртанне». Мастацкі фільм.
**20.00** Контуры.
**21.05** «Ледніковы перыяд».
**22.00** Міс Свету-2014.
**23.50** «Што? Дзе? Калі?».
**01.00** «Легенды Live».

### СТВ

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Агляд тура.
**08.55** Хакей. КХЛ. «Дынама» (Мінск) - «Дынама» (Рыга).
**10.50** Мастацкая гімнастыка. Baby Cup.
**12.55** Хакей. Чэмпіянат Беларусі. «Юнацтва» (Мінск) - «Дынама» (Маладзечна). Прамая трансляцыя.
**15.00** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Тотэнхэм - Манчэстар Юнайтэд. Прамая трансляцыя.
**17.00** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Саўтгэмптан» - «Чэлсі». Прамая трансляцыя.
**19.10** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Ньюкасл» - «Эвертан». Прамая трансляцыя.
**21.10** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Манчэстэр Сіці» - «Бэрнлі».
**23.00** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Вэст Хэм» - «Арсенал».
**00.55** Хакей. Чэмпіянат свету. U-20. Швейцарыя - Расія. Прамая трансляцыя.
**03.10** PRO спорт. Навіны.

### Беларусь 2

**07.00** Вышэй за дах.
**07.25** Калядная сямейная камедыя «Санта Клаўс-2» (ЗША).
**09.15** Прыгодніцкі мультсерыял «Аватар. Легенда пра Аангу» (ЗША).
**10.05** Тэлебарометр.
**10.10** «Fitnews». Праграма пра прыгажосць і здароўе.
**10.50** «Зразумець і абясшкодзіць». Аўтарскі праект.
**11.25** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**13.05** Я хачу гэта ўбачыць!
**13.40** Камедыйная-прыгодніцкі серыял «Мама-дэтэктыў» (Расія). Заключныя серыі.
**15.45** Прыгодніцкі фільм-фэнтэзі «Персі Джэксан і выкрадальнік маланак» (ЗША - Канада).
**17.50** «Comedy Баттл». Без межаў «. Забаўляльная шоу-праграма (Расія).
**19.15** Суперлато.
**20.05** Кіпень.
**20.25** Тэлебарометр.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.20** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**23.00** «Перазагрузка». Маладзёжнае ток-шоў.
**23.45** «Сустрэча з..».
**00.15** Хакей для ўсіх.

### Беларусь 3

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.15** «Байран». Біяграфічная драма. 1-я і 2-я серыі (Вялікабрытанія, ЗША, 2003 г.).
**10.40** «Подых струн». Музычная праграма. Лепшыя бардаўскія песні 2014 года.
**11.20** «Наперад у мінулае».
**11.50** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**12.40** «Калейдаскоп».
**12.55** «Дзелавыя людзі». Гісторыя пошты.
**13.15** «Мама». Дакументальны фільм пра жыццёвы і творчы шлях народнай артысткі СССР Галіны Макаравай.
**13.40** «І смех, і бяда». Кароткаметражны фільм (СССР, 1973 г.).
**14.20** «Свет прыроды». Лясны прыгажун.
**14.30** «Свет прыроды». Маленькі зімовы сюжэт.
**14.50** Творчы вечар народнага артыста Расіі Аляксандра Міхайлава.
**15.55** «Калейдаскоп».
**16.10** «Руслан і Людміла». Фільм-казка. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1972 г.).
**18.30** «Культпрасвет».
**19.05** «Вялікі вальс». Музычная драма (ЗША, 1938 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.10** «Жорсткі раманс». Музыка Андрэя Пятрова.
**22.15** «Культпрасвет».
**22.50** «Камедыянт». Спектакль. Часткі 1-я і 2-я.
**00.25** «Калейдаскоп».

### Беларусь 5

**07.50** Футбол. Суперкубак Іспаніі. «Атлетыка» (Мадрыд) - «Рэал» (Мадрыд).
**09.50** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў. Плэй-оф. «Вайводзіна» (Сербія) - «Татран» (Славакія).
**11.20** Пляжны футбол. Кваліфікацыя да ЧС-2015. Беларусь - Грузія.
**12.30** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў. Плэй-оф. БГК ім. Мяшкова (Беларусь) - «Таргес-Бево» (Нідэрланды).
**14.00** Хакей. КХЛ. «Дынама» (Рыга) - «Дынама» (Мінск).
**15.55** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў. Плэй-оф. Прамая трансляцыя.
**17.30** Пляжны футбол. Кваліфікацыя да ЧС-2015. Расія - Беларусь. Прамая трансляцыя.
**18.30** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў. Плэй-оф. Прамая трансляцыя.
**20.15** Аўтаспорт. Чэмпіянат Беларусі. 4-ы этап.
**21.15** Пляжны футбол. Кваліфікацыя да ЧС-2015. Расія - Беларусь.
**22.30, 23.55** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў. Плэй-оф.

### Белсат tv / Belsat

**07.00** Аб'ектыў.
**07.10** Зона «Свабоды».
**07.45** Казкі для дзетак: «Польскія казкі і паданні», «Вынаходлівы Дабрамір».
**08.25** «Ажыятаж вакол Басі», серыял.
**08.50** Маю права (юрыдычная праграма)..
**09.15** Два на два (тэледыскусія).
**09.45** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**10.00** Рэпартэр.
**10.30** Казкі для дзетак: «Чатыры бакі казак», «Польскія казкі і паданні».
**10.55** «Чароўнае дрэва», серыял.
**11.25** «Mad Men. Утрапёныя-III», серыял.
**12.10** «Час гонару», серыял.
**13.00** «Неабвешчаная вайна. Нататкі дакументаліста», дак. фільм, 2014 г., Украіна: ч. 3.
**13.45** Відзьмо-невідзьмо.
**14.10** «Вандроўная ноч», дак. фільм, 2012 г., Францыя.
**15.05** Чорным па белым (культурніцкая праграма).
**15.30** «Ясмін», маст. фільм, 2006 г., Польшча.
**17.20** «Малая Масква», серыял.
**18.05** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**18.40** «Ранча», серыял.
**19.25** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.55** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Усебеларускі з'езд 1917 года.
**20.05** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.30** «Гісторыя стравы і душы», дак. фільм, 2013 г., Балгарыя–Фінляндыя.
**21.45** Фільматэка майстроў: «Эксклюзіў», дэтэктыўная камедыя, 2006 г., ЗША.
**23.15** «Вандроўная ноч», дак. фільм, 2012 г., Францыя.
**00.10** «Неабвешчаная вайна. Нататкі дакументаліста», дак. фільм, 2014 г., Украіна: ч. 3.

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 301274 1108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234 .**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 3000 руб., аднаго месяца — 12000 руб.

**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**

«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі. **Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**



КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

| Счет получателя | 3012741108019 | Лицевой счет | Код 739 |
|---|---|---|---|
| УНП* | 190790926 | | |

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | | |
| | | | | | |

Плательщик

Пеня ________

Кассир Всего ________

# Балюча, але эфектыўна

Вольга ХВОІН

**Рэформа сістэмы МУС у Грузіі была бадай што самай радыкальнай. У літаральным сэнсе ішла вайна з крымінальным светам, адбываліся масавыя звальненні супрацоўнікаў.**



У грузінскай паліцыі працуе нямала жанчын

Цяпер у Міністэрстве ўнутраных спраў Грузіі працуе прыкладна ў два разы менш людзей, чым напачатку рэформаў, — каля 30 тысяч. Будынкі паліцыі сучасныя, са шклянымі сценамі як сімвал празрыстасці і непадкупнасці. Заробкі паліцэйскіх, па грузінскіх мерках, прыстойныя, а сама праца пачэсная. У краіне паліцыі давяраюць.

Паводле веснавога даследавання Міжнароднага рэспубліканскага інстытута (IRI), найбольшым даверам сярод дзяржаўных, палітычных і грамадскіх інстытутаў карыстаецца Грузінская Праваслаўная Царква (94% апытаных). Другое месца займае армія, якой давярае 93% рэспандэнтаў. На трэцім месцы — СМІ (84%), на чацвёртым знаходзіцца паліцыя — 82%.



Давід Сакварэлідзэ



Шата Уціашвілі



Мікалай Казлоў

## Крымінальныя рэкорды

«У Грузіі была глыбокая сістэмная карупцыя, то бок ячшэ да пачатку размовы з прадстаўніком паліцыі людзі думалі, што можна адкупіцца. І калі чалавек прыходзіў працаваць у паліцыю, то ў яго таксама былі адчуванні, што ён ідзе не абараняць людзей, а зарабіць грошай на хабары, адбіць сваю інвестыцыю ў працаўладкаванне. Бо патрапіць у паліцыю таксама можна было праз хабар», — апісвае сітуацыю ў МУС на пачатку 2000-х экс-начальнік інфармацыйна-аналітычнага ўпраўлення МУС Грузіі Шата Уціашвілі.

На тле гэтай бязмежнай карупцыі квітнела арганізаваная злачыннасць. Грузія трымала першынства па колькасці «злодзеяў у законе» з прастораў былога СССР: кожны трэці такі крымінальны аўтарытэт меў тады прапіску на прасторах гэтай краіны.

«Адкупіцца ад паліцыі, суда было вельмі проста. Злодзеі кантралявалі турмы, мелі свой бюджэт, атрымлівалі інфармацыю ад паліцэйскіх і г.д. Кожную трэцюю машыну ў Тбілісі кралі. І ўсе ведалі, што ёсць злодзеі ў законе, якія сядзяць у турме. З імі звязваліся, плацілі выкуп і атрымлівалі свой аўтамабіль. Таму, калі пачалі рэформы, то гэта літаральна была вайна з крымінальным светам. Грузія была першай краінай, якая прыняла закон пра злодзеяў у законе і прадстаўнікоў крымінальнага свету. Нас за яго крытыкавалі, маўляў, прызнанне чалавекам, што ён злодзей у законе, не ёсць доказам віны. Але мы глядзелі на гэта так: ёсць праблема — і трэба яе вырашаць», — дапаўняе карціну Давід Сакварэлідзэ, былы намеснік галоўнага пракурора Грузіі, а цяпер дэпутат парламента Грузіі.

У 2004 годзе ў Грузіі быў прыняты закон, які дазваляе прыцягваць да адказнасці толькі за прызнанне прыналежнасці да зладзейскага свету. Затрыманага пыталіся: «Ты злодзей у законе?» Калі ён адказваў сцвярджальна, то яго прыцягвалі да адказнасці. Калі ж адмаўляўся ад свайго «статусу», то, па крымінальных панятцях, губляў яго. Для асуджаных злодзеяў у законе ў Грузіі пабудавана спецыяльная турма з жорсткім рэжымам утрымання, каб аўтарытэты не маглі кіраваць іншымі вязнямі і ствараць іерархічныя схемы.

Таксама быў прыняты закон па неабгрунтаванай маёмасці. Калі чалавек не мог пацвердзіць у судзе, за што ён набыў сабе дарагі дом ці машыну, то гэта забіралася ў прыбытак дзяржаве. Такім чынам многа нерухомасці былых крымінальных дзялкоў перадалі паліцэйскім участкам, дзіцячым дамам, дзяржорганам.

Напрошваецца лагічнае пытанне: ці не баяліся рэфарматары помсты з боку крымінальных аўтарытэтаў?

«З арганізаванай злачыннасцю насамрэч прасцей змагацца, чым са злодзеямі-адзіночкамі. Крымінальныя структуры добра разумеюць пасыл ад улады. Яны зразумелі, што больш такога не будзе, каб высокія чыноўнікі прыязджалі з картэжам у аэрапорт сустракаць злодзеяў у законе. У выніку многія з'ехалі з Грузіі, астатніх пасадзілі ў турму. Насельніцтва вельмі добра гэта ўспрыняло, бо яно проста стамілася ад крыміналу ў паўсядзённым жыцці. Сама «рэвалюцыя ружаў» адбылася з прычыны патрэбы пераменаў у грамадстве», — тлумачыць Давід Сакварэлідзэ. І дадае, што рэфарматарам пашанцавала з камандай ідэалістаў-энтузіястаў, якія стварылі прагматычную дзяржаву з правільным курсам развіцця.

## Усё сур'ёзна

Рэфармаванне МУС у Грузіі пачалі з ДАІ. Структуру наўпрост ліквідавалі. Затым на яе месца прыйшла патрульная служба на ўзор амерыканскай. Па вуліцах з уключанымі мігалкамі ездзяць патрульныя машыны, якія сумяшчаюць у сабе функцыі ДАІ і патрульных нарадаў.

«Менавіта патрульную службу можна назваць візітоўкай паліцыі. Са следчым грамадзянін ці ўвогуле не сутыкаецца, ці адзін-два разы за ўсё жыццё. А аўтаінспекцыя навідавоку, і кантакты з імі частыя, — распавядае Шата Уціашвілі. — Рэформы трэба пачынаць з самага верху. Калі ёсць карупцыйная піраміда, то нелегальныя даходы падымаюцца ад самага нізу да міністра. І важна гэтую піраміду разбурыць».

Грузінскае грамадства хутка пабачыла вынік. Цяпер, да слова, заробак у паліцэйскіх пачынаецца ад 800 долараў. Пры гэтым сярэдні заробак у Тбілісі прыкладна 200–250 долараў.

Канешне, былі і незадаволеныя — столькі людзей апынуліся на вуліцы! Але ўрад Саакашвілі меў вялікі мандат даверу на рэформы. Звольненыя паліцэйскія не маглі выйсці наўпрост на вуліцу і сказаць: «Вярніце нам права браць хабар». Хаця да апазіцыйнага электарату яны, натуральна, далучыліся.

Змянялі не толькі сутнасць паліцыі, але і знешні вобраз. Паліцэйскіх пераапранулі, перасадзілі на добрыя машыны, прымусілі сачыць за фізічнай формай, выдалі новую зброю. Па тэлебачанні ішла перадача пра жыццё паліцыі. Публічна агучваліся ўсе выпадкі, калі арыштоўвалі супрацоўнікаў паліцыі за хабар ці перавышэнне паўнамоцтваў, каб усе ведалі, што часы старых парадкаў сышлі ў нябыт. За 9 гадоў (з 2003 па 2012) было заведзена каля 2 000 крымінальных спраў, звязаных з карупцыяй і перавышэннем паўнамоцтваў у МУС.

Сёння гуляць позна вечарам па вуліцы бяспечна, мясцовыя жыхары распавядаюць, што некаторы час нават машыны не закрывалі на ключ, бо ахвочых абакрасці проста не было. Пра паліцыю гавораць з гонарам і павагай. А разняволены супрацоўнік сямейнага гатэлю ў размове са мной заўважыў, што не хацеў бы працаваць у паліцыі, бо «хабар браць забаронена, і наогул там усё сур'ёзна».

Падыход да прафесійнай падрыхтоўкі паліцэйскіх таксама змяніўся карэнна. Раней, каб працаваць у паліцыі, трэба было вучыцца чатыры гады. Але рэфарматары падумалі, што гэта занадта — участковаму і патрульным столькі ведаў і дыплом юрыста ў нагрузку не патрэбныя. Калі чалавек хоча працаваць у паліцыі, ён праходзіць тэставанне, падрыхтоўчыя адукацыйныя курсы на працягу 8 тыдняў, потым зноў тэставанне. Пасля гэтага паліцэйскі працуе 6 месяцаў на выпрабоўваючым тэрміне. І надалей у час кожнага руху наверх па службовай лесвіцы ён праходзіць курсы павышэння кваліфікацыі. Хуткая падрыхтоўка кадраў дазваляе лёгка манеўраваць.

## Жорсткая справядлівасць

Канешне, рэформа сістэмы МУС не выкараніла злачыннасць цалкам. У Грузіі цяпер, напрыклад, як і ў Беларусі, ёсць праблема распаўсюду сінтэтычных наркотыкаў.

«Раней ішла барацьба з распаўсюдам наркотыкаў так: арыштоўваеш барыгу — і ўсё. Цяпер трэба змагацца менавіта са спажываннем. Думаю, з-за гэтага многія краіны пачалі думаць пра легалізацыю марыхуаны. У параўнанні з сінтэтычнымі наркотыкамі гэта куды меншае зло», — гаворыць Шата Уціашвілі. Паводле яго слоў, у Грузіі цэняць беларускіх праграмістаў як тэсціроўшчыкаў сістэм бяспекі. Многія арганізацыі, перш чым паставіць сістэму бяспекі, даюць беларускім хакерам яе ўзламаць, каб праверыць на трываласць. А вось супрацоўніцтва паміж сілавымі ведамствамі цяпер няма. Грузія выйшла са складу СНД і супольныя праграмы спыніліся.

У Грузіі няма карупцыі ў судах. Але суды засталіся залежнымі ад дзяржавы. На суддзяў можна націснуць, калі патрэбны нейкі вердыкт.

Новая ўлада правяла ў краіне амністыю, па якой на волю выйшлі 16 000 вязняў. Пагоршылася крыміналагенная сітуацыя. Амністыя ўдарыла і па матывацыі паліцэйскіх, бо навошта лавіць злачынцаў, калі іх выпусцяць?

Крытыкуюць у народзе і «прынцып нулявой талерантнасці», гэта калі перад законам усе роўныя. Напрыклад, затрымлівалі жанчыну з кантрабандай цыгарэтаў — і атрымлівала яна па поўнай, нягледзячы на маштаб.

«На першы погляд, гэта падаецца жорсткім. Але за ноч такія жанчыны сумкамі перапраўляюць прыкладна фуру цыгарэт. Для маленькай эканомікі Грузіі гэта істотная страта», — тлумачыць былы намеснік Галоўнага пракурора Грузіі Давід Сакварэлідзэ.

«Асноўнай прафілактыкай супраць сур'ёзных злачынстваў ёсць разуменне, што кара непазбежная», — рэзюмуе Шота Уціашвілі.

Ці патрэбныя рэформы Міністэрству ўнутраных спраў Беларусі, я пацікавілася ў чалавека, які ведае гэтае ведамства знутры — падпалкоўніка міліцыі ў запасе Мікалая Казлова:

— Я думаю, нашу сістэму трэба мяняць кардынальна. Асабліва міліцыю па ахове грамадскай бяспекі, бо яна выйшла з прававога поля. У нас цяпер у грамадстве і, адпаведна, у сістэме Міністэрства ўнутраных спраў, пераважае палітычная мэтазгоднасць, а не закон. Злодзей мае больш шанцаў на справядлівы суд, чым законапаслухмяны чалавек, але са сваім прынцыповым меркаваннем. Увогуле, вялікая праблема МУС Беларусі ў кадрах: штат аграмадны, але там, дзе патрэбныя людзі — аператыўныя супрацоўнікі, следчыя, участковыя, — ёсць вялікі дэфіцыт персаналу. Пытанне, чым тады займаюцца дзясяткі тысяч сілавікоў?

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЗША. Судзяць галоўнага гамафоба планеты

Стала вядома, што пастар-евангеліст з Каліфорніі Скот Лайвлі, вядомы як галоўны анты-ЛГБТ-актывіст у свеце, паўстане перад федэральным акруговым судом ЗША за ўмяшанне ў заканадаўства іншай дзяржавы. Кар'ера Лайвлі на глебе галоўнага барацьбіта з гомасексуалістамі пачалася ў 1990-х гадах. Будучы пастар беспрабудна піў, пакуль у 1986 годзе не патрапіў у клініку для алкаголікаў, дзе нечакана знайшоў сваё прызначэнне ў служэнні Богу. Ён уступіў у радыкальную пратэстанцкую секту, у рамках якой пачаў змагацца з гомасексуалістамі і прыхільнікамі абортаў. Славу на ўвесь свет яму прынесла кніга «Ружовая свастыка» (1995). Увагу да сябе кніга прыцягнула скандальнымі заявамі і высновамі: у ёй аўтары тлумачыць з'яўленне нацызму ў Германіі рухам гомасексуалізму і сцвярджае, што большасць партыйных лідараў НСДАП, уключаючы Адольфа Гітлера, — геі. Увогуле, судзіць Лайвлі будуць не за кнігу. У віну яму ставіцца тое, што ён распрацаваў для Уганды ў 2002 годзе закон аб смяротным пакаранні для геяў. Застаецца дадаць, што Скот лічыць сябе таксама бацькам гамафобіі ў Расіі, дзе ён у 2006–2013 гадах выступаў з лекцыямі.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### РАСІЯ. Апазіцыя пераходзіць на «і»

Усеціве з'явіўся маніфест шэрагу расійскіх антыпуцінскіх дысідэнтаў, якія заклікаюць усіх апанентаў рэжыму пісаць у тэкстах замест літары «и» літару «і». Пераход на «і», калі верыць аўтарам, павінен стаць сімвалам супраціву расійскаму нацыяналізму і мілітарызму, паколькі «і» — гэта частка ўкраінскай азбукі. Аўтары сцвярджаюць, што «і» таксама азначае нейкі ідэйны выбар на карысць свабоды. «Словы на літару «і» — гэта першым чынам «Independency» ці «Individual». Наша «і» можа азначаць проста незалежнасць ад панавальнай ура-ідэалогіі, асабістую свабоду свядомасці», — гаворыцца ў маніфесце. Крытыкі ініцыятывы кажуць, што такая літара была да рэвалюцыі ў Расійскай Імперыі, якая прыгнятала Украіну. Між тым, прыхільнікі «і» аптымістычна глядзяць у будучыню. «Па колькасці «і» ў тэксце (калі яны наогул там ёсць) можна будзе меркаваць пра ступень занепакоенасці аўтара мілітарызацыяй і азіяцкім паваротам краіны», — пішуць яны.

**Паводле расійскай прэсы**

### ПАЎДНЁВАЯ АМЕРЫКА. Набліжаецца пашпартызацыя

Лідары краін — сяброў блоку «Саюз нацыяй Паўднёвай Амерыкі» (Unasur) пачалі абмяркоўваць незвычайны праект. Як кажа генсек арганізацыі Эрнэста Сампер, лідары дзяржаў не супраць увесці адзінае грамадзянства для жыхароў усіх краін рэгіёну. Такім чынам, кожны тубылец будзе мець два пашпарты — нацыянальны і паўднёваамерыканскі. Апошні не будзе даваць права галасаваць або абірацца ў дзяржаўныя органы ў іншых краінах. Затое ён дазволіць без візаў наведваць любую краіну Паўднёвай Амерыкі, наймацца там на працу, вучыцца і абараняць свае правы, як усе мясцовы грамадзяне, без розных консулаў і пасольстваў. «Рэалізацыя праекту надасць імпульс абмену і гандлю ў рэгіёне», — кажа Сампер, не называючы, праўда, дакладныя тэрміны ўвядзення пашпарта паўднёвага амерыканца. Застаецца сказаць, што ў краінах Unasur жывуць больш за 400 мільёнаў чалавек.

**Паводле венесуэльскай прэсы**

### ІЗРАІЛЬ. Новы Сіён

Група ізраільскай моладзі, расчараваная хваляй ваяўнічага нацыяналізму ў краіне, вырашыла паўтарыць шлях сіяністаў і стварыць новы Ізраіль. «Старая дзяржава Ізраіль не ў стане забяспечыць сваім жыхарам годнае жыццё ні ў эканамічным, ні ў сацыяльным сэнсе, ні ў сэнсе бяспекі. І той разбуральны, гвалтоўны шлях, на які стала дзяржава, здаецца, ужо незваротны», — лічыць аўтар праекту філосаф Анат Рыман-Ор. На яго думку, усе, хто хоча захаваць ідэалы сіянізму, павінен бегчы ў пустынную зону ў Галілеі, дзе Анат і яго прыхільнікі вырашылі будаваць Новую Грамаду — такая рабочая назва новай дзяржавы. Ініцыятыва выклікала інтарэс сярод маладых ізраільцян, аднак, відавочна, пакуль гэта хутчэй форма палітычнага пратэсту супраць мілітарысцкага курсу Тэль-Авіву. Застаецца дадаць, што гэта ўжо другая спроба пацыфістаў данесці свае ідэі да грамадства праз тэму перасяленцаў. Раней адзін з ізраільцянін, праціўнікаў вайны з арабамі, заклікаў аднагодкаў перасяляцца ў Берлін, адкуль яўрэі збеглі падчас Халакосту. Праўда, сам аўтар ідэі, пабываўшы ў Берліне, дастаткова хутка вярнуўся ў Ізраіль.

**Паводле ізраільская прэсы**

CESTA DOMŮ

# Сысці годна
## Спіс апошніх пажаданняў

**Штодня мы прымаем безліч рашэнняў, малых і вялікіх, прафесійных і асабістых. За гэтымі жыццёвымі клопатамі нам нестае часу на тое, каб задумацца і вырашыць, якім бы мы хацелі бачыць свой сыход, а тым больш абмяркоўваць гэта з роднымі і блізкімі.**



> Ужо 13 гадоў наша арганізацыя аказвае медыцынскую і псіхалагічную дапамогу людзям з апошнімі стадыямі цяжкіх захворванняў і іх сем'ям

У нашым грамадстве не прынята размаўляць на тэму смерці. Дзеля таго, каб перaадолець гэта сацыяльнае табу, у верасні 2014 года чэшскае грамадскае аб'яднанне «Cesta Domu» («Вяртанне») распачало інфармацыйную кампанію «Падумайце аб Смерці», якая выклікала шырокі рэзананс не толькі ў Чэхіі, але і далёка за яе межамі.

З дапамогай адмыслова створанага сайта — Thinkaboutdeath.org — кожны мае магчымасць скласці свой асабісты спіс апошніх пажаданняў. Тут можна не толькі выбраць музыку ды вопратку для свайго пахавання, але і выказаць свае страхі перад смерцю ды сфармуляваць апошнюю волю. Гэты спіс застанецца прыватным, і яго не ўбачаць іншыя інтэрнэт-карыстальнікі, але пры жаданні ім можна падзяліцца з сябрамі ў сацыяльных сетках.

Пра мэты кампаніі, яе эфект і планы на будучыню гутарым з Лібарам Ванекам, адным з аўтараў канцэпцыі, і Гэленай Штоганзлавай, менеджарам праекта «Cesta Domu».

***— Як узнікла ідэя такой незвычайнай кампаніі?***

**Лібар Ванек:** Ужо 13 гадоў наша арганізацыя аказвае медыцынскую і псіхалагічную дапамогу людзям з апошнімі стадыямі цяжкіх захворванняў і іх сем'ям. Гэта так званая паліятыўная медыцына, скіраваная на паляпшэнне якасці жыцця пацыентаў, якія паміраюць, мінімалізацыю болю і іншых цяжкіх пабочных эфектаў. Штогод мы праводзім сацыялагічнае апытанне на тэму стаўлення да смерці ў грамадстве. Вынікі такога апытання 2013 года яшчэ раз пацвердзілі, што людзі не любяць размаўляць пра смерць. Больш за тое, іх жаданні адносна свайго сыходу не адпавядаюць рэчаіснасці: 78% рэспандэнтаў сказалі, што яны хацелі б памерці дома, але пра гэтым большасць (69%) паміраюць у шпіталях. Пераважна людзі не паспяваюць своечасова сфармуляваць і абмеркаваць сваю апошнюю волю з сем'ямі. Многія ўвогуле ніколі не размаўляюць на тэму смерці. Таму асноўная мэта гэтай інфармацыйнай кампаніі — пераканаць людзей пачаць размаўляць на гэту складаную тэму своечасова. Гэта дапаможа не толькі пераадолець свае асабістыя страхі і самотнасць, але таксама дазволіць родным лепш зразумець і годна выканаць апошнюю волю блізкага ім чалавека.

***— На каго ў першую чаргу скіравана кампанія, улічваючы, што яе асноўным інструментам з'яўляецца інтэрнэт?***

**Гэлена Штоганзлава:** Першапачатковa мы планавалі, што нашай асноўнай мэтавай групай будуць маладыя людзі ва ўзросце 20–25 гадоў — найбольш актыўныя інтэрнэт-карыстальнікі. Мы зыходзілі з таго, што моладзі, для якой смерць уяўляецца вельмі аддаленай і даволі абстрактнай перспектывай, будзе крыху прасцей закрануць гэту няпростую і эмацыйную тэму ў размовах са старэйшым пакаленнем: скажам, са сваімі бабулямі і дзядулямі. Яны б сталі своеасаблівымі праваднікамі ў сваіх сем'ях.

**Л.В.:** Мы былі шчыра здзіўлены, калі заўважылі, што больш за 50% наведнікаў сайта кампаніі — гэта людзі ва ўзросце 35+, пры гэтым 7% з іх складаюць тыя, каму больш за 65 гадоў. Магчыма, гэта вынік таго, што кампанія атрымала шырокі розгалас у традыцыйных СМІ (газетах, ТБ і радыё). Да яе далучыліся знакамітасці — пісьменнікі, артысты, мастакі, — якія разважаюць пра сваё стаўленне да смерці. Хтосьці даў вельмі глыбокія, інтэлектуальныя адказы ў форме эсэ. Іншыя запісалі кароткія відэазвароты. Для многіх гэта быў першы раз, калі яны задумаліся пра смерць, сваю апошнюю волю ды публічна падзяліліся сваімі разважаннямі.

***— Якой была рэакцыя грамадскасці?***

**Л.В.:** Вельмі станоўчай. Нешта кшталту: «Нічога сабе! Я ніколі пра гэта не думаў. Гэта цікава». Сродкі масавай інфармацыі падхапілі нашу ідэю, гэта прыцягнула ўвагу шырокіх колаў людзей, што, у сваю чаргу, дазволіла распачаць больш грунтоўную дыскусію ў грамадстве. За тры месяцы ад пачатку кампаніі на нашым сайце пабывала каля 45 тысяч наведнікаў. На сённяшні дзень больш за 800 чалавек стварылі свае анлайн-«спісы апошніх пажаданняў». Вельмі часта такі спіс складаюць сем'ямі: дзеці з бацькамі, унукі з дзядулямі і бабулямі. Кампанія стала мостам паміж пакаленнямі, дапамагла сем'ям збліжацца, пераадолець парог маўчання. Для нас важнай з'яўляецца не колькасць, а вось гэты працэс дыялогу. Нашы чытачы дзеляцца з намі сваімі вельмі кранальнымі асабістымі гісторыямі.

***— А ці вы самі склалі свае спісы апошніх жаданняў?***

**Г.Ш.:** Так, я гэта зрабіла, і гэта быў вельмі цікавы, часам складаны досвед, які прымусіў пераасэнсаваць некаторыя рэчы. Спачатку, калі ты выбіраеш музыку ці вопратку для свайго будучага пахавання, усё гэта падаецца забаўкай. А вось калі я пачала фармуляваць для сябе свае ўласныя страхі перад смерцю, то гэты момант быў вельмі эмацыйным і важным. Крыху паразважаўшы, я падзялілася са сваімі сябрамі ў «Фэйсбуку» толькі часткай свайго спісу, але некаторыя рэчы былі настолькі асабістымі, што іх я пакінула выключна для сябе.

**Л.В.:** Я яшчэ ў працэсе. Мы робім гэта разам з жонкай.

***— Ці плануеце вы пашыраць кампанію за межамі Чэхіі?***

**Л.В.:** Жаданне ёсць, але паколькі кампанія робіцца на нашы ўласныя сродкі і дабрачынныя ахвяраванні, то рэсурсы ў нас абмежаваныя. Аднак гэтай ідэяй вельмі зацікавілася Еўрапейская асацыяцыя паліятыўнай дапамогі, у якой ёсць аддзяленні ў многіх еўрапейскіх краінах, а таксама ў Расіі. Мы спадзяемся, што наша супрацоўніцтва будзе плённым. Нядаўна мы запусцілі англамоўную версію сайта кампаніі. І зараз, дарэчы, шукаем валанцёраў, якія б дапамаглі перакласці і лакалізаваць (падабраць улaсцівыя для сваёй краіны прыклады музыкі, вопраткі і іншай атрыбутыкі пахаванняў) наш сайт на іншыя мовы. Калі кагосьці з Беларусі зацікавіць такая магчымасць, калі ласка, пішыце мне на электронную пошту: libor.vanek@cestadomu.cz.

**Артыкул падрыхтаваны пры падтрымцы грамадскага аб'яднання «Cesta Domu» (Прага, Чэшская Рэспубліка)**

# Гімн трэба спяваць правільна

Алег НОВІКАЎ

**У снежні пабачыла свет пастанова Кітайскай камуністычнай партыі, паводле якой уводзяцца новыя правілы выканання «Маршу валанцёраў» — так называецца гімн КНР. Гэта пастанова з'явілася на сайце афіцыйнага кітайскага агенцтва «Сіньхуа».**



Цяпер для выканання дзяржгімну патрэбна не толькі адпаведная атмасфера, аднак таксама спецыяльны гардэроб, і больш таго — у выканаўцы павінна быць «адчуванне энергіі». У пастанове пералічваюцца канкрэтныя выпадкі, калі спеў гімну лічыцца непажаданым. Напрыклад, забараняецца выконваць «Марш валанцёраў» падчас вяселляў, пахаванняў, танцаў, камерцыйных мерапрыемстваў і г.д. Нават са стадыёнамі не ўсё проста. Дазваляецца выкарыстоўваць гімн толькі на спартовых аб'ектах, дзе ідзе барацьба за годнасць Кітаю і ёсць гаранты бяспекі для гледачоў. Злачынствам лічыцца прыпыняць гімн пасля таго, як яго пачалі спяваць, нельга выконваць на матыў гімну нейкую іншую лірыку. Барані вас Божа размаўляць падчас выканання «Маршу валанцёраў» па тэлефоне. Згаданая пастанова абяцае, што парушальнікі будуць «несці адказнасць», хаця канкрэтная мера пакарання не пазначана.

Такое рашэнне пекінскія чыноўнікі тлумачаць логікай. Маўляў, неяк дзіўна, калі падчас вяселля маладажоны пачынаюць цягнуць: «Страляй у ворага і маршыруй» (словы гімна). Не менш дзіўным выглядае выкананне на цырымоніі пахавання песні, якая пачынаецца са слова «Паўстань!». Таксама ў афіцыйных каментарах гаворыцца, што новыя правілы павінны прыпыніць імпарт амерыканскай традыцыі, калі гімн можа выконваць у любой аранжыроўцы. Напрыклад, за акіянам шмат аматараў слухаць гімн у лірычнай версіі Уітні Хьюстан або ў рок-апрацоўцы Джымі Хендрыкса.

Аднак, на думку большасці каментатараў, за пастановай пра гімн стаіць глябальны інтарэс Пекіну. Перш за ўсё ўрад намагаецца ўзняць статус «Маршу валанцёраў». Справа ў тым, што ёсць некалькі мелодый — прэтэндэнтаў на статус гімну кітайцаў. Першы варыянт пабачыў свет, яшчэ калі ў Паднябеснай кіравала манчжурская дынастыя. Пазнаёміўшыя з дыпламатычным цырыманіялам на Захадзе, кітайская імператрыца вырашыла імпартаваць рытуал выканання гімну. У 1896 годзе

**У выніку, Цянь Ханя (аўтара словаў гімну) прызналі рэвізіяністам і адправілі на нары. У 1969 годзе ён памёр за кратамі, так і не дачакаўшыся рэабілітацыі**

мелодыя «Tune of Li Zhongtang» была абвешчаная гімнам Кітаю. У аснове тэксту — сярэднявечны панегірык на адрас каралеўскага дому, таму ў ім сустракаюцца такія словы, як «Сын неба едзе на возе, які пафарбаваны ў пяць фарбаў, і запрэжаны шасцю драконамі».

У сувязі з рэвалюцыяй і грамадзянскай вайной у пытаннях гімну ў кітайцаў узнікла сапраўдная анархія. Як мінімум шэсць мелодый (плюс «Інтэрнацыянал», якім карысталіся камуністы) выконваліся ў якасці гімну.

З музычным хаосам пакончыў Чан Кайшы — лідар Кітайскай Рэспублікі і старшыня партыі «Гаміньдан». У 1943 годзе ў разгар Другой сусветнай вайны Чан Кайшы спыніў свой выбар на песні «Тры прынцыпы народу» (усяго яму на разгляд прапанавалі 139 варыянтаў). Тэкст песні напісалі аж 4 аўтары. Цікава, што сярод чальцоў «Гаміньдана» была фракцыя, якая выступала за тое, каб базай лірыкі для гімну быў адзін з выступаў Сунь Ятсена — заснавальніка рэспублікі і «Гаміньдана». У выніку ад такой ідэі адмовіліся, хаця ў тэксце ўсё роўна прысутнічае партыйная тэма. «Стварэнне нашай партыі дазволіла стварэню Рэспублікі», — так пачынаецца гімн Чан Кайшы.

Але хутка пасля зацвярджэння афіцыйнага гімну Кітайскай рэспублікі, камуністы правялі свой адбор гімна. У выніку, пераможцам аказаўся той самы «Марш валанцёраў». Дарэчы, абодва гімна напісаныя адпаведна правілам класічнай кітайскай паэзіі.

Паводле камуністычнага міфу, аўтару давялося пісаць тэкст на паперы ад пачку з-пад тытуню: маўляў, іншага годнага для запісу прадмета ў турме, куды яго кінулі за пратэст супраць «Гаміньдана», пад рукой не аказалася. Хаця ўвогуле песня была напісаная супраць Чан Кайшы, яна была вельмі папулярная сярод удзельнікаў антыгаміньданаўскага супраціву. У 1949 годзе камуністы, якія ўзялі Пекін, абвясцілі «Марш валанцёраў» часовым гімнам абвешчанай там жа Кітайскай народнай рэспублікі (КНР).

Прыблізна праз 15 гадоў Маа Цзэдун даў старт культурнай рэвалюцыі, ідэолагі якой заклікалі да татальнай рэвізіі мінулага. У прыватнасці, хунвейбіны звярнулі ўвагу на тое, што падчас вайны «Марш валанцёраў» быў папулярным не толькі сярод сялян і рабочых, але таксама і сярод буржуазіі. У выніку Цянь Ханя (аўтара словаў) прызналі рэвізіяністам і адправілі на нары. Праўда, турма чакала яго ў любым выпадку, паколькі менавіта з крытыкі яго п'есы пачалася культурнай рэвалюцыя. У 1969 годзе Цянь Хань памёр за кратамі, так і не дачакаўшыся рэабілітацыі.

У гэты час гімнам КНР стаў вядомы матыў «Чырванее Усход». Толькі ў 1978 годзе «Марш валанцёраў» зноў прызналі гімнам, хаця ў яго тэксце цяпер згадваецца Вялікі кормчы Маа Цзэдун. У 1985 годзе на хвалі крытыкі культу асобы Маа Народныя зборы КНР прынялі рашэнне вярнуць гімну арыгінальны тэкст Цянь Ханя. У 2004 годзе «Марш валанцёраў» нарэшце стаў афіцыйнай мелодыяй камуністычнага Кітаю.

І вось цяпер кітайскія ўлады вырашылі вызначыць, як правільна спяваць дзяржаўны гімн. На думку заходніх каментатараў, антураж, пры якім этычна або не спяваць гімн, уладам Пекіна мала цікавы. Як адзначае французская газета «Le Monde», галоўная задача ўзмацнення жорсткасці правілаў выканання «Марш валанцёраў» — мабілізаваць кітайцаў вакол нацыяналістычнай ідэі, атрыбутам якой з'яўляецца дзяржаўны гімн. Лічыцца, што на дадзеным этапе патрыятычны пафас патрэбны кітайскім камуністам, каб апраўдаць падаўленне сепаратысцкіх выступаў у Ганконгу.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Марын Ле Пэн



Лідар французскай нацыяналістычнай партыі «Нацыянальны фронт» (FN), адзін з фаварытаў прэзідэнцкай кампаніі 2017 года, збіраецца перамагчы ў тым ліку за кошт экалагічных лозунгаў. На мінулым тыдні Ле Пэн прэзентавала грамадскасці праект аховы навакольнага асяроддзя ў рамках яе экспертнай каманды «Rassemblement bleu Marine» (RBM). Сенсацыя заключаецца ў тым, што экалогія заўсёды была фішкай левых партый, якія крытыкавалі бум спажывання, моду арыстакратаў на паляванне, дзеянні карпарацый, што працуюць у сферы атамнай энергетыкі. Марын Ле Пэн лічыць, што экалогія можа быць справай патрыётаў. Эксперты яе партыі абяцаюць распрацаваць да выбараў экалагічную частку праграмы Марын, у тым ліку давесці, што масавая эміграцыя з'яўляецца адной з пагрозаў французскай прыродзе. Праўда, аналітыкі лічаць, што, хутчэй за ўсё, канцэпцыя патрыятычнай экалогіі будзе звязаная з мадэллю суверэннай дзяржавы, якую нацыяналісты прапануюць французам замест удзелу ў еўраінтэграцыі. У выпадку рэалізацыі такога плану, французскія прадукты на рынку, як абяцаюць ідэолагі FN, будуць мясцовымі, а значыць, свежымі і экалагічнымі.

### Генадзь Зюганаў



Лідар Кампартыі (КПРФ) выступіў з незвычайнай прапановай — дазволіць палітычным партыям Расіі браць удзел у школьных палітынфармацыях. У КПРФ перакананыя, што гэта дазволіць падрастаючаму пакаленню выразна ўсвядоміць, якія палітычныя сілы яму найбольш блізкія. Прычым слухаць палітынфармацыі з удзелам эмісараў партый змогуць толькі тыя, каму ўжо споўнілася 14 гадоў. Дарэчы, раней у ДзяржДуме ўжо гучалі прапановы даць грамадзянам права на ўдзел у выбарах менавіта з гэтага ўзросту. Палітынфармацыі, па меркаванні камуністаў, павінны праходзіць два разы на тыдзень і лічыцца асобным прадметам, па якому не трэба будзе напрыканцы школьнага года здаваць іспыт. Праўда, большасць у Думе супраць вяртання ў школы ўрокаў палітінфармацыі: праект камуністаў завярнулі яшчэ ўлетку. Але гэта наўрад ці звязана з тым, што думцы супраць палітызацыі школьнікаў. Папросту дырэктарат расійскіх школаў шчыльна ўпісаны ў актыўнасць праўладнай партыі «Адзіная Расія», і адзінаросы не жадаюць падрыву іх манаполіі ў школьных установах.

### Джым Мэрфі



Першае, што нечакана для ўсіх зрабіў 45-гадовы новаабраны старшыня шатландскай секцыі брытанскай партыі лейбарыстаў, гэта жорстка раскрытыкаваў лонданскіх палітыкаў, якія, па яго словах, прыгнятаюць шатландскі край. Хаця яшчэ напярэдадні вераснёўскага рэферэндуму аб незалежнасці лейбарысты выступалі супраць выхаду Шатландыі са складу Вялікабрытаніі. Быццам не памятаючы мінулага, Мэрфі заявіў, што заўсёды кіраваўся дэвізам: «Шатландыя перш за ўсё!». Як піша прэса, такіх выхадак трэба было чакаць, паколькі саюз з кансерватарамі падчас кампаніі супраць незалежнасці кепска паўплываў на імідж шатландскіх лейбарыстаў. Як вынік, шмат актывістаў пераходзяць у шэрагі Шатландскай нацыянальнай партыі, якая таксама называе сябе сацыял-дэмакратычнай. На цяперашні дзень лейбарысты адстаюць ад нацыяналістаў, якія маюць 47 працэнтаў падтрымкі, на 20 пунктаў. Праўда, не зразумела, як партыйны базіс адрэагуе на незалежніцкія фінты Мэрфі. Падчас кампаніі супраць незалежнасці ён быў яе візітоўкай. Мэрфі нават паставіў рэкорд, умудрыўшыся за сто дзён выступіць супраць незалежнасці ў ста гарадах Шатландыі. Цікава, што Мэрфі дасюль не атрымаў дыплома аб вышэйшай адукацыі, хаця ў свой час вучыўся ў адным з мясцовых універсітэтаў на працягу аж 9 год.

# Горад, якога баяліся бальшавікі



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**У 1920–1930-я гады Маладзечна быў адным з найбольш моцных вайсковых фарпостаў Другой Рэчы Паспалітай на тэрыторыі Заходняй Беларусі. І сёння тут можна знайсці сляды знаходжання польскай арміі.**

## На мяжы цывілізацый

«Рыжская» дамова падзяліла Беларусь на два кавалкі. Тады ні Варшаву, ні Маскву не цікавіў лёс беларусаў. Для палякаў галоўнай задачай была абарона сваёй незалежнасці. Разам з тым, у спрыяльных умовах Войска Польскае магло паўдзельнічаць і ў баявых дзеяннях супраць бальшавікоў, тым больш, што палякі былі добра падрыхтаваныя да баявых дзеянняў ва ўмовах «расійскага бездарожжа». У сваю чаргу, СССР на працягу міжваеннага дваццацігоддзя ўзмацняла сваю заходнюю мяжу ў Беларусі, бо разумела, што ў будучай вайне менавіта беларускі накірунак можа стаць галоўным.

Паводле разлікаў камандавання Чырвонай Арміі, падчас агульнага наступу на Мінск для польскіх войскаў існавала некалькі накірункаў (з улікам наяўнасці якасных дарог, чыгуначных шляхоў і станцый). Так, з боку Вілейкі часткі Войска Польскага маглі наступаць на Плешчаніцы і далей на Барысаў. Пры гэтым галоўнай задачай для палякаў быў бы захоп чыгуначнага моста праз Беразіну. Удар з боку Валожына і Ракава дазваляў польскай арміі выйсці да Мінска. Наступленне ў бок Койданава — Фаніпаль дазваляла жаўнерам Другой Рэчы Паспалітай абыйсці сталіцу БССР з поўначы і рухацца ў бок Магілёва. Але найбольш небяспечны ўчастак быў з боку Маладзечна, адкуль Войска Польскае па чыгунцы (з выкарыстаннем бронецягнікоў) і па старой Віленскай дарозе праз Заслаўе выходзіла б на подступы да Мінска.

Пры гэтым польскае камандаванне таксама разглядала магчымасць савецкага ўдару ў накірунку на Маладзечна. Паводле абарончага плану «Усход», распрацаванага польскім генштабам у 1930-х гадах, польская Армія «Вільна» павінна былі арганізаваць абарону па лініі «польскай» Беразіны. У выпадку вайны з СССР памежны батальён КАП «Краснае» і эскадрон кавалерыі, пры падтрымцы бронецягніка, роты танкетак ТКС павінны былі ў памежных баях стрымаць першы ўдар Чырвонай Арміі. На дапамогу гэтым часткам павінны былі падыйсці падраздзяленні аператыўнай групы «Ліда». За абарону Маладзечна адказваў 86-ты пяхотны полк, узмоцнены артылерыяй.



Тэадор Вартэцкі



Жаўнеры 86-га пяхотнага палка

## Мінскія стралкі

Гісторыя гэтай вайсковай адзінкі пачалася падчас польска-бальшавіцкай вайны. Варта пазначыць, што ў гэты час асноўны касцяк палка склалі ўраджэнцы Мінска і ваколіц. Летам 1920-га, падчас Варшаўскай бітвы, мінчукі адзначыліся мужнасцю і гераізмам, за што вайсковая адзінка была ўзнагароджана ганаровым сцягам з сярэбраным арлом. У кастрычніку таго ж года полк удзельнічаў у так званым «мецяжы Жалігоўскага», падчас якога польскія войскі акупавалі Вільна. У 1921 годзе гэтае падраздзяленне атрымала назву Палка Мінскіх стралкоў войска Сярэдняй Літвы. Пасля «афіцыйнага» ўваходжання Вільна ў склад Другой Рэчы Паспалітай, «мінскі полк» быў пераведзены з Вільна ў памежнае Маладзечна. Тады ж ён атрымаў 86-ты нумар. Пры гэтым адзін з батальёнаў палка размясціўся ў Красным, а запасны батальён застаўся ў Новай Вільні.

Вайсковае камандаванне Другой Рэчы Паспалітай зрабіла стаўку на Маладзечна як на адзін з галоўным сваіх фарпостаў у Заходняй Беларусі. Таму ўжо ў 1924 годзе было прынята рашэнне аб пачатку будаўніцтва вайсковага гарадку ў фальварку Геленава. Тут былі пабудаваны каменныя казармы для радавых, дамы для афіцэраў і іх сем'яў, а таксама іншая, неабходная для вайсковага гарнізону інфраструктура. У сярэдзіне 1920-х гадоў у новым гарнізоне размяшчалася каля 70 афіцэраў і 2200 жаўнераў. Штогод у палку праходзіла службу каля тысячы навабранцаў. У 1929 годзе фальварак увайшоў у склад Маладзечна. У гэтым жа годзе на паўночнай ускраіне горада была пабудавана трыумфальная брама ў гонар Юзафа Пілсудскага. Дарэчы, гэтая пабудова перажыла Другую сусветную вайну і была разбурана па загадзе гарадскіх уладаў ужо савецкага Маладзечна.

Адным з жаўнераў 86-га палка мінскіх стралкоў быў Тэадор Вартэцкі. Яму давялося праходзіць службу ў толькі што збудаваных у Маладзечна кашарах. Паводле дакументаў, якія захаваліся ў яго блізкіх, мы можам зрабіць выснову, што мінскія стралкі ўвесь час праходзілі вайсковыя зборы і актыўна рыхтаваліся да магчымых вайсковых дзеянняў. Гэтая інфармацыя пацвярджае тое, што Маладзечна было важным стратэгічным цэнтрам усходніх ускраін Другой Рэчы Паспалітай. Часта жаўнераў 86-га палка накіроўвалі на палігон, дзе тыя адпрацоўвалі тактыку барацьбы супраць наступаючых пяхотных і танкавых падраздзяленняў ворага. У 1932 годзе Тэадор Вартэцкі скончыў Падафіцэрскую школу і да верасня 1939 года працягваў службу ў маладзечанскім гарнізоне. Падчас Другой сусветнай вайны Вартэцкі ўдзельнічаў у баявых дзеяннях супраць нацыстаў, а пасля вайны жыў у Польшчы, дзе і памёр у 1990 годзе.

## Старыя пабудовы

У верасні 1939 года 86-ты пяхотны ў ліку іншых злучэнняў Войска Польскага, якія да вайны знаходзіліся ў Заходняй Беларусі, быў перакінуты ў цэнтральную Польшчу. У складзе 19-й пяхотнай дывізіі мінскія стралкі ўдзельнічалі ў абароне Пёрткава-Трыбунальскага. Але фронт хутка каціўся на Усход. Пасля жорсткіх баёў на польскай зямлі астаткі 86-га палка апынуліся пад Гродна, а пазней, пасля пачатку «вызвольнага паходу» Чырвонай Арміі, «мінчукі» склалі зброю.

У Маладзечна да сённяшняга дня недалёка ад будынку чыгуначнага вакзала на вуліцы Таўлая захаваўся дом, пабудаваны ў 1925 годзе па праекту Юліяна Лісецкага ў «закапанскім стыле». Як адзначае беларускі даследчык Уладзімір Садоўскі, гэты дом быў прызначаны для сямей афіцэраў Корпуса аховы памежжа і чыноўнікаў Маладзечанскай гміны. Тут было 14 камфартабельных кватэр. У кожнай былі памяшканні для прыслугі. «Вайсковае» прызначэнне дома выдае бетонны бункер, які знаходзіцца ў двары дома. Гэта былы склад зброі.

У былым фальварку Геленава (зараз гэта вуліца Чкалава) захаваліся два двухпавярховыя дамы на 12 кватэр для падафіцэраў і іх сем'яў. Як адзначае ўсё той жа Уладзімір Садоўскі, гэта тыповыя пабудовы, спраектаваныя па замове Міністэрства абароны Другой Рэчы Паспалітай. Метраж двухпакаёўкі ў такіх дамах складаў 55 квадратных метраў. Да таго ж для кожнай сям'і прадугледжвалася кладоўка на цокальным паверсе.

У пачатку 1930-х гадоў у Маладзечна ў стылі функцыяналізму пабудавалі два 18-кватэрных дома для афіцэраў і іх родных. Дарэчы, падобныя дамы можна да сённяшняга дня сустрэць і ў Польшчы. Гэта быў тыповы «вайсковы» праект архітэктара Уладзіслава Палкоўскага, які рэалізоўваўся ў шматлікіх гарнізонах Войска Польскага. Каля аднаго з гэтых дамоў знаходзіцца цікавы артэфакт, а менавіта каналізацыйны люк, зроблены ў даваенны час прыватнай польскай фірмай з Грудзёнза. Яго брата-блізнюка сёння можна ўбачыць у цэнтры польскай сталіцы ля аднаго з даваенных дамоў. У двары амаль кожнай з гэтых пабудоў знаходзіцца старыя бомбасховішчы. У іх наяўнасці няма нічога дзіўнага. У 1920–1930-я гады Маладзечна знаходзіўся амаль на самай савецка-польскай мяжы. Ды і ў верасні 1939 года, калі пачалася Другая сусветная вайна, гэтыя схроны ўратавалі не адно жыццё.

Недалёка ад гэтага месца знаходзіцца яшчэ адзін цікавы архітэктурны артэфакт, а менавіта будынак былога афіцэрскага клубу, у якім зараз знаходзіцца Мінскі абласны драматычны тэатр. «Kasyno oficerskie» было найбольш папулярным месцам адпачынку афіцэраў мінскага пяхотнага палку. Нарэшце, у міжваенны час у Маладзечна было пабудавана некалькі афіцэрскіх аднатыпных 8-кватэрных дамоў, якія захаваліся да нашага часу.

Як адзначаюць жыхары некаторых з «панскіх» пабудоў, дамы былі зроблены якасна, і жыць у іх да сённяшняга дня вельмі ўтульна.




Мінскі абласны драматычны тэатр у Маладзечна, былы афіцэрскі клуб 86-га пяхотнага палка



Рэзервісты 86-га палка мінскіх стралкоў, 1930-я г.



Аружэйка ля афіцэрскага дома КАП на вул. Таулая

# «Мае дзеці выраслі беларусамі»



Сяргей ЧЫГРЫН

**У Кушлянах актыўна дзейнічае музей-сядзіба Францішка Багушэвіча, які шмат гадоў узначальвае беларускі літаратар, педагог, улюбёны ў родны край чалавек — Алесь Жамойцін. Спадар Алесь пагадзіўся пагутарыць са мной пра Кушляны, пра сваё жыццё-быццё і творчасць.**

***— Ваш першы паэтычны зборнік «Азірнуўшыся — не скамянею» быў вельмі прыхільна сустрэты чытачамі і станоўча ацэнены крытыкамі. Хто дапамагаў у выданні зборніка, як тады пісалася, друкавалася, адзначалася?***

— Зборнік вершаў выйшаў у 1989 годзе. Ужо год мы шчыравалі над стварэннем годнага музея Францішка Багушэвіча ў Кушлянах. Пісалася тады і друкавалася на ўздыме. Час быў цікавы і насычаны падзеямі. Дапамог надрукаваць зборнік мне шаноўны мой настаўнік па ўніверсітэту і ў паэзіі Ніл Гілевіч. Большасць вершаў і паэмы былі напісаны ў Закарпацці ў час працы маёй на чыгунцы з 1985 па 1988 гады. Кожны месяц выпадала паездка на Украіну, а там сам Бог дыктаваў мне ў вушы паэму за сем дзён. Гэта была фантастычная прадуктыўнасць. Так інтэнсіўна мне не пісалася больш нідзе і ніколі. Вытлумачыць можна хіба толькі тым, што горы для паэтаў заўсёды былі паратункам на выхадзе з чалавечага балота…

Вельмі блізка ў той перыяд сышоўся і з беларусамі ў Вільні, якія групаваліся вакол Зоські Верас. Сёння ўспаміны пра тыя сустрэчы напаўняюць сэрца асаблівым цяплом і энтузіязмам у беларушчыне, нагадваюць пра той цяжар адказнасці, які ляжыць цяпер на нашых плячах. Яшчэ паспеў, працуючы ўжо ў Кушлянах, звазіць некалькі разоў смаргонскую інтэлігенцыю на сустрэчу з маімі віленскімі сябрамі. Экскурсію па Вільні ім праводзіў Лявон Луцкевіч. Перад домам, дзе жыў у свой час Сыракомля, нечакана для мяне самога, усплыла дадатковая інфармацыя пра тое, што падчас паўстання ў Сыракомлевай кватэры жылі Каліноўскі і Далеўскі, як яны вучылі дзяцей Сыракомлі рускай мове, рыхтуючы іх для паступлення ў гімназію. Шаноўны спадар Лявон падзякаваў за такое істотнае дапаўненне, а я яшчэ ўсцешыўся і тым, што інфармацыя мінулага арганічна ўвайшла дзейным чыннікам у сучаснае жыццё.

***— У вас адкрывалася вялікая магчымасць застацца ў Мінску, працаваць у якім-небудзь літаратурным выданні, а вы з'ехалі ў глыбінку. Чаму?***

— Чаму з'ехаў у глыбінку? З маёй біяграфіі шырокаму колу невядомы другі бок маёй сціплай дзейнасці. З 1984 па 1989 гады я вучыўся ў аспірантуры ІМЭФ, даследаваў беларуска-польскія культурныя сувязі, а па сваёй ініцыятыве, — яшчэ і народна-вызваленчы рух XIX стагоддзя. Даволі шмат часу я правёў у архівах і бібліятэках Мінску, Вільні і Львова. Значная частка матэрыялаў апублікаваная, а яшчэ большая — карыстаецца пры экскурсійнай рабоце ў музеі і цяпер. З вялікай цеплынёй і ўдзячнасцю ўспамінаю сустрэчы і кансультацыі такіх шчыравальнікаў на гэтай ніве, як С. Александровіча, Г. Кісялёва, Г. КахаНоўскага, І. Цішчанку, А. Ліса, Я. Янушкевіча. Была, сапраўды, тады магчымасць застацца ў Мінску і працаваць у Інстытуце літаратуры і г.д., але я па сваёй прыродзе — адзіноснік, мне трэба, каб пад нагамі ў мяне была жывая зямля, а не гарадская «шпакоўня». Вось гэта, у большай ступені, і прадыктавала мой выбар. І яшчэ, — у 1988 годзе мне ўжо добра была вядомая «кухня» і літаратурных выданняў, і навуковых устаноў. І яна мяне, мякка кажучы, не задавальняла. Сёння, праз 27 гадоў пасля прынятага тады рашэння, кажу ў поўнай яснасці розуму і без пантовасці: усё зрабіў я правільна — малайчына!

***— Дый у горадзе і ў вёсцы вельмі розныя, як кажуць рытмы жыцця…***

— У горадзе і ў вёсцы сапраўды розныя рытмы жыцця: у горадзе — джазавы, у вёсцы — вальсавы. Жыццё чалавека выбудоўваецца ў пастаянным імкненні падладжваць свой рытм у сугучча Зямлі і Сусвету. Калі гэта атрымліваецца, — чалавек становіцца паспяховым. Я прыехаў у Кушляны з сям'ёю 33-гадовым дзяцюком (як казаў бы наш Кастусь Каліноўскі) і арганічна ўвайшоў у вясковае жыццё. Хадзіць за плугам, сеяць, касіць, упраўляцца з коньмі, — гэтаму быў навучаны змалку. Для мяне — гэта вялікая рамантыка і паэзія рассеяць самому зярняты на сваю ніву. Ні з якімі выгодамі гарадскімі не параўнаеш гэтае ўпэўненае пачуванне гаспадаром. Праз пару гадоў жыцця ў Кушлянах у мяне спрацавала родавая памяць на некаторыя рэчы і практыкі. Мне аднойчы стала вельмі лёгка па прыкметах заходзячага сонца вызначаць надвор'е на наступны дзень ці прадбачыць надвор'е амаль на тыдзень наперад. Стаў практыкаваць і агучваць. Гэтым сярод мужыкоў і старэйшых людзей займеў высокі аўтарытэт. Асабліва актуальна гэта стала ў касавіцу. Прыкладам, падыходзіць сусед і пытае: «Алесь, як там заўтра з надвор'ем, копкі раскідваць смела, ці пачакаць?..» Трэба адзначыць, што ворагаў сабе гэтымі парадамі я, дзякуй Богу і продкам, не нажыў…

***— Я чуў што вы вельмі любіце коней…***

— Асобная тэма напоўненасці чалавека рытмам і паэзіяй — гэта коні. Іх пастаянная прысутнасць у тваім жыцці. Адно, калі ты бачыш каня, які пасецца на сенажаці, і зусім іншае, калі гэта — твой конь. І ён — частка твайго жыцця. Памятаю, аб'язджаў свайго маладога каня пад сядлом ужо глыбокай восенню. Выбіраў дарогу па полі, каля лесу, на гару, з гары, каб прывыкаў да рознага спосабу язды і хады, ну і каб мне, у выпадку наравістасці, мякчэй было шмякнуцца на зямлю. Але шмякнуцца давялося па другой прычыне і вельмі нечакана. Аборць была новая, фабрычная, у кутках конскага роту намокла і… развязалася. Я пацягнуў правай рукой павярнуць каня з гары ўніз і зваліўся каню пад ногі. Конь спудлаваўся, трохі адскочыў убок і стаў паскубваць траву. Я падняўся, падышоў да яго, спакойна завязаў аборць і раптам — у вялікіх, прыгожых коневых вачах злавіў гарэзлівую ўсмешку, засмяяўся сам і прытуліў даверлівую галаву да сябе ў знак замірэння. Такое не прыдумаеш — яго можна толькі перажыць. Гэта толькі некалькі аргументаў на карысць вясковага жыцця. А самае галоўнае, што мае дзеці выраслі беларускамі ў беларускім асяродку.

***— Пра што сёння думаецца паэту ў правінцыі, пра што марыцца?***

— Дзякуй Богу, і пішацца, і марыцца, і дзеіцца. А паняцце «правінцыя» нам засталося ў спадчыну ад імперыі. На гэты конт нашы продкі адказвалі жартам: «Круці жорны пільна — тутай будзе Вільня!». Кожны на любімым кавалку роднай зямлі павінен стварaць сваю творчую рэальнасць як працяг гармоніі продкаў: ці будзе гэта напісаны верш, ці прыгожая карціна, ці складаная машына, — абы гэта прыдалося для развіцця твайго народу і твяёй Радзімы. Сёння я не распыляю сілы бяздумна, а стараюся сфакусіравацца на самым галоўным і істотным у маім жыцці. Давесці да ладу свае песні, напісаныя за апошнія 27 гадоў, і закончыць працу па мове.

***— Вы з'яўляецеся дырэктарам музея-сядзібы Францішка Багушэвіча. Ці ведае моладзь пра Багушэвіча? Як часта бываюць экскурсіі?***

— Не магу сказаць, што моладзь (як нам таго хочацца) ведае пра Францішка Багушэвіча. Пасля экскурсій прызнаюць, што слаба ведаюць і пра Багушэвіча, і гісторыю — наогул. Ды выказваюць жаданне глыбей спасцігнуць усё гэта. І турысты, і экскурсіі на сядзібе бываюць часта. Па рэйтынгу музей уваходзіць у адзін з пяці асноўных турыстычных маршрутаў Беларусі.

Дарэчы, самыя цікавыя экспанаты трапілі да нас з Польшчы ад нашчадкаў роднай сястры Францішка Ганны. Гэта два родавыя медальёны з мошчамі святых. Адзін з іх вядзе сваю гісторыю з канца 18 стагоддзя і да нашых дзён. Медальёны ахоўныя і вельмі пазітыўна праменяць. Таксама рэчы, якія Ганна сваімі рукамі выштукавала ў казематах на Лукішках з восені 1863 года па восень 1864 года, самаробны абраз, футляр да яго, вышыты драбнюткім бісерам.

***— Якое значэнне, на вашу думку, мае творчасць Францішка Багушэвіча ў лёсе беларусаў, у нашай гісторыі і ў нашым сённяшнім жыцці?***

— Перакананы, што сёння настаў час, калі кожнаму беларусу неабходна ясна і цвёрда абазначыць сваю нацыянальную пазіцыю — і, як ніколі, у мове. Камунікацыя паміж самімі беларусамі на рускай мове пагражае стаць асноваю для стварэння пятай калоны на карысць чужой дзяржавы. Прыклад для нагляднасці ёсць у жывой прыродзе. Салавей заліваецца пералівамі ў садзе, а мы захапляемся — во, салавей спявае. На самай справе, салавей такім чынам дэманструе ўсяму свету, што тут яго тэрыторыя, і ён — са-ла-вей, а не варона. Так і беларусам, каб не зблыталі з воранаю — трэба спяваць сваім галасам; тады і пазнаюць, і прызнаюць. І ў гэтым плане вельмі актуальна гучыць голас Ф.Багушэвіча: «Кожны чалавек павінен любіць свой народ, шанаваць сваю мову і працаваць для свайго Краю!»

Багушэвіча я зразумеў напоўніцу, калі пасядзеў у архівах і пачытаў дзённікі паўстанцаў 1863 года. Вось тады завучаныя ў школе прозвішчы: Сыракомля, Каліноўскі, Багушэвіч раптам да болю асязальна паўсталі каля мяне жывымі постацямі і напоўнілі мяне Сутнасцю. З новым пачуццём адказнасці і ўдзячнасці я панёс жывыя кветкі на Лукішскі пляц. Багушэвіч для мяне — асоба, якая творыць сваю рэальнасць у бесперспектыўных, на першы погляд, варунках. Сярэдні розум у такой сітуацыі выдаў бы «мудрасць» да дзеяння: «Чаго там трапятацца — усё роўна нічога не пераробіш…»

Але Багушэвіч, Каліноўскі і ім падобныя мелі сілу духа з апорaю на продкаў і на Бога; у такой звязцы — колькасць ворагаў не мае значэння…



Сола на дудцы ў выкананні Алеся Жамойціна, 2009 г.



Настаўнік Алесь Жамойцін з вучнямі ў Доцішках, 1979 г.



Музей Францішка Багушэвіча ў Кушлянах

# Што паглядзець у Мінску?

**Набліжаюцца святы, а з імі і шмат выходных дзён. Каб не проста адпачыць, але і духоўна ўзбагаціцца, прапануем агляд культурніцкіх падзей.**

З **16 снежня** ў Цэнтры сучасных мастацтваў (вул. Някрасава, 3) дэманструецца выстава **«Кераміка ночы»** па выніках міжнароднага пленэру па кераміцы «Арт-жыжаль 2014». У пленэры ўдзельнічаў 21 прафесійны мастак з Беларусі, Латвіі, Польшчы, Расіі, Сербіі, Турцыі і Украіны. Керамісты стварылі напольны свяцільнік «Жывога агню» скульптурнага характару ў грамадскім інтэр'еры. Сярод каля 70 кампазіцый выставы — творы вядомага беларускага майстра, кіраўніка пленэру Валеры Калтыгіна — скульптура «Бабёр, якія спявае» вышынёй 170 см, што сімвалізуе радасць свабоднага жыцця ў родным асяроддзі, а таксама «Палаючая кветка» — аб'ёмна-пластычная варыяцыя вышынёй 210 см на тэму беларускіх выцінанак.

З **17 снежня** ў вялікай зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва (пр-т Незалежнасці, 47) экспануецца выстава жывапісу вядомага беларускага мастака Васіля Касцючэнкі **«Каляровыя аповеды».** Мастак прадставіць палотны апошніх гадоў, аб'яднаныя зваротам да вобразу чалавека, які, нягледзячы на ўсе тэхнічныя дасягненні, прагматыку і імклівы рытм існавання, знаходзіць у жыцці месца для пачуццяў і веры, мар і кахання.




З **18 снежня** ў малой зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47) дэманструецца выстава тэкстыльных аб'ектаў Настассі Арайс і Веранікі Фаміной **«Соль зямлі».** У экспазіцыі — пласканыя і прасторавыя формы з воўны. Аўтаркі прапануюць у нібыта простых аб'ектах адшукаць і адчуць асноўныя жыццёвыя каштоўнасці, непадпарадкаваныя часу, — тое, што завецца соллю зямлі.

З **18 па 23 снежня** ў Палацы мастацтва (вул. Казлова, 3) працуе выстава-кірмаш для сталых людзей **«50 плюс»** — творчыя сустрэчы з пісьменнікамі і акторамі, навукоўцамі і музыкамі, а таксама прэзентацыя кніжнай серыі «Дзеці вайны» выдавецтва «Чатыры чвэрці».

Святочную праграму прапануе Нацыянальны мастацкі музей (вул. Леніна, 20), дзе будуць экспанавацца выставы **«Мастацтва рэстаўрацыі. Магія майстэрства»** і **«Выратаваныя каштоўнасці»,** а таксама адбудуцца сустрэчы са спецыялістамі.

З **19 снежня** ў Цэнтры сучасных мастацтваў адкрываецца навагодні інтэрактыўны выставачны праект **«Арт-Елка».** Цягам месяца наведвальнікі змогуць адчуць усю прыгажосць і казачнасць навагодніх святаў. У выставачнай частцы праекта будуць экспанавацца работы маладых і знакамітых беларускіх мастакоў, а таксама арыгінальныя інсталяцыі і арт-аб'екты ў «елачнай стылістыцы». Свае арт-елкі прадставяць: Марыя Барысенка, Сяргей Шыла, Людміла Дамнянкова, Наталля Аджзер, Ларыса Мілько, Тацццяна Гомза, Маргарыта Макоўская, Юля Багдасар'ян і Людміла Карабань; жывапіс і графіку — Ганна Сілівончык, Глеб Отчык, Сяргей Стальмашонак, Уладзімір Голубеў, Іван Семілетаў, Васіль Пяшкун і Дзяніс Барсукоў. Прыемным дадаткам да святочнай праграмы праекта «Арт-Елкі» стане выстава навагодніх фатаграфічных паштовак.

Інтэрактыўна-забаўляльная праграма праекта ўключае ў сябе серыю спектакляў і перформансаў ад самых незвычайных тэатральных калектываў сталіцы, нясумныя лекцыі, прэзэнтацыю відэа-арт працаў, кінапаказы ў мульт-кіна-зоне, адукацыйны праект «Дзіцячыя Эка-Майстэрні», аўтарскі воркшоп па нестандартнай творчасці ад Аляксандры Страшко, майстар-класы па вырабу навагодніх цацак.

Апроч таго, каля Палацу спорту і на Кастрычніцкай плошчы праводзіцца міжнародны калядны фэст. А з **25 снежня** на праспекце Пераможцаў і ва ўсіх адміністрацыйных раёнах сталіцы пачнуцца **калядныя кірмашы.** З **25 ж снежня** ў кінатэатры «Перамога» (вул. Інтэрнацыянальная, 20) — **Дні нямецкага кіно,** у Літаратурным музеі Максіма Багдановіча (вул. М. Багдановіча,7) — імпрэза **«Калядная зорка Максіма Багдановіча»,** у нацыянальным выставачным цэнтры «БелЭкспа» (вул. Янкі Купалы, 27) — выстава-кірмаш твораў ручной работы **«Млын»,** дзе будуць прадстаўлены працы больш за 500 майстроў, мастакоў і дызайнераў з Беларусі і замежжа.

**Падрыхтаваў Марат Гаравы**







# «Дзень вышыванкі»

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**«Дзень вышыванкі» ў Мінску святкавалі ўжо другі раз, але запатрабаванасць мерапрыемства толькі павялічылася. Суботнім вечарам Палац мастацтваў пераўтварыўся ў кірмаш нацыянальнага хэнд-мэйду і творчай прамысловасці.**



Раней беларусы ў асноўным набывалі рэчы і сувеніры з нацыянальнай сімволікай праз знаёмых ці ў інтэрнэт-крамах (Prastora.by, V-ART-@, Revival Crafts Studio, Elen Carotte ды іншыя). На «Дні Вышыванкі» наведвальнікі мелі ўнікальную магчымасць — уласнымі рукамі памацаць, выбраць і набыць любую рэч з нацыянальнай сімволікай ад тых брэндаў, якія раней бачылі з экранаў сваіх манітораў. На прылаўках было літаральна ўсё неабходнае: вокладкі пад пашпарт, кубкі, падушкі, сшыткі, упрыгожванні... Але цэнтрам продажу, натуральна, стала вышыванка. Яе можна было набыць любых памераў і па самых разнастайных коштах.

На мерапрыемстве працавалі дзве сцэны: адна — у фае, іншая — у канферэнц-зале. У фае праводзіліся разнастайныя

**Наведвальнікі мелі магчымасць уласнымі рукамі памацаць, выбраць і набыць любую рэч з нацыянальнай сімволікай**

конкурсы, пераможцам якіх выдаваліся адмысловыя прызы. На імправізаванай сцэне выступіў этна-дуэт «Вера і Патрыцыя» пры падтрымцы вядомай этнаспявачкі Ірэны Катвіцкай.

У канферэнц-зале Сяргей Доўгушаў, вядучы праекта «Спеўны сход» і саліст гурта «Вурай», зладзіў для ўсіх ахвочых майстар-клас па спевах. Вядомую калядную песню са словамі: «Прыйшла Каляда ўвечары, прынесла пірагі ў рэшаце» спявала адразу некалькі соцень чалавек.

Аматарам татуіровак майстры вывелі хной беларускія арнаменты. А Алесь Таболіч расказаў усім цікаўным пра арнаментальнае тату. Сябры Студэнцкага этнаграфічнага таварыства распавялі пра асаблівасці традыцыйнага строю. На працягу свята арганізатары праводзілі конкурс на лепшы малюнак пад назвай «Беларусь праз 20 год». Мастакі ад стрыт-арт праекта «Signal» размалёўвалі майкі, якія потым адзін з арганізатараў свята Франак Вячорка паспяхова прадаў на святочным аўкцыёне.

Арганізатары заклікалі ўсіх «фоткацца, сэлфіцца і выкладаць усё ў інтэрнэт», бо імі пасля будзе выяўлена лепшая фота са свята, пераможцу якога чакае прыз.

Наведвальнікі мелі магчымасць паслухаць і сучасныя беларускія гурты. На свята завіталі «Amaroka», «Znarock», «Navi». А хэдлайнерам музычнай часткі стаў агульнавядомы «Палац».

Арганізатарам мерапрыемства выступіла грамадская арганізацыя «Арт Сядзіба».

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.

Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Ліц. ЛП №02330/19 от 30.04.2004 №93. Замова № 1700

Падпісана да друку 19.12.2014. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.